Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 42 (4740) 25 кастрычніка 2013 г.

## Пункціраму

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка перакананы ў неабходнасці захоўваць і развіваць Садружнасць Незалежных Дзяржаў як адзіную пляцоўку для дыялогу і выпрацоўкі сумесных рашэнняў. Кіраўнік дзяржавы адзначыў гэта 21 кастрычніка падчас сустрэчы з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі СНД, якая адбылася напярэдадні пасяджэнняў Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў і Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД.

✔ У СНД 2015 год плануецца абвясціць Годам ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, што будзе прымеркавана да 70-годдзя Перамогі. Гэтае пытанне — на парадку дня саміту кіраўнікоў дзяржаў СНД, які цяпер праходзіць у Мінску. Беларусь прымае саміт як краіна, якая сёлета старшынствуе ў Садружнасці.

✔ Культурныя сталіцы СНД 2013 года — Магілёў, Габала (Азербайджан) і Гюмры (Арменія) — перададуць эстафету на 2014 год гарадам Алматы (Казахстан) і Ош (Кыргызстан). Прапанова пра новыя культурныя сталіцы вынесена на разгляд прэзідэнтаў на саміце СНД.

✔ Учора ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася ўрачыстая цырымонія ўзнагароджвання пераможцаў конкурсу маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы «Мост дружбы»-2012. Мэта конкурсу — умацаванне расійска-беларускіх культурных стасункаў, заахвочванне маладых аўтараў.

✔ Дні культуры Венгрыі ў нашай краіне пройдуць у 2014 годзе. Пра гэта паведаміў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Венгрыі ў Беларусі Вілмаш Сіклавары. Чакаецца, што да нас прыедуць як мінімум 50 прадстаўнікоў галіны культуры — мастакі, спевакі, артысты.

✔ Беларуская суполка Малдовы і генеральны дырэктар беларуска-малдаўскага прадпрыемства «Керамін-груп» Г. Бабіна перадалі ў дар Бюро міжэтнічных адносін Малдовы карціну «Дарога» беларускага мастака В. Ігнаценкі. Гэты твор распачне стварэнне пастаяннай экспазіцыі работ жывапісцаў розных нацыянальнасцей, якія жывуць у рэспубліцы.

✔ Першая карціна беларускага мастака В. Ваньковіча вярнулася ў Беларусь. ААТ «Белгазпрамбанк» набыў у прыватнага расійскага калекцыянера «Партрэт паэта Тамаша Зана». Гэта адзіная карціна выбітнага творцы, якая знаходзіцца на гістарычнай радзіме.

✔ Выстаўка работ Ю. Пэна з віцебскага збору будзе прадстаўлена на радзіме мастака, у літоўскім Зарасаі. Папярэдняя дамоўленасць пра арганізацыю экспазіцыі, прысвечанай 160-годдзю вядомага мастака, была дасягнутая падчас наведвання Віцебска літоўскай дэлегацыяй.

✔ У Магілёве пачынаецца традыцыйны кінатыдзень «Тураўская восень». Адкрыецца ён сёння, у дзень нараджэння рэжысёра Віктара Турава, урачыстым мітынгам на Плошчы зорак.

✔ Другі дабрачынны Палацавы навагодні «Баль-маскарад» пройдзе ў Мінску 14 снежня. Атмасферу французскага двара эпохі караля Людовіка XIV створаць у зале прыёмаў Палаца Рэспублікі. Упрыгажэннем вечара стане Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Аркадзя Берына. Падчас свята пройдзе дабрачынны аўкцыён. Сабраныя сродкі пералічаць на аднаўленне беларускіх замкаў.

Падрыхтавала **Ярына РЫТАМІНСКАЯ**



*Фота Кастуся Дробава*



*Міжнародны кангрэс «Бібліятэка як феномен культуры», арганізаваны Міністэрствам культуры і Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, прайшоў у Мінску. Праграма форуму складалася з дзвюх частак: канферэнцыі «Інфармацыйнае грамадства і грамадства ведаў: роля і месца бібліятэк» і выстаўкі «Электронныя інфармацыйныя рэсурсы і сэрвісы». Падрабязнасці — у наступным нумары «ЛіМа».*

*На фота: старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па адукацыі, культуры і навуцы Генадзь Пальчык, міністр культуры Барыс Святлоў і дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Раман Матульскі знаёмяцца з экспанатамі выстаўкі.*

*Асоба*

# Фарбы палачанкі



«Я пішу дакрананнем колераў», — так казала пра сваю творчасць народная мастачка Беларусі Нінель Шчасная.

І сапраўды, многія карціны Нінелі Іванаўны нібыта сатканы з асобных каляровых крупель. Шматслойнасць фарбаў спрыяе адчуванню паветранасці, зіхацення, рухавасці. Раптам здзіўлена заўважаеш, што ў іх ёсць аб'ём, але няма ліній. Вось чаму творы быццам бы ўзнікаюць з паветра і знікаюць у ім.

Нінель Шчасная нарадзілася 25 кастрычніка 1933 года ў Полацку, і гэта запраграмавала яе жыццёвыя і мастацкія каардынаты. У 1954 годзе скончыла Мінскае мастацкае вучылішча, у 1961-м — Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна ў Ленінградзе.

У маі гэтага года пасля працяглай хваробы творца пайшла з жыцця, пакінуўшы пасля сябе шэраг выбітных палотнаў. Нінель Іванаўна добра валодала і жывапісам, і графікай, і дызайнам. Яе работы знаходзяцца ў шматлікіх музеях, галерэях і прыватных калекцыях па ўсім свеце. Сярод знакамітых твораў — карціны «Вясёлка», «Васількі», «Самотная», «Налібоцкая пушча». Н. Шчасная ўвогуле лічыцца непераўзыдзеным майстрам пейзажа, прычым у вельмі арыгінальных тэхніках.

Рукой мастачкі напісаны партрэты Максіма Танка, Уладзіміра Дубоўкі, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Аркадзя Куляшова, Цёткі, Івана Мележа, Андрэя Макаёнка, Максіма Танка. Яна афармляла кнігі Алены Васілевіч, Петруся Макаля, Алега Лойкі ды інш. На аўтапартрэце Нінель Іванаўна ў сваёй знакамітай вязанай шапачцы. Пяшчотна прыжмураныя вочы прыветна ўглядаюцца ў нас. Затоеная ўсмешка. Выразная мудрасць.

Мастачка працавала ў самых розных відах жывапісу — і ў станковым, і ў манументальным. Быў даволі працяглы перыяд творчасці, калі яна захапілася вітражом. Дарэчы, у адміністрацыйным будынку на Юбілейнай плошчы ў Мінску яе вітражы арганічна ўваходзяць у сучасную архітэктуру, якія трымаюць на сабе ўсю сяміпавярховую вертыкаль. А тэмы гэтых твораў — вечныя: «Урадлівасць», «Восень», «Зіма», «Вясна», «Лета», «Папараць-кветка», «Наша Галактыка». Усе яны зліваюцца ў дзівосна-паэтычную сімфонію. У яе вітражах будынка мінскага аб'яднання «Гарызонт» пераважаюць не лозунгава-ідэалагічныя сімвалы, як у некаторых іншых аўтараў, а кветкі і птушкі.

«Кожны мастак павінен рабіць тое, чаго няма. Толькі тады ён не рызыкуе быць другасным», — казала мастачка.

Сёння, 25 кастрычніка, Нінелі Іванаўне споўнілася б 80 гадоў…

**Таццяна ШЫМУК**

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Запавет Францішка Багушэвіча

Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры і Саюз пісьменнікаў Беларусі правялі літаратурную вандроўку па мясцінах, звязаных з жыццём паэта і асветніка.


*Фота Таццяны Ткачовай*

Праект «Літаратурнае падарожжа» існуе з 2012 года. Вандроўкі надзвычай спрыяюць эмацыянальна ўзрушанаму, адкрытаму душэўнаму стану, без якога немагчымая творчасць.

Але вандроўка можа здзейсніцца і рэальна, калі ўдзельнікі на ўласныя вочы бачаць свет пісьменніка, у нашым выпадку — Францішка Багушэвіча. Небавязкова чакаць гучнай даты — можна выправіцца ў падарожжа па закліку душы. Пастаяць каля помніка. Ускласці кветкі на магілу. Наведаць радавую сядзібу. Угледзецца ў наваколле — па вялікім рахунку, яно засталося такім самым, як пры жыцці «мужыцкага адваката»: пагоркі, пералескі, гасцінец... Падзяліцца ўражаннямі з мясцовымі жыхарамі, даведацца, што значыць для іх дзейнасць і спадчына славутага земляка. Менавіта так і адбылася сустрэча з вучнямі і педагагічным калектывам сярэдняй школы імя Ф. Багушэвіча ў вёсцы Жупраны, дзе пахаваны пісьменнік.

У школе працуе самы сапраўдны — навукова арганізаваны — музей творцы. Вучні правялі відэаэкскурсію для гасцей, засяродзіўшы ўвагу на новай інфармацыі: лёсе ўнучкі Ф. Багушэвіча Станіславы Тамашэўскай і ўшанаванні яго памяці за межамі Беларусі. У адказ паэты Генадзь Пашкоў, Анатоль Кудласевіч, Ала Клемянок, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч і супрацоўнік «ЛіМа» Таццяна Студзенка падзяліся з гаспадарамі з уласнай творчасцю і жыццёвым досведам. Амаль кожны адзначыў празорлівасць Ф. Багушэвіча, які перадусім клапаціўся пра захаванне народнай мовы — асновы быцця народа, яго самастойнасці і светапогляду: «Не пакідайце ж мовы нашай, беларускай, каб не ўмёрлі...»

**Лея ХАШЫМБА**

# Зацікаўленая размова

У Доме літаратара прайшоў «круглы стол» на тэму «Духоўна-маральныя асновы сямейных каштоўнасцей». Арганізатары мерапрыемства — Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і Мінская епархія Праваслаўнай Царквы. Удзел узялі святары, пісьменнікі, педагогі, вучоныя, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. Ішла зацікаўленая размова пра сямейнае выхаванне, фарміраванне духоўна-маральных асноў у сям'і і грамадстве, удзел шырокай грамадскасці, дзяржавы і царквы ў гэтай няпростай справе. Сярод асноўных дакладчыкаў былі доктар багаслоўя, прафесар, протаіерэй Сергій Гардун, настаяцель Прыхода храма праведнай Сафіі Слуцкай у г. Мінску, протаіерэй Анатоль Мазгалеўскі, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, галоўны рэдактар газеты «Воскресение» Алена Міхаленка, прадстаўнік Мінскага сходу нашчадкаў шляхты і дваранства Уладзімір Аркадзьеў ды інш. Вершы духоўнай тэматыкі прагучалі ў выкананні паэтаў Міхася Башлакова, Лізаветы Палеес, Аліны Легастаевай, Таццяны Лейка, Вольгі Сакаловай і Вольгі Шпакевіч. Удзельнікі «круглага стала» з прыемнасцю паслухалі песні ў выкананні ансамбля духоўнай музыкі «Песнаслоўцы» пад кіраўніцтвам Ганны Лыскавец, а таксама кампазітара і спявачку Тамару Кашчэву.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Індыя. Бліжэй да Беларусі


*Фота БелТА*

У Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі адбылася цырымонія падпісання праграмы супрацоўніцтва паміж урадамі Беларусі і Індыі ў галіне культуры, мастацтва і адукацыі на 2014 — 2016 гады. Ад імя ўрада Беларусі праграму падпісаў міністр культуры нашай краіны Барыс Святлоў, ад імя індыйскага боку — міністр культуры Індыі Чандрэш Кумары Каточ.

Паводле міністра культуры Індыі, мэтай яе візіту было вывучэнне магчымасцей абмену студэнтамі, а таксама творчых стасункаў паміж тэатрамі, бібліятэкамі, музеямі. «Павінна сказаць, што тэатры, якія існуюць у Індыі, нельга параўнаць з беларускімі. Таму падобны абмен быў бы важны для нашай краіны», — лічыць Чандрэш Кумары Каточ.

Як зазначыў Барыс Святлоў, адносіны ў сферы культуры паміж Беларуссю і Індыяй развіваюцца з 1993 года, калі было падпісана агульнае пагадненне, якое ўключала пытанні не толькі культуры, але і спорту, адукацыі, інфармацыі. «З 2009 года ўтварыўся нейкі прававы вакуум, хоць кантакты ў галіне культуры не спыняліся. Падпісанне гэтага дакумента сведчыць пра тое, што мы ствараем добрую платформу і юрыдычную базу для пашырэння нашых сувязей у далейшым», — падкрэсліў міністр культуры Беларусі.

Адказваючы на пытанне пра магчымасць стварэння беларуска-індыйскага кінапрадукту, Барыс Святлоў удакладніў: «Пытанні кінавытворчасці ў Індыі цяпер знаходзяцца ў кампетэнцыі не Міністэрства культуры, а Міністэрства інфармацыі. Перашкодай з'яўляецца той факт, што ўвесь кінематограф Індыі прыватны. Калі мы будзем наладжваць кантакты, то гэта варта ў першую чаргу рабіць не праз выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу з боку Індыі — трэба зацікавіць прыватныя кінастудыі».

Чандрэш Кумары Каточ, у сваю чаргу, дадала, што Індыя зацікаўлена ў правядзенні тыдняў беларускага і індыйскага кіно на тэрыторыі дзвюх краін. «Індыйскія фільмы былі папулярныя ў Савецкім Саюзе, і я думаю, што фестывалі індыйскага кіно могуць праходзіць у Беларусі, а беларускія фільмы могуць быць прадстаўлены індыйскаму гледачу», — упэўнена міністр культуры Індыі.

Міністры культуры Беларусі і Індыі абмеркавалі кірункі, у якіх магло б развівацца ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва дзвюх краін. У прыватнасці, абмяркоўвалася магчымасць правядзення ў 2014 годзе Дзён культуры Беларусі ў Індыі, а ў 2015-м — Дзён культуры Індыі ў Беларусі. Акрамя таго, індыйскі бок праяўляе вялікую цікавасць да супрацоўніцтва нацыянальных бібліятэк, фальклорных калектываў.

**Таццяна ШЫМУК**

# Паэзію ў жыццё!

XIII Мінскія паэтычныя чытанні адбыліся ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы.

На сустрэчу з чытачамі прыйшлі пісьменнікі Навум Гальпяровіч, Анатоль Аўруцін, Валянціна Паліканіна, Уладзімір Мазго, Таісія Трафімава, Таццяна Лейка, Ірына Тулупава, Іна Фралова, Маргарыта Латышкевіч, Людміла Клачко, кампазітар і выканаўца Аляксандр Якіменка.

Вядучы імпрэзы Міхась Пазнякоў адзначыў, што ў кастрычніку беларусы спрычыніліся да падзей, звязаных з ушанаваннем памяці паэта Сяргея Грахоўскага, падзяліўся ўспамінамі пра творцу. М. Пазнякоў распавёў пра кніжныя серыі, заснаваныя Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі.

На вечарыне гучала шмат вершаў сталых і маладых літаратараў на рускай і беларускай мовах, спяваліся песні на словы класікаў беларускай літаратуры і сучасных аўтараў. Навум Гальпяровіч прачытаў урыўкі з паэмы «Адзінае», якая нарадзілася пасля вандроўкі пісьменніка ў Кітай (яна будзе надрукавана ў наступным нумары «ЛіМа»), пранікнёна прагучалі вершы Валянціны Паліканінай, прысвечаныя маці. Прыязна сустрэлі слухачы распавед і вершы, прысвечаныя Міхалу Клеафасу Агінскаму, з вуснаў Таісіі Трафімавай. Паэт Уладзімір Мазго згадаў нядаўні канцэрт памяці Якава Навуменкі і прачытаў свае вершы-песні, якія выконваў спявак.

Непаўторны каларыт у сустрэчу прыўнеслі госці з Чалябінска: паэты Міхаіл Прыдвораў і Яніс Грантс ды выдавец Марына Волкава, якія знаходзяцца ў Беларусі па запрашэнні бібліятэкараў. Іх арганічная руская мова, дасціпнасць, майстэрскае валоданне словам слухачы віталі заслужанымі апладысментамі.

**Рыта СТАХ**

*Фестывалі*

# Музыка стагоддзяў

Значная падзея — фестываль «Гучаць старадаўнія арганы Пастаўшчыны» — упершыню адбылася ў музычнай сталіцы Паазер'я. Канцэрты праходзілі ў чатырох цудоўных храмах, размешчаных у самім райцэнтры, гарадскіх пасёлках Лынтупы і Камаі, вёсцы Лучай.

Сярод ганаровых гасцей фэсту — прэлат, прадстаўнік Рыма Дон Карнэліа, ксёндз-прэлат Уладзіслаў Завальнюк, пробашч касцёла Святых Сымона і Алены (г. Мінск), дыпламат і пісьменнік Уладзімір Шчасны, ініцыятар правядзення фэсту, быць намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі. Фестываль арганізаваны пры падтрымцы Пастаўскага райвыканкама, Беларускай дзяржаўнай філармоніі, прыхода касцёла Святога Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Паставах, дзе і распачалося канцэртнае дзейства. Выкладчыца Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў, лаўрэат міжнародных конкурсаў Кацярына Нікалаева і выдатны трубач, ураджэнец гэтых мясцін Валерый Кетрыс выканалі музычны твор «Фанфары».

На працягу двух дзён дарылі слухачам свята арганнай музыкі народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ігар Алоўнікаў, саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі, лаўрэат міжнародных конкурсаў Канстанцін Шараў, салістка полацкай канцэртнай залы «Сафійскі сабор», лаўрэат міжнародных конкурсаў Ксенія Пагарэлая. Вяла канцэрты дыктар Беларускага радыё Маргарыта Захарыя. Слухачы з вялікім задавальненнем успрымалі музыку... Храм пакідалі з прасветленымі тварамі — здаецца, дзеля гэтага і з'явіўся новы фестываль.

— Высокае мастацтва не мае межаў і правінцый, а Паставы ніколі і не былі правінцыяй, ні ў XVII, ні ў XVIII стагоддзі, — падкрэсліў Тадэуш Стружэцкі. — Сёння гэта горад, які добра ведаюць не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах свету. Горад высокай мастацкай культуры, дзе выступаюць лепшыя творчыя калектывы з розных дзяржаў.


*У касцёле святога Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі.*

Сярод музычных інструментаў менавіта арган па багацці гучання і выразнасці мае самае пачэснае месца і тытул караля інструментаў. Сёння ў Беларусі налічваецца каля ста арганаў. Але, на жаль, не ўсе яны запатрабаваныя. Магчыма, у нашай краіне пачне ажыццяўляцца праграма па адраджэнні арганнай музыкі. Каб айчыннае інструментальнае багацце загучала на поўную моц і паслужыла на карысць людзям.

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

За падзеяй

# Родны для ўсіх?



Сяргей Гаранін: «Тувім быў паэтам, які злучаў народы».

Працягваюцца мерапрыемствы ў межах Месяца польскай літаратуры ў Мінску.

Так, у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН працуе кніжная выстаўка «На крылах верша», прысвечаная польскаму паэту Юльяну Тувіму. Дарэчы, у самой Польшчы 2013-ы абʼяўлены яго годам. Так выказаў пашану да айчыннага класіка польскі Сейм. Да таго ж, сёлета — 100-годдзе першай публікацыі паэта і 60 год, як творца сышоў у іншы свет.

Усе кнігі, прадстаўленыя на выстаўцы, захоўваюцца ў бібліятэцы. Экспазіцыя адкрываецца вершамі і паэмамі Юльяна Тувіма. Найбольш каштоўныя — прыжыццёвыя выданні «Czary i czarty polskie» 1924 года і вершы 1943 года. Апошнія — бібліяграфічная рэдкасць, бо выданні ваенных часоў захаваліся ў невялікай колькасці. Выстаўлены таксама пераклады Юльяна Тувіма. У гэтым спісе — Грыбаедаў, Маякоўскі, «Слова пра паход Ігаравы».

Наступны раздзел — пераклады твораў самога Тувіма на беларускую мову. Так, самыя папулярныя яго дзіцячыя вершы загучалі па-беларуску дзякуючы Эдзі Агняцвет; перастваралі паэзію польскага класіка Анатоль Вялюгін, Сяргей Дзяргай, Максім Танк, Язэп Семяжон, Васіль Сёмуха, Алег Лойка, Уладзімір Мархель. Акрамя таго, супрацоўнікі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН вырашылі прыадчыніць «творчую лабараторыю»: як беларускія паэты перакладалі Юльяна Тувіма? Дзеля гэтага былі выкарыстаныя матэрыялы з архіўнага фонду Максіма Лужаніна: у экспазіцыі выстаўленыя машынапісы яго перакладаў Тувіма, з усімі выпраўленнямі і аўтарскімі пазнакамі.

— Нашаму чытачу Тувім вядомы перадусім як дзіцячы паэт, — распавядае кандыдат філалагічных навук Сяргей Гаранін. — Але ён — і гэта добра прадстаўлена на выстаўцы — быў не толькі дзіцячым аўтарам. Тым не менш чалавек, які здолеў паглядзець на свет вачыма дзіцяці, здолеў асвоіць яго мову і загаварыць на ёй з дзіцём, аказваецца ў нашмат лепшым становішчы, чым любы іншы пісьменнік. Бо ён спадарожнічае чалавеку цягам усяго яго жыцця. І ў гэтым перавага Тувіма. Паэзія яго шматгранная: там ёсць і элегіі, і любоўная лірыка, і вершы палітычнага, вострага грамадскага гучання. У Тувіма была адна значная рыса: ён быў паэтам, які ў сваёй творчасці злучаў народы. У яго былі цудоўныя стасункі з рускімі паэтамі. Так, для дзяцей ён стаў пісаць, бо яго падштурхнуў да гэтага Маякоўскі. Ён быў блізкі па сваім светапоглядзе да беларускай традыцыі. Шмат часу ён правёў на Захадзе, увабраў у сябе традыцыі яўрэйскай літаратуры і культуры, што была моцна пашыраная ў той час у Польшчы. Такая шматграннасць зрабіла яго родным паэтам для ўсіх.

Пра «загадку Тувіма» разважаў таксама навуковец Мікалай Хмяльніцкі. Інэса Курʼян, даследчыца і перакладчык, заўважыла, што сучасныя дзіцячыя аўтары могуць шмат у чым павучыцца ў Тувіма, які ствараў стагоддзе таму.

**Анастасія ГРЫШЧУК,**
**фота аўтара**

# Дакраніся да струн сваім сэрцам

Паэтычна-музычная імпрэза, прысвечаная 95-годдзю паэмы «Сымон-музыка», адбылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.

Сімвалам вечара стала скрыпка, якая, на жаль, праспявала толькі адзін раз, але запомнілася. Дарэчы, як і радкі любімай яшчэ з дзяцінства паэмы. З цёплай, прачулай інтанацыяй гучалі ўрыўкі з «Сымона-музыкі» ў выкананні Міхася Міцкевіча, малодшага сына Якуба Коласа, і артыста Алега Вінярскага.

Паэма «Сымон-музыка» — невычэрпная крыніца натхнення для ўсіх відаў мастацтва. У розныя гады дзеячы музычнага, тэатральнага і кінамастацтва спрабавалі па-свойму ўвасобіць перліну беларускай літаратуры ў слове, фарбе, музыцы.

Ілюстрацыі да паэмы ў розныя гады стваралі выдатныя мастакі: Эдуард Агуновіч, Віктар Александровіч, Міхаіл Барздыка, Мікола Селяшчук, Галіна Шапялевіч ды іншыя. Уладзімір Шоўк, які завітаў на імпрэзу, працаваў над афармленнем выдання 2001 года. Мастак-дызайнер адзначыў: «Добры ілюстратар ведае, што ён не мае права перашкаджаць тэксту, перацягваць увагу на сябе, асабліва калі мае справу з магутным, вядомым творам. Малюнкі павінны ствараць настрой, спрыяць разуменню, не болей. Асноўныя прынцыпы ілюстратара — лаканізм, уважанасць кожнай рысы, павага да аўтара».

Алег Вінярскі, у сваю чаргу, падзяліўся з прысутнымі не менш цікавым меркаваннем: «Сымон — сапраўдны герой нашага часу. Ён праходзіць праз пакуты, ахвяры і боль, але імкнецца, нягледзячы ні на што, зрабіць жыццё іншых людзей лепшым».

Нейкая карміčнасць ёсць у тым, што паэму называюць шматпакутнай, як і яе героя, вясковага музыку, носьбіта таленту і паэтычнай душы беларускага народа. Тэкст твора меў тры рэдакцыі, прычым з кожнай звязана асобная гісторыя.

«Першы раз паэма была поўнасцю запісана ў 1918 годзе. Але з цягам часу змяніліся абставіны, пачалося бурнае развіццё беларускасці, і аўтар пабачыў, што трэба змяніць фінал», — прыгадаў Міхась Міцкевіч, малодшы сын Якуба Коласа.

Трагічная канцоўка, дзе Ганна памірае, а Сымон прыходзіць на могілкі, каб пабачыць здань каханай, цалкам пераасэнсоўваецца паэтам. У апошнім варыянце твора скрыпач лечыць хворую дзяўчыну сваёй музыкай, і яны «рука ў руку» ідуць «сваёй пуцінай».

Напэўна, няма мінчаніна, які не бачыў велічны помнік Якубу Коласу на плошчы, што носіць яго імя. Скульптар Заір Азгур невыпадкова ўключыў у скульптурны комплекс Сымона і Ганну, галоўных герояў паэмы, бо яны ўвасабляюць моц, талент і прыгажосць беларусаў.

«Заір Азгур пазнаёміўся з народным песняром у 1924 годзе, калі першы раз прыехаў у сталіцу Беларусі. Скульптар вельмі хваляваўся, бо трэба было ляпіць вобраз паэта з натуры. Якуб Колас чамусьці здаваўся яму надзвычай суровым чалавекам. Але праз кароткі час меркаванне змянілася: пісьменнік пазіраваў спакойна, забаўляў скульптара ўрыўкамі з твораў, жартамі — словам, не даваў сумаваць. Заір Азгур вельмі добра ведаў творчасць Якуба Коласа, але больш за ўсё яму падабалася паэма «Сымон-музыка», якую ён нават чытаў на памяць», — распавёў супрацоўнік Мемарыяльнага музея-майстэрні З. Азгура ў Мінску Васіль Матыліцкі.

Гасцям вечара быў прапанаваны ўрывак з містэрыі «Сымон-музыка», створанай паводле паэмы рэжысёрам Мікалаем Пінігіным, а таксама пачуць частку аднайменнай сімфанічнай паэмы кампазітара Алега Хадоскі.

**Марыя ВОЙЦІК**

# «Натхненню» — 20!

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбыўся творчы вечар клуба паэзіі «Натхненне». Святочнай нагодай для чарговай сустрэчы стаўся 20-гадовы юбілей клуба. Вечар атрымаў назву «Радкі, напісаныя сэрцам».

Літаратурны клуб створаны пры Рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў. У 2011 годзе «Натхненню» было прысвоена званне народнага калектыву Беларусі, а ў 2012 годзе яго ўдзельнікі сталі лаўрэатамі фестывалю народнай творчасці «Сузор'е».

Юбілей супаў са святкаваннем Дня маці. Таму паэтычныя творы і песні, якія гучалі на вечарыне, былі напоўнены асаблівай цеплынёй і пяшчотай.

«Натхненню» ўжо дваццаць. На рахунку клуба нямала дасягненняў. За гады яго існавання выйшлі ў свет шматлікія паэтычныя зборнікі. Сярод іх — калектыўныя («І госпада мая, і мой храм», «На крылах натхнення» і інш.), а таксама аўтарскія. У паэтаў, удзельнікаў клуба, багата творчых планаў, якія абавязкова павінны здзейсніцца.

Удзельнікамі літаратурнага клуба «Натхненне» з'яўляюцца не толькі мінчане. Аўтары прыязджаюць з Узды, Фаніпаля, Шчучына і іншых раённых цэнтраў. Кожная сустрэча — гэта добрая магчымасць паслухаць паэзію і песні, сустрэцца з чытачамі і калегамі-творцамі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**




# : новы фармат

21 кастрычніка стартаваў ІІІ Рэспубліканскі конкурс літаратурнай творчасці студэнтаў «БрамаМар». Конкурс існуе як студэнцкі праект у межах творчай лабараторыі «Крытыка» Інстытута журналістыкі БДУ (куратар — Марына Елістратава) і атрымаў у гэтым годзе падтрымку не толькі вядучых беларускіх СМІ (Выдавецкі дом «Звязда», выдавецкі дом «Адукацыя і выхаванне» і інш.), але і афіцыйных устаноў адукацыі: Міністэрства адукацыі РБ, Мінскага абласнога інстытута развіцця адукацыі, Нацыянальнага інстытута адукацыі.

«БрамаМар» праходзіць у традыцыйным фармаце: два туры, прафесійнае журы, майстар-класы ў фармаце кожнай намінацыі. Для конкурсу галоўным застаецца тэзіс: трэба не толькі імкнуцца да перамогі, але і вучыцца. Новае літаратурнае пакаленне чакаюць сустрэчы з членамі журы, сярод якіх — вядомыя пісьменнікі, літаратурныя крытыкі, прадстаўнікі беларускіх СМІ, выкладчыкі Інстытута журналістыкі.

Але конкурс не стаіць на месцы. У гэтым годзе пашыраецца не толькі колькасць намінацый («Паэзія», «Проза», «Драматургія», «Пераклад», «Крытыка», «Дзіцячая літаратура», «Белетрыстыка»). Стартуе асобны конкурс для школьнікаў, які дае магчымасць рэалізаваць свае творчыя здольнасці ў намінацыях «Проза» і «Паэзія». Прапануем узяць удзел і атрымаць дадатковую інфармацыю на сайце *www.culture.bsu.by* і ў адпаведнай групе сацыяльнай сеткі «ВКонтакте» *http://vk.com/bramamar.*

**Настасся КАПЦАВА**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніку Дземідовічу Дзмітрыю Аляксандравічу з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

Супрацоўнікі Выдавецкага дома «Звязда» выказваюць шчырыя спачуванні свайму калегу Кузьмічу Кірылу Валянцінавічу і глыбока смуткуюць з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці БАЦЬКІ.

Абрысы

Сустрэча з галоўным рэдактарам часопіса сатыры і гумару «Вожык», пісьменніцай Юліяй Зарэцкай, а таксама даўнімі сябрамі і пастаяннымі аўтарамі гэтага выдання, пісьменнікамі Міколам Чарняўскім і Янусем Мальцам адбылася ў сталічнай бібліятэцы № 9. Слухачы Вучэбнага цэнтра Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь па падрыхтоўцы, павышэнні кваліфікацыі і перападрыхтоўцы кадраў органаў унутраных спраў з цікавасцю слухалі Ю. Зарэцкую, якая распавяла ім пра слаўную гісторыю часопіса «Вожык», яго аўтараў, серыю «Бібліятэка "Вожыка"». Найбольш актыўныя слухачы атрымалі «Вожыкі» з аўтографамі Ю. Зарэцкай, М. Чарняўскага, Я. Мальца, а для бібліятэкі пісьменнікі падпісалі свае гумарыстычныя кнігі.

Пісьменнікі Мінскага гарадскога аддзялення СПБ наведалі Дзіцячы дом № 7, што знаходзіцца на вуліцы Кіжаватава. Мерапрыемства адбылося ў межах Дзён праваслаўнай культуры, якія праходзяць у Мінску па блаславенні Мітрапаліта Філарэта. Перад юнымі выхаванцамі выступілі з вершамі паэты Міхась Пазнякоў, Ніна Галіноўская і Алена Міхаленка. Яны падарылі дзецям свае новыя выданні, а таксама бібліятэчку дзіцячай літаратуры, сабраную дзеля гэтага сталічнай пісьменніцкай арганізацыяй. У дабрачыннай акцыі ўзялі ўдзел і юныя артысты нядзельнай школы Храма праведнай Сафіі Слуцкай.

У Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся канцэрт памяці народнага артыста Беларусі Якава Навуменкі «На паруках настальгіі». Прайшло больш за год, як творца трагічна загінуў у Севастопалі. Пра спевака гаварылі сябры і калегі: вядучая канцэрта Вольга Брылон, кампазітар Алег Елісеенкаў, народны артыст Беларусі Міхаіл Казінец, заслужаная артыстка Беларусі Святлана Суседчык і іншыя. Больш як дзве гадзіны слухачоў радавалі песні, што раней стварыў альбо выканаў сам Якаў Навуменка. Другое жыццё ім далі Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча, ансамбль народнай музыкі «Бяседа», ансамбль казацкай песні «Бацька Атаман», заслужаныя артысты Беларусі Іна Афанасьева, Ірына Дарафеева, Надзея Мікуліч і многія іншыя.

Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага запрашае жыхароў і гасцей горада перанесціся ў 1913 год. Дзякуючы выстаўцы «Гродна сто год таму…» падарожжа ў часе стане цікавым, захапляльным, нават прыгодніцкім. Можна будзе параўнаць, які быў каралеўскі горад і што засталося нам у спадчыну.

# Які ён, беларускі нацыянальны эпас?

Паняцце «эпас» акрамя звыклага значэння «адзін з трох родаў мастацкай літаратуры» ўтрымлівае ў сабе таксама іншы сэнс і выкарыстоўваецца для абазначэння розных тыпаў літаратурных твораў, пры гэтым у розных даведачных выданнях часам да тэрміна «эпас» дадаюцца азначэнні «гераічны», «народны».

Літаратуразнаўчы энцыклапедычны слоўнік тлумачыць гераічны эпас наступным чынам: «Гераічны аповед пра мінулае, які змяшчае цэласную карціну народнага жыцця і паказвае ў гарманічным адзінстве пэўны эпічны свет і герояў-волатаў. <…> Часам гераічны эпас называюць народным».

Але яшчэ раней рускім вучоным-фалькларыстам Уладзімірам Пропам сцвярджалася: «Прыкмета гераічнага зместу з'яўляецца вырашальнай толькі ў спалучэнні з іншымі прыкметамі эпасу».

Беларускі даследчык Вячаслаў Рагойша ўказвае: «Эпас народны — фальклорныя творы казачна-легендарнага зместу, якія адлюстроўваюць цікавыя, важныя для народа гістарычныя падзеі: эпапея, быліна, дума, гістарычная песня, балада, казка, паданне». Пры гэтым далей ім адзначаюцца ў якасці ўзораў эпасу і такія творы, як «Манас», «Калевала» і некаторыя іншыя.

Як сведчаць пададзеныя азначэнні, у даведачнай літаратуры практычна адсутнічае паняцце «нацыянальны эпас», у той жа час многія сучасныя літаратуразнаўчыя крыніцы карыстаюцца ім. А многія з вядомых айчынных паплечнікаў сярэднявечнай літаратуры і літаратуры пазнейшага часу пазначаюць менавіта такім паняццем. Гэта можа тлумачыцца не толькі недастатковай распрацоўкай праблемы, але і рознымі жанрава-відавымі формамі, якія прадстаўляюць нацыянальныя ўзоры эпасу.

Даследчыцай Тамарай Чабан у дачыненні да прадмета гаворкі некалі было трапна адзначана: «Нацыянальны эпас — гэта тое духоўнае ядро, вакол якога фарміруецца і ўтрымліваецца нацыя, народ. У ім закадзіраваны… мінулае народа і яго будучыня, тыя духоўныя каштоўнасці, арыенціры ў сусвеце, якія вызначаюць яго непаўторнасць, адметнасць гістарычнага шляху». Гэта, магчыма, і ёсць тая характэрная рыса, якая аб'ядноўвае вельмі розныя па часе стварэння, па сваіх мастацкіх адзнаках, жанравай форме ўзоры нацыянальнага эпасу. Няма народа, які не захаваў бы ў сваёй памяці ўспамін пра гераічнае мінулае.

Згадваючы сусветна вядомыя помнікі нацыянальнага эпасу ў еўрапейскіх і іншых літаратурах, нескладана ўбачыць некалькі агульных заканамернасцей: яны ствараліся ў атмасферы найвышэйшага патрыятычнага ўздыму, у час актывізацыі вызваленчай барацьбы, станаўлення незалежнасці. У значнай ступені грамадскімі працэсамі абумоўлена з'яўленне латышскага нацыянальнага эпасу «Лачплесіс», а таксама карэла-фінскай «Калевалы» і інш. Часта ў такіх творах знаходзяць адбітак тыя знакавыя гістарычныя падзеі, якія нацыяй прызнаюцца як вызначальныя ў яе гістарычным станаўленні. Пры ўсім гэтым нацыянальны эпас з'яўляўся на аснове арганічнага спалучэння гістарычнай канкрэтыкі з міфамі, легендамі, фальклорнымі вобразамі, у якіх адбіліся ідэалы і ўяўленні народа, маральна-этычныя каштоўнасці, якімі спрадвеку жыла нацыя.

У той жа час навукоўцамі прызнана, што нацыянальны эпас — гэта не непасрэдны набытак вуснай народнай творчасці. Гісторыя не захавала імёнаў стваральнікаў, напрыклад, нацыянальнага французскага эпасу «Песня аб Раландзе» ці кіргізскага «Манас», але аўтарскі пачатак у гэтых творах праяўляецца дастаткова выразна. Не ў меншай меры прызнаецца заслуга вядомых аўтараў нацыянальнага эпасу — Эліяса Лёнарта ў фінскай літаратуры, Андрэя Пумпура ў латышскай.



*Тамара Юфа. Ілюстрацыя да кнігі «Калевала».*

Большасць твораў нацыянальнага эпасу дайшла да нас у форме гераічнай паэмы, што і дае падставу меркаваць пра яго наяўнасць у культуры пэўнага народа менавіта па гэтым жанры. Але ж у асобных літаратурах свету не захавалася ці зусім не заявіла пра сябе такая жанравая форма, што ў сваю чаргу ставіць пытанне пра наяўнасць нацыянальнага эпасу, напрыклад, у польскай, кітайскай, японскай, і ў тым ліку беларускай літаратурах.

У дачыненні да нашай сітуацыі ў свой час выказалася Тамара Чабан: «Некаторыя пісьменнікі, гісторыкі, фалькларысты лічаць, што беларускі нацыянальны эпас быў калісьці мацерыком — цэласнай, арыгінальнай з'явай, але з-за неспрыяльных варункаў гістарычнага развіцця народа, немагчымасці яго запісу распаўся на асобныя астраўкі, захаваўся ў казках, легендах, паданнях, у старых летапісах… У беларускай літаратуры жыве мара пра ўзнаўленне нацыянальнага эпасу».

Паводле згадак навукоўцаў (Вячаслаў Рагойша, Тамара Чабан), думка пра стварэнне нацыянальнага эпасу выказвалася яшчэ Якубам Коласам, паэмы якога ў пэўнай меры і сталі своеасаблівай формай рэалізацыі гэтай задумы.

Прымаючы папярэдняе сцвярджэнне, хочацца звярнуць увагу не толькі на асаблівасці гістарычнага развіцця беларускага народа, якія, безумоўна, паклалі адбітак на развіццё нацыянальнай культуры, але і на праявы ўнутрана-мастацкіх заканамернасцей, без якіх наўрад ці змаглі б быць рэалізаванымі ў існуючых гістарычных абставінах творчыя задумы.

Беларуская літаратура, як і ўсе іншыя, мела перад сабой не ў меншай меры багатую эпічную традыцыю, якая прадстаўлялася рознымі эпічнымі жанрамі: казкамі, паданнямі, часткова баладамі і былінамі, гістарычнымі песнямі. У XV — XVI стагоддзях беларусы былі ў значнай меры блізкімі да стварэння магчымых узораў нацыянальнага эпасу. Гэтым часам і пазначаецца з'яўленне першых беларускіх твораў паэмнага жанру. Але ж па сваёй жанравай прыродзе яны ўжо далёка не тыя гераічныя паэмы, што ўзніклі ў французскай, англійскай ці нямецкай літаратурах. Творы Яна Вісліцкага, Міколы Гусоўскага ўяўляюць сабой ужо новы ўзор сінтэзаванага паэмнага жанру. Такое было магчыма пры ўмове існавання сфарміраванай творчай традыцыі больш даўняга паходжання, у межах якой і маглі знаходзіцца яркія ўзоры матываў, вобразаў і мастацкіх формул, што былі выкарыстаны пісьменнікамі новага часу. Вось да гэтага можна дадаць асаблівыя сацыяльна-гістарычныя варункі, у якіх працягвала сваё развіццё беларуская літаратура. Адсутнасць адзінай аб'яднаўчай ідэі для народа, дзяржаўную нявызначанасць, безумоўна, нельга назваць спрыяльнымі ўмовамі для стварэння нацыянальнага эпасу. Своеасаблівасць яго якраз і заключаецца ў тым, што «патрэбен цэласны вобраз Айчыны, нацыянальная ідэя, духоўны стрыжань, вакол якога і змажа гуртавацца народ» (Тамара Чабан). У беларускай мастацка-культурнай прасторы гэта ўсё з'явіцца пазней, у пачатку XX стагоддзя. Вынікам працэсу і стане стварэнне Якубам Коласам паэмы «Новая зямля», у якой па-свойму, у вызначанай нацыянальнай традыцыі, будуць праяўляцца рысы нацыянальнага эпасу. Да стварэння яго спрычыніліся і Янка Купала, і Максім Багдановіч, пісьменнікі пазнейшых часоў, безумоўна, і Уладзімір Караткевіч. Нацыянальным эпасам беларусаў па праве называюць «Палескую хроніку» Івана Мележа, хаця гэты твор належыць зусім да іншай, не паэмнай жанравай формы.

Стварэнне нацыянальнага эпасу працягваецца новымі пакаленнямі пісьменнікаў. І не толькі ў беларускай літаратуры.



*Ганна і Алена Бальбуса. Ілюстрацыя да кнігі «Песня аб Раландзе».*

У 1994 годзе выйшла кніга «Мастарава» — узор гераічнага эпасу народнасці эрзя і мокша, што насяляюць тэрыторыю сучаснай Мардовіі. Гэты твор адразу прыцягнуў увагу шматлікіх даследчыкаў. Кнігу «Мастарава» вучоныя ставяць у адзін шэраг са знакамітай «Калевалай», а яе складальніка Аляксандра Маркавіча Шаронава называюць «эрзянскім Лёнартам».

Тым не менш варта падкрэсліць: наўрад ці будзе рэальна неабходным стварэнне нацыянальнага эпасу толькі паводле яго папярэдніх узораў. Яшчэ Уладзімірам Пропам было заўважана: «…можа, быў і сапраўды існуе пераход да новых форм існавання эпасу пры адмiранні старых».

Таму перад сучаснымі даследчыкамі літаратуры ставіцца дакладная і вельмі важная задача: прасачыць за зменамі ў рэчышчы нацыянальнага эпасу, вызначыць сённяшнія, адпаведныя часу, формы яго бытавання. З'яўленне новых узораў нацыянальнага эпасу ў культуры таго ці іншага народа сведчыць не толькі пра яго гераічнае мінулае, але і пра яго жыццядольнасць у сучаснасці.

**Святлана ТАРАСАВА**

# Для аматараў дэтэктываў




*Ольга Тарасевич. Без чайных церемоний. Ожерелье Атона. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2013.*

«Бо я ж заўсёды гэтага хацела: пісаць кніжкі: крыху смерці, трохі містыкі і цёплае мора светлага кахання… Усё да лепшага. Я прыняла правільнае рашэнне». Вось так сцвярджае журналістка Ліка Вронская, галоўная гераіня рамана Вольгі Тарасевіч «Без чайных цырымоній», якая вырашыла кардынальна змяніць сваё жыццё, сысці з прэстыжнай працы ў газеце дзеля напісання кнігі.

З гэтага моманту і пачынаецца заблытаная гісторыя. Забойствы, расследаванні, нялёгкія рашэнні, лёсы герояў — усё сплялося разам, і ў такіх дэтэктыўных лабірынтах так захапляльна шукаць праўду! Аўтару ўдалося стварыць інтрыгу, якая прымушае чытача ўчапіцца за «нітку» і не адпускаць яе да канца гісторыі.

Фітнес-цэнтр «Свет спорту» сабраў усіх персанажаў рамана ў адным месцы. Такі цікавы і складаны ход падаецца выдатным рашэннем для дэтэктыва. Героі з рознымі характарамі, поглядамі на жыццё, з розным мінулым. У кожнага свае клопаты. Але ўсе яны — часткі адной вялікай мазаікі. Яе цягам усяго рамана збірае не толькі следчы Сядоў, але і чытач, які паступова дазнаецца пра новыя факты і папаўняе спіс падазраваемых.

Ліка вырашае напісаць дэтэктыў і бярэ за аснову рэальныя падзеі — забойства ў фітнес-цэнтры. Яго наведвальнікі становяцца прататыпамі герояў. Аднак пісьменніца і не здагадваецца, што думкі матэрыяльныя…

Частка за часткай, гісторыя за гісторыяй… Калі-нікалі было цяжка прасачыць думку: падзеі ўвесь час змяняліся, а словы «за 30 гадоў да…» прымушалі вяртацца кудысьці вельмі далёка. Хвіліну таму ты яшчэ «стаяў» у пакоі следчага — і раптам апынаешся ў зусім іншым месцы.

Вольга Тарасевіч па-майстэрску валодае мовай дэтэктыўнага жанру, дзякуючы чаму кніга чытаецца на адным дыханні.

Трохі расчаравала тое, што ў творы шмат паўтораў, часам нават прадбачным наступны крок герояў. Асабіста мне як чытачу не хапіла завершанасці, вытанчанасці, нават, можна сказаць, «пяшчоты» сцэн. Яшчэ адным расчараваннем стала вельмі частае згадванне горада N у тых самых частках, якія перакідвалі нас на 30 гадоў назад. Усё ж горад N устойліва асацыіруецца з творамі класікаў, што ў дадзеным кантэксце — не вельмі дарэчы.

Але для аматараў заблытаных гісторый, для тых, хто шукае прыгод і любіць адкрываць таямніцы, гэта ідэальная кніга. Нечаканасці і нечаканыя павароты сюжэта — загадка чакае вас!

**Соф'я ШТУЦІНА**

# «Недзе побач і стаілася сутнасць…»



**Алена КАРП**

Ясным аналітычным розумам у ідэале мусіць валодаць кожны навуковец. Літаратуразнаўцу не абысціся яшчэ і без пачуцця густу, адкрытага сэрца, слыху на тонкія вібрацыі… Усё ж мастацтва — спецыфічны аб'ект даследавання, які вымагае творчых здольнасцей. Здараецца, што гэты творчы пачатак шукае свайго выяўлення і па-за навуковай дзейнасцю. Так, дзявяты нумар «Полымя» дазваляе пагаварыць пра Яўгена Гарадніцкага як пра паэта, а не літаратуразнаўцу. Усяго чатыры вершы — і, бадай, найлепшая публікацыя нумара.

Прысвячэннем «Максіму Танку» аўтар выдаў сваю крыніцу натхнення. Але чысціня, сціпласць і аскетычнасць вершаў Яўгена Гарадніцкага змушаюць да асацыяцый і са Збігневам Гербертам, і з Чэславам Мілашам. Калі ж вярнуцца на родную глебу, то варта згадаць таксама верлібры Алеся Разанава. Прынамсі, у Яўгена Гарадніцкага мы знаходзім падобную недасказанасць, загадкавасць і прырашчэнне сэнсаў.

Вершы «палымянскай» падборкі сімпатычныя аптымальным балансам паміж яснасцю, празрыстасцю думкі і вобразнасцю. І аўталагічным гэты стыль не назавеш, і разам з тым відавочна, што аўтар ідзе за думкай, а не за патрэбай шукаць украсы.

*На досвітку штосьці прамільгне*
*ў паветры, як спалоханая,*
*з гнязда свайго наседжанага ўзнятая*
*птушка. Крыламі*
*ўзмахваючы, вяшчуючы небяспеку,*
*паэзія, як сіратлівая птушка,*
*ты клічаш у запаветную далячынь,*
*якой няма. А можа,*
*даеш такім чынам знак,*
*суцяшаеш апошнім зманам,*
*каб лягчэй было прымірыцца*
*з усюдыіснасцю невідушчасці,*
*з разгорнутымі скрыжалямі*
*нераўзыдзенага і невядомага?*

Прывабны і той ракурс, з якога паэт бачыць свет. Камера пераносіцца на ўзровень аб'екта, як роўны з роўным вядзецца сумоўе, і словы пра тое, што чалавек — частка прыроды, не пустыя:

*Грыбныя сямействы нас,*
*як лясныя пасольствы,*
*вітаюць,*
*сустракаючы ўзбоч дарогі,*
*на перамовы з імі даводзіцца*
*саскокваць пастаянна з калёсаў…*

Тэмы гэтых вершаў не так проста акрэсліць адназначна. Вызначэнне «асэнсаванне жыцця» падаецца занадта шырокім і агульным, але па сутнасці паэт сапраўды назірае, як працякае жыццё і якія ў ім дзейнічаюць законы, як функцыянуе памяць, як пераадольвае чалавек свой шлях і навошта яму паэзія. Сутнасць жыцця адчуваецца як стоеная. І ўсведамляючы гэта, ніяк немагчыма вяшчаць, быць трыбунам. Можна праходзіць недзе побач, улоўліваць патаемнае і гаварыць ціха, разважліва і спакойна. У гэтым плане адрозніваецца ад іншых верш «Максіму Танку» — юбілейны, урачысты і адпаведна больш гучны, патэтычны.

Глыбіня і няўлоўнасць, арыгінальная вобразнасць і даволі складаны сінтаксіс змушаюць вяртацца, зноўку перачытваць вершы. «Інтэлектуальная паэзія» — гэтае вызначэнне абавязкова мусіць тут прагучаць. І, напэўна, прадстаўленая ў «Полымі» нізка Яўгена Гарадніцкага яшчэ стане камусьці матэрыялам для адмысловага даследавання.

Знойдзе свайго чытача і дакументальная аповесць Таццяны Мушынскай «У прасторы сямі нот». Трэба сказаць, што назва цалкам адпавядае зместу. Сапраўды, у творы пануе прастора сямі нот, выцясняючы ўсе магчымыя іншыя. Нават сціплая згадка пра 90-я ў большай ступені патрэбная тут, каб патлумачыць стан гераіні, але не для таго, каб разгарнуцца ў сацыяльную прастору. Такая свядомая ўстаноўка аўтара выяўляе сапраўдную адданасць працы, прызванню, музычнаму мастацтву. З удзячнасцю згадваюцца ў творы кампазітары, салісты, настаўнікі, прытым галоўная гераіня — сама Таццяна Мушынская, паэтэса, музычны журналіст і крытык. Прыхільнікам таленту, шырэй — прыхільнікам беларускага музычнага мастацтва, верагодна, будзе цікава дазнацца шматлікія падрабязнасці закулісся. Але, зважаючы на ўсе згаданыя акалічнасці, падаецца, што больш апраўдана было б абазначыць «У прасторы сямі нот» як мемуары ці аўтабіяграфію. Прынамсі, і межы паняцця «дакументальная літаратура» не былі б размытыя, і чытачу было б лягчэй сарыентавацца, чаго чакаць ад твора.

# Маналог Бога і казкі як успаміны



**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

Новы нумар «Нёмана» прывабны ў першую чаргу сваёй прозай: дзякуючы жанравай разнастайнасці творы кожнага аўтара ўспрымаюцца абсалютна адметным чынам.

Самым цікавым тэкстам падаецца «Голас з нябёсаў» А. Асіноўскага — маналог Бога, прысвечаны стварэнню свету, зараджэнню жыцця, з'яўленню чалавека і развіццю цывілізацыі. Вобраз Бога, яго стаўленне да людзей і ўспаміны пра свае грандыёзныя дзеі атрымалі сучасную і арыгінальную трактоўку, прычым адной з галоўных задач пісьменніка было паказаць, як Бог перажывае, адчувае сваю ўсюдыіснасць. У значнай ступені гэта атрымалася дзякуючы стылістычным сродкам: каб выявіць сваю кампетэнтнасць у розных сферах зямнога жыцця, герой распавядае пра прыродныя з'явы мовай навукі, пра сацыяльныя працэсы — мовай сучасных СМІ, апісвае сваю стваральную дзейнасць з дапамогай канцылярызмаў, а калі набліжаецца да чалавека, то выкарыстоўвае самую звыклую размоўную лексіку. Бог робіцца ўладальнікам шматлюднай планеты, ён усё бачыць і разумее, але не з'яўляецца ўсемагутным. Усведамленне недасканаласці свету, зрэшты, выклікае ў героя здзіўленне: «…и это всё сотворил один только я? Без Верховного Вмешательства? Может быть, нас много — таких творцов, как я? А Он — над всеми нами?»

Проза нумара прадстаўлена апавяданнямі У. Сцяпана, марскімі гісторыямі Ю. Пелюшонка, казкамі новага часу З. Краснеўскай. У кароткіх і лаканічных творах У. Сцяпана ашчаднае стаўленне да слоў надае асаблівую значнасць аўтарскай інтанацыі, робіць каштоўнай кожную метафару, падкрэслівае значнасць, невыпадковасць колераў, прозвішчаў, лічбаў. Пісьменнік нібы настойвае на пільнай увазе да кожнага сказа, выразу, удакладнення, бо знайсці патрэбныя словы, каб атрымаўся дасканалы твор (як, прыкладам, апавяданне «Дом»), сапраўды нялёгка.

Марскія гісторыі Ю. Пелюшонка накрываюць чытача хваляй экзотыкі: аўтар лёгка і з усмешкай распавядае пра акіян і перабудову, пра пітона і ананасы, пра жыццё маракоў яшчэ савецкага судна і іх стасункі з жыхарамі сяброўскіх ды несяброўскіх краін. Пісьменнік дзеліцца разважаннямі пра гістарычны лёс Захаду і Расіі, захапляецца магутнасцю шторму, і, здаецца, можа пісаць вельмі доўга, але чамусьці пералічвае ў апошняй частцы рэшту яркіх эпізодаў — і са спасылкай на Дарвіна завяршае «Рэйс».

З. Краснеўская распавядае пра адметных асоб з кола сваіх знаёмых, пра тых, каму выпаў у нечым выключны лёс. З рэальнымі людзьмі здараецца тое ж, што і з казачнымі героямі, вось толькі часам бракуе жывой вады, прарочых сноў ды добрых чараўнікоў. Цуд — гэта тое, што мы самі робім для сябе ці для тых, хто побач, як у казках «Царэўна Жарптушка» ці «Сумны самурай». Творы З. Краснеўскай блізкія не толькі да казак, але і да ўспамінаў: аўтарка заўсёды з'яўляецца гераіняй аповеду і не толькі захапляецца Царэўнай Жар-птушкай ці слухае споведзь Шчаслівага Прынца, але і сама бярэ ўдзел у падзеях…

Вераснёўскі «Нёман» знаёміць чытачоў з вершамі К. Камейшы, Г. Кісялёва, М. Кобец, В. Бародзіча, а таксама прапануе шэраг грунтоўных артыкулаў. Героем рубрыкі «Спадчына» з'яўляецца С. Грахоўскі: у часопісе ўпершыню друкуюцца яго рускамоўныя вершы, напісаныя ў 1942 — 1946 гг. В. Макарэвіч згадвае вядомага паэта, распавядае пра яго жыццёвы і творчы шлях, а кароткая прадмова да вершаў напісаная Таццянай — дачкой С. Грахоўскага. Т. Шамякіна ўспамінае, «Як жыла эліта пры сацыялізме» (у значнай ступені насуперак тэндэнцыі «непременно ругать советский строй»), І. Штэйнер засяроджваецца на тэме Бога ў паэзіі А. Разанава.

«Залатымі» старонкамі «Нёмана» сталі пераклады апавяданняў амерыканскага пісьменніка У. Стэгнера, аб'яднаныя назвай «Прынцэса ў вежы». Кожны твор — гэта не толькі лінейны тэкст, але і маленькі свет, дзе адмысловым чынам суадносяцца фарбы і гукі, агульны фон і яркія дэталі. У. Стэгнер, відавочна, імкнуўся зрабіць свет сваіх апавяданняў утульным для вандроўніка-чытача, уважліва прадумваў кампазіцыю, дынаміку, асвятленне. Сёння зусім не абавязкова ставіцца да чытача прыветна, але крыху літаратурнага майстэрства чароўным чынамператварыла б многія творы беларускіх аўтараў…

# Першы ўраджай



**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

У вераснёўскім нумары «Маладосці» маю ўвагу прыцягнула аповесць Вікторыі Федзьковіч «Яблыкі». Паколькі твор з'яўляецца дастаткова тыповым для маладой беларускай літаратуры, яго аналіз дапаможа паказаць яе дасягненні і недахопы. Спярша колькі слоў пра сюжэт. Дзеянне аповесці пачынаецца ў сучасным Мінску. Журналістка Вера шчаслівая ў шлюбе з хірургам Германам. Адначасова яна платанічна захапляецца сваім шэфам Алегам Аркадзьевічам. Герману прапануюць кантракт у адной са швейцарскіх клінік…

Сярод безумоўных вартасцей твора — яго чытэльнасць. Знаёмства з «Яблыкамі» адбылося на адным дыханні за адзін вечар. Гісторыя нашых сучаснікаў прымушае суперажываць героям. Да таго ж, стыль і мова не расчароўваюць, прынамсі, для дэбютанткі ўзровень годны. Рэалістычна выпісаны ўзаемаадносіны Веры і Германа. Вобраз апошняга можна назваць аўтарскай удачай: Вікторыя Федзьковіч тонка перадае эгаізм галоўнага героя, яго паглыбленасць у сябе і нават унутраны холад душы.

Творам шмат каго з пачаткоўцаў уласціва слабая кампазіцыя і адсутнасць жыццёвых падрабязнасцей. З боку рэдактара гэтыя недахопы выправіць немагчыма, бо для таго патрабуецца перапісаць твор. Што да першай праблемы, дык унутраная структура аповесці, выбраная аўтарам, у цэлым падаецца абгрунтаванай. Выключэнняў некалькі.

Адно з іх звязана з крыху абарванай лініяй Антона, сябра дзяцінства галоўнай гераіні. Такое ўражанне, што яго вобраз уведзены ў аповесць з дзвюма мэтамі: прымусіць Германа раўнаваць Веру (зноўтакі незразумела, навошта: далей такі «трохкутнік» не абыгрываецца) і даць ёй выгаварыцца пасля здрады мужу. Але пасля таго, як гераіня з'язджае ў Швейцарыю, Антон больш не з'яўляецца на старонках «Яблыкаў». Што стала нагодай разарваць стасункі? Сварка? Аднак пра іе няма ні слова. Далёкія адлегласці, што падзялялі герояў? Але калі раней адносіны былі да такой ступені блізкія, што выклікалі рэўнасць у мужа, не маглі ж яны знікнуць у імгненне!

Адсутнасць падрабязнасцей, што з'яўляецца праявай усё больш хуткага тэмпу нашага жыцця, праілюструю таксама на прыкладзе «Яблыкаў». У творы адсутнічаюць партрэтныя характарыстыкі ўсіх галоўных герояў (Веры, Германа, Алега Аркадзьевіча і немкі Гертруды, з якой дзяўчына пазнаёмілася ў Швейцарыі), таму ўяўіць іх сабе складана. Вера разам з мужам жыве спярша ў Мінску, потым у Швейцарыі, але канкрэтыкі няма. Калі беларускія старонкі яшчэ насычаныя героямі і падзеямі, дык заходнееўрапейскае жыццё часам нагадвае бязважкую прастору. Можна памяняць гэтую краіну на Аўстрыю, розніцы не адчуеш.

Не зусім зразумела, ці працавала Вера на Захадзе, як праходзіла яе адаптацыя да новага жыцця. Не ўдакладняецца, ведала яна раней адну з моў, якія ўжываюцца ў краіне, ці вывучыла яе там. Між тым, падрабязнасці швейцарскага жыцця выклікалі б вялікую цікавасць у чытачоў. Дысбаланс, які прысутнічае паміж апісаннем жыцця ў абедзвюх краінах, не ідзе на карысць твору.

Ёсць пытанні і да фіналу. Цікава, як Гертруда знайшла нумар Алега Аркадзьевіча? Калі верыць аповесці, Вера нічога не казала ёй пра свае адносіны з былым шэфам. У «Яблыках» не згадваецца, што гераіня сумавала без колішняга галоўнага рэдактара, якога не бачыла шмат гадоў. Як жа Гертруда здагадалася набраць менавіта яго нумар? Куды больш верагодна, што ў рэальнасці яна мусіла патэлефанаваць не Алегу Аркадзьевічу, а Антону…

Калі падагуліць уражанні, аповесць адпавядае агульнай канцэпцыі часопіса і ў прыватнасці рубрыкі «Упершыню ў «Маладосці». Хоць зразумела, што для асобных аўтараў публікацыя ў ёй хутчэй з'яўляецца авансам. Зрэшты, усе, нават самыя вялікія творцы, калісьці дэбютавалі ў літаратуры. Галоўнае, каб нават пасля крытыкі ў іх не знікала жаданне развівацца і пісаць далей.

## Пётр БАРЫСЮК



Пётр Барысюк (1938 — 2001) працаваў хірургам-анестэзіёлагам у 7-й стаматалагічнай паліклініцы горада Мінска. Вядомы як паэт, аўтар зборнікаў вершаў «Поиск истины» і «Поиск истины продолжается». Сёлета родныя і блізкія, прыхільнікі таленту творцы адзначаюць 75-годдзе з дня яго нараджэння.

* * *

*Феномен той адчуты мной не раз:*
*Калі з табой не бачымся на днях,*
*Як быццам злосны лёс разводзіць нас,*
*Тады прыходзіш да мяне ты ў снах.*

*Сны — мрой маіх чароўнае акно,*
*Узнагарода за мае пакуты:*
*Цябе — у сне! — пабачу ўсім назло,*
*Калі наяве мною не адчута...*

* * *

*Краса — як цуд, як радасць уваччу.*
*Я не стамлюся ёю захапляцца!*
*Гляджу цяпер я на тваю дачку,*
*Як на цябе — гадоў мінула дваццаць.*

*І рэкі кос, і вочы, твару рысы,*
*І вейкі, рост — твае — якое шчасце!*
*І мне шкада, што стаў ужо стары*
*І не магу ў яе я закахацца.*

* * *

*Сучаснікаў няверны суд —*
*Ацэнка незвычайным людзям.*
*Адных — бяздоказна ўзнясуць,*
*А іншых — з плёнам! — ды асудзяць...*

*Спытай, чаго ён варты сам,*
*Ці быў народу верным сябрам?*
*Па месцах нас паставіць час,*
*Заплаціць нам па ўнёсках-скарбах!..*

* * *

*Любім мы пры выпадку спрачацца.*
*Волю дай — спрачаліся б штодзень.*
*Як бы языкамі развязацца?*
*Ісціна ж хаваецца — у цень.*

*Процьму дум выкладваў я на вагі,*
*Перш чым вас ідэяй азарыць:*
*Ісціна ствараецца ў развагах.*
*Значыць, болей думайце, сябры!..*

* * *

*Для ўнучкі Дзіны я — яе «сынок».*
*Са мной у «маці» зноў яна гуляе.*
*Прыносіць чай, і бульбу, і пірог,*
*І нават, як малога, апранае...*

*О ўнучка-маці! Каб я толькі мог,*
*Гуляў бы так з табой да смерці самай!..*
*Для ўнучкі мілай я — яе... сынок,*
*А для мяне яна — нібыта... мама...*

**Пераклад**
**Таццяны БАРЫСЮК**

## Дэбют

## Павел МАКЕЕЎ



У газеце «Літаратура і мастацтва» гэта першае выступленне маладога паэта Паўла Макеева. Нарадзіўся ён у 1987 годзе ў горадзе Барысаве, вучыўся ў сярэдняй школе мастацтваў № 2 на харэаграфічным аддзяленні. У 2005 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Актыўна ўдзельнічае ў працы ўніверсітэцкага літаратурнага аб'яднання «БУКет».

* * *

*Я кожны дзень кіно гляджу,*
*Дзе ты заўжды ў галоўнай ролі.*
*Але не ў зале я сяджу —*
*Таксама роля ёсць міжволі.*

*І ў кожнай серыі ты мне*
*Станоўчых гераінь цытуеш.*
*Але калі ўжо твае*
*Я словы ўласныя пачую?!*

*Як я дзіўлюся з прастаты,*
*З якою ўсё размеркавана:*
*У колерах ружовых ты,*
*А я — сусветная загана.*

*Скажу табе: усё дарма,*
*Як у кіно, даруй, не будзе.*
*Прынцэс і рыцараў няма,*
*Жывуць вакол жывыя людзі!..*

*А ўжо акцёр я сам сабе,*
*І ўсё іграю, ўсё трываю.*
*Мой выбар зроблены. Цябе*
*Без грыму кожны дзень чакаю.*

### Буду твой

*Трымай, не адпускай — і буду твой.*
*Павер сабе, сказаўшы мне «кахаю».*
*Дазволь душу расфарбаваць табой.*
*Глядзі, табой я сэрца напаўняю!*

*Трымай, але не звязвай, я прашу.*
*Ці памятаеш, госць да нас прыходзіў?*
*То цемры князь. Скаваную душу*
*Адчуе ў цэлым свеце ён і знойдзе.*

*І бітву за яе ён распачне.*
*Тваёю зброяй будзе там каханне,*
*А ён навострыць жахі ўсе мае,*
*Спакусы свету, чорныя жаданні.*

*І я хачу, каб ты перамагла,*
*Каб разам мы з табою ўсё вярнулі,*
*Каб, акрыяўшы рэшткамі цяпла,*
*Патрэбу жыць адзін адным адчулі!*

*Ты ўсё пабачыш у маіх вачах,*
*І ўвойдзем мы у празрыстую спакусу,*
*І я ўздыму душу тваю ў руках,*
*І ўпершыню маіх кранешся вуснаў.*

### Споведзь маці

*Маё дзіця, ты нарадзіўся ў змроку,*
*Які мяне ахутаў на гады.*
*А ў кожным тваім позірку і кроку*
*Спявае сонца мне на ўсе лады.*

*Чужых дзяцей трымаць у роднай хаце*
*І кроў хаваць чужую і сваю*
*Стамілася твая старая маці.*
*Сівая я ад жаху і агню!*

*Перад табой дарогі ўсе адкрыты.*
*Вярні мне маладосць і прыгажосць!*
*За вас адной маўкліваю малітвай*
*Стаяла я, адольваючы млосць.*

*Ты іншае зямлі яшчэ не бачыў,*
*Але ад цемры адвядзеш людзей.*
*Я сілы дам табе ўсё перайначыць,*
*Мы толькі разам вернем светлы дзень.*

*Дапамажы, прашу, маё дзіцятка!*
*Ніколі ўсемагутнай не была...*
*Не разгубіце бацькаўшчыну-матку —*
*І вам аддзячыць родная зямля.*

*Фота Кастуся Дробава*



## Святлана БАСУМАТРАВА



### Мая спадчына

*З галінкі яблык*
*Глуха ападае,*
*Бо час яго настаў,*
*Бо ён наспеў.*
*Я ж у душы*
*Такая ж маладая,*
*У ёй гучыць*
*Юнацтва звонкі спеў.*

*Нарэшце я жыву*
*З сабою ў згодзе.*
*Мяне не раздражняе*
*Ў гэты час,*
*Што лебяда*
*Буяе ў агародзе,*
*Што ўнучка носіць*
*Шпілечку-абцас.*

*Што дзень пры дні*
*Мажны сусед дэбільны*
*На пса свайго*
*Як рэзаны крычыць.*
*Што за сцяною*
*Тэлефон мабільны*
*Ні раніцай, ні ноччу*
*Не маўчыць.*

*Я ў вершаваных*
*Марах-снах начую.*
*Няма найбольш*
*Салодкае пары.*
*То па Малдове*
*З табарам качую,*
*То на плытах*
*Імчуся па Дняпры.*

*То паміж гор*
*Ва ўсходнім Казахстане*
*Збіраю кветкі —*
*Яркія «жаркі».*
*...Калі сярод жывых*
*Мяне не стане,*
*Пакіну на ўспамін*
*Свае радкі.*

### Пад ветразямі

**Леаніду Дайнеку**

*Мой даўні сябра,*
*Сеем жыта,*
*Пакуль шчэ сілы ёсць*
*Араць.*
*Пражыта шмат*
*І пераджыта,*
*Ды неахвота*
*Паміраць.*
*Зімой — завеі,*
*Дожджык летам,*
*Вясновай квецені*
*Падман...*
*Цябе я ведала*
*Паэтам,*
*І вось —*
*Гартаю твой раман.*
*Ён у цябе*
*Ужо не першы,*
*Цікавы,*
*Зразумелы ўсім.*
*— Скажы ты мне,*
*А як жа вершы,*
*Няўжо пакінуў іх*
*Зусім?*
*У бэзавым*
*Духмяным дыме*
*Лунала наша*
*Маладосць.*
*Былі тады мы*
*Маладымі.*
*Ну, а цяпер*
*Якія ёсць?*
*Шчэ лічыць нам гады*
*Зязюля.*
*Вітаем*
*Сонейка ўзыход.*
*Даўно дзядуля*
*І бабуля.*
*Ну, а душы —*
*Сямнаццаць год.*
*У лёсе*
*Здрадлівыя рыфы*
*Нялёгка часам*
*Абысці.*
*...Як ветразі тугія,*
*Рыфмы.*
*Дай бог*
*Пад ветразем ісці.*

### Вяртанне

*Да родных бярэзінак*
*І асін*
*Праз горы і моры*
*Вядзе дарога.*
*Аднойчы вяртаецца*
*Блудны сын*
*Сюды, да адзінага ў лёсе*
*Парога.*
*У кожнай рачулкі —*
*Свае берагі.*
*У лодак — прычалы,*
*У птушак — гнёзды.*
*Вяртаюся*
*На свае кругі.*
*Вяртаюся*
*Да радкоў узнёслых.*
*Як радуе вока*
*Прылёт буслоў.*
*Мой узрост —*
*Вечаровы.*
*У душы —*
*Світанне.*
*Вітаю чародку*
*Натхнёных слоў.*
*Дык дзякуй жа, Божа,*
*За іх вяртанне.*

# Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

# Галаўнінскімі шляхамі

*Эсэ*



**I**

Не так ужо і далёка ад маляўнічай Шчары, акурат у тым месцы, дзе сустракаюцца дзве вёскі — Каўпакі і Малышы, — і пачынаецца дарога, што вядзе да маіх любімых Галаўнінцаў. Я помню яе рознай: і тады, калі ў асенніх лужынах адлюстроўваліся сумныя аблокі; і пасівелую, зацягнутую першым лядком; і, вядома ж, улетку, калі па ёй раз-пораз грукатаў трактар ці грузавік, а падчас жніва калонаю паважна рухаліся на поле камбайны, уздымаючы такі вялікі слуп светла-жоўтага пылу, што цяжка было дыхаць. І таму даводзілася чакаць, пакуль той пыл не ўляжацца. А калі ехалі з Мінска ў Галаўнінцы, то гэты, з кіламетр, шлях да роднай хаты ўспрымалі як сапраўднае свята: недзе ж блізенька нас чакаюць дзед і бабуля! І тут можна было выбіраць: ісці па дарозе, якая шырокай жоўтай паласой вывізвалася сярод вялікага лугу (гэта было лішніх з паўкіламетра), або прайсці напрасткі, праз невялікі лясок. Потым дарога агінала галаўнінскія могілкі і выводзіла да скрыжавання: налева — мехдвор, направа — першыя вясковыя хаты. І хоць яна тут ішла пад гару, паступова наша хуткасць толькі павялічвалася: вельмі ж хацелася апынуцца хутчэй ля сваёй хаты! І вось апошняе скрыжаванне — і ногі, здавалася, неслі самі да роднай хаціны! На павароце — вялізны дуб. За ім злева — хата Немкі (так па-вясковаму звалі Зіну — нямую ўдаву, вельмі добрую, спагадлівую жанчыну, якая, колькі памятаю сябе, жыла ў хаце насупраць нашай; мы, малыя, нават пабойваліся Немкі, бо хадзілі чуткі, што яна вядзьмарка), а справа тулілася хаціна цёткі Ніны Собаль (па-вясковаму Маёрчык, або Маёрава). З яе сынам Лёнькам мы сябравалі. Па-суседску хадзілі адзін да аднаго ў госці, нешта майстравалі, нават курылі ўпотайкі ў нашым садзе. Праўда, мой дзед, убачыўшы, як з малінавага куста ідзе дым, адразу спыніў нашы спробы далучыцца такім чынам да дарослага жыцця, і нам давялося шукаць іншае месца…

Звычайна дарога ад Каўпакоў займала з паўгадзіны, калі ісці даволі шпарка. Але здаралася, што, сустрэўшы каго-небудзь з вяскоўцаў (а так было часцей за ўсё), мы спыняліся, каб перакінуцца з імі словам-другім. Потым далучалася яшчэ некалькі чалавек — і размова магла зацягнуцца надоўга. Але сапраўднай узнагародай для мяне былі першыя хвіліны сустрэчы з дзедам і бабуляй.

**II**

Яны былі падобныя адно да аднаго: маленькія, хударлявыя — сапраўдныя дзеці вайны. Але як святлеў іх позірк, як зззялі вочы, калі яны бачылі сваіх унукаў і дзяцей, нашых бацькоў! Бабуля Анастасія Сцяпанаўна, у цёмных спадніцы і кофце, у абавязковым стракатым або шэрым фартуху, цалавала мяне ў шчаку, а я прыціскаў яе да сябе, адчуваючы вялікую дзіцячую радасць ад гэтай сустрэчы. Дзед, Міхась Іванавіч, у чорна-чырвоным світары, цёмных штанах і гумовых ботах, спачатку моцна, па-мужчынску паціскаў мне руку, як даросламу, а потым, не стрымаўшыся, абдымаў мяне, і ягоны твар расквечвала шчырая ўсмешка. Я, колькі сябе памятаю, пастаянна разважаў: да каго з іх падобная мая маці, іх дачка? І кожны раз гаварыў сабе, што на абаіх, таму што яна захавала ўсе іх лепшыя знешнія рысы і душэўныя якасці: шчырасць, спагадлівасць, дабрыню, уменне радавацца гэтаму жыццю.

Пра гісторыю іх кахання можна было б напісаць вялікую кнігу. Уявіце сабе: маладыя хлопец і дзяўчына з адной вёскі — ён ваеннапалонны жаўнер Войска Польскага, і яна таксама рабыня, бо фашысты вывезлі на прымусовыя работы, — сустрэліся ў Германіі, пакахалі адно аднаго, і там жа, у Нямеччыне, у іх нарадзіўся першы сын, Сцяпан, які, на жаль, пражыў усяго некалькі гадкоў. Калі вярнуліся на радзіму ў сорак пятым, тая самая радзіма не чакала іх ветліва-сардэчна: яны ж вярталіся з фашысцкай нявол. І толькі ў дзевяностыя, калі загаварылі пра тое, каб такім вось нявольнікам выплачваць кампенсацыі ў тагачасных нямецкіх марках, а потым у еўра, мы сапраўды змаглі адчуць маштаб трагедыі мільёнаў маладых людзей, чый лёс дыктавала вайна.

А потым — бясконцыя працадні ў калгасе «Новае жыццё». Дзядуля паспеў папрацаваць і млынаром, і вартаўніком на мехдвары, у калгасным садзе, і ў раённай пажарнай камандзе, і шмат дзе яшчэ. Але галоўнае ў іх «новым жыцці» — гэта пяцёра дзяцей: чацвёра сыноў і дачка — мая матуля. І несумненная вера ў светлую будучыню, вера ў лепшае для іх дзяцей і ўнукаў. І гэтая вера дапамагала ім выжыць у самыя цяжкія часіны, калі на цэлы дзень на ўсю сям'ю быў толькі чыгунок заціркі ці лёгкай поліўкі і маленькі шматочак жоўтага сала, калі дзеці — нават у лютыя маразы — хадзілі праз лес у Крывошынскую школу за тры кіламетры, пракладваючы сабе дарогу па пояс у снезе. Усё было... Але дзеці сталі дарослымі. Падрастаюць унукі. А значыць, галаўнінскі шлях працягваецца — для новых пакаленняў…

…Я доўга стаяў каля магіл дарагіх мне бабулі і дзядулі, узіраўся ў іх твары на фотаздымках — маладыя, прыгожыя. А ў пошуме бяроз над галавой чуліся іх галасы, да болю мілыя, пяшчотныя. І хацелася зноўку абняць, як і тады, у дзяцінстве, гэтых людзей і сказаць ім тое, што не паспеў ці не змог. На жаль, гэта ўжо немагчыма. Але я веру: дзед і бабуля ўсё роўна чуюць мяне і нават мне дапамагаюць, абараняюць ад няшчасцяў. Так, напэўна, і павінна быць…

**III**

За Масляковым домам у Галаўнінцах была мясцовая сажалка памерам з невялікае футбольнае поле. На яе беразе ў спякотныя дні, як на любым пляжы, збіралася ўсё маладое пакаленне вёскі. І хоць у гэтай сажалцы з-за яе забруджанасці вяліся адно жабы і трытоны (праўда, некаторыя сцвярджалі, што лавілі тут маленькіх карасікаў), малыя і падлеткі ўмудраліся ў ёй купацца. Самыя «крэатыўныя», асабліва дзеці механізатараў, плавалі па зялёна-карычневай вадзе на шынах ад «ЗіЛаў», «ГАЗаў», а каму пашанцуе — нават ад «Кіраўцаў». Клалі на шыну дошку — і атрымліваўся плыт на паветранай падушцы.

Побач з сажалкай і дагэтуль стаіць хата бабулі Ніны Сцепанцовай. Стары Сцепанец — дзед Юзік — не так даўно пайшоў у лепшы свет. Сцепанцы ды бабуля Зіна Мішкевіч і дзед Паўлюк (на жаль, апошнія двое, як і дзед Юзік, ужо на галаўнінскім пагосце) і былі нашымі бліжэйшымі сваякамі тут, у вёсцы. Дзякуй богу, у іх шмат дзяцей і ўнукаў — некаторыя жывуць у Галаўнінцах. Іншыя — у Крывошыне і нават у Рызе.

У дзеда Юзіка былі залатыя рукі — лепшага цесляра трэба было яшчэ пашукаць. Мала таго, што ён у свой час працаваў на калгаснай пілараме і любому вяскоўцу мог дапамагчы з дошкамі, усе вокны і дзверы ў Галаўнінцах, як сцвярджалі, зрабіў менавіта ён. Калі нехта адпраўляўся ў апошні шлях на пагост, дамавіну для нябожчыка рабіў дзед Юзік (мае дзядуля і бабуля таксама ў іх ліку). А колькі хат «паставіў» дзед Юзік! І не толькі ў нашай вёсцы. Увесь раён ведаў гэтага таленавітага майстра — шчырага, зычлівага чалавека, памяць пра якога жыве і цяпер. А хата Сцепанцоў нібы зажурылася, засумавала, калі памёр яе гаспадар, і выглядае зусім не так, як калісьці: сіняя фарба выцвіла, пазлазіла, шыферны дах сям-там пакрыты мохам. Калі асушалі сажалку, ваду з яе адвялі, дзеля чаго побач са Сцепанцовай хатай пракапалі канаву. Вада нейкім чынам трапіла пад хату, і цяпер бабуля Ніна адчувае сябе гераіняй мележаўскай хронікі «Людзі на балоце»: у той канаве (як і пад падлогай хаты) пастаянна стаіць макрэча. Пад самымі вокнамі расце чарот — хутка можна будзе заказнік з чаплямі і жабамі адкрываць. Але бабуля Ніна не сумуе: наколькі хапае сіл, вядзе невялікую гаспадарку, нават трымае курэй.

Дзеці, два сыны і дачка, даўно запрашаюць яе пераехаць да іх, а яна, сапраўдная аптымістка, махнула на гэта рукой і хоча толькі аднаго: быць бліжэй да свайго Юзіка. Хаця б сёння, пакуль ёсць сілы. Невялікага росту, хударлявая, але з дзіўным прыгожым тварам мудрай жанчыны, якая пабачыла шмат чаго на сваім вяку, бабуля Ніна застаецца для нас прыкладам чалавечнасці, чуллівасці, дабрыні. Нізкі вам паклон і сто гадоў жыцця на радасць дзяцей і ўнукаў!..

**IV**

Калі наш сусед Лёнька Маёрчык (пра яго ўжо згадвалася вышэй) працаваў трактарыстам і купіў сабе матацыкл, а мой дзед — мапед, — і для іх, і для нас пачалося сапраўды новае жыццё: размова і старэйшага, і малодшага мужчынскага пакалення ішла ў асноўным пра тэхнічныя характарыстыкі новых жалезных «сяброў». Былі ў нас, дзяцей, нават не зусім рашучыя спробы дабіцца дазволу праехаць на іх. Але ў рэшце рэшт такі дазвол атрымаў толькі мой стрыечны брат Валодзя. Ён быў старэйшы, шчыра кажучы, і смялейшы, за мяне — я трохі пабойваўся матацыклаў, а дзед свой мапед мне, малому, не давяраў. Хаця аднойчы вечарам Лёнька прапанаваў мне пракаціцца з ім да суседніх Бенькаўцаў — два кіламетры. Быў вечар. Вострымі залатымі цвічкамі ззялі на небе першыя зоркі, калі мы селі на Лёнькаў матацыкл. Яшчэ не выехалі за Галаўнінцы, а я ўжо адчуў, што наш «Мінскач», напэўна, падрыхтаваўся да ўзлёту: дрэвы нясліся насустрач. Памятаю, Лёнька мне тады крыкнуў: «Гэта яшчэ дзіцячая хуткасць! Вось пачакай, зараз за вёску выедзем — і тады…» Што будзе тады, я, на сваё шчасце, не пачуў, а то б пасівеў адразу… Як мы даехалі да Бенькаўцаў — не памятаю і дагэтуль. «Дабіў» жа мяне Лёнька, калі рабіў разварот. У мяне было жаданне дакліпаць да Галаўнінцаў пехатой, ды я на ўсё махнуў рукой. Але амаль страціў прытомнасць, калі пачуў: «Ты не хвалюйся, я толькі яшчэ сто трыццаць набраў. Зараз будзе больш. Даляцім, як вецер». І дадаў: «Ты чаго баішся? Вось я, напрыклад, перад выездам самагонкі кульнуў і цяпер нічога не баюся…»

Жарт жартам, але пасля гэтай паездкі я задумаўся пра чалавечую бестурботнасць. Успомніў, як уся вёска хавала дзяўчынку-дзесяцікласніцу, якая загінула разам з ліхачом-матацыклістам, калі не памыляюся, сваім аднакласнікам. А калі ты яшчэ падлетак, то любая бесклапотнасць можа табе дорага каштаваць. Памятаю, як з галаўнінскімі хлапчукамі залезлі на калгасны ток і стралялі там з самапала (дарэчы, такі зарад прабіваў сантыметровую дошку). І ніхто з нас не задумваўся пра тое, што гэтую самаробную, зусім не дзіцячую канструкцыю магло проста разарваць і хтосьці з нас застаўся б інвалідам. Пра горшае тым больш думкі не было.

А Лёнька… Цяпер яму трохі за сорак. Калі быў яшчэ падлеткам, памёр ягоны бацька — дзядзька Аляксей. Цудоўны, шчыры, заўсёды ўсмешлівы чалавек. Мне ён асабліва запомніўся, калі ўзімку прыйшоў да нас дапамагчы маім дзеду і бацьку закалоць свінню. Я дагэтуль ніколі не бачыў такога відовішча і таму выйшаў на двор разам з мужчынамі. Але, пачуўшы немы віск, кінуўся ў хату, каб не бачыць пакут няшчаснай жывёліны. Праз нейкі час я ўсё ж асмеліўся выглянуць на двор: на лаве, засцеленай цыратай, ляжала туша свінні, якую мужчыны смалілі паяльнымі лямпамі. А потым — крывавыя плямы на бялюткім снезе, смажаная свежына на стале, за якім сядзелі ўсе — і дарослыя, і малыя. І Лёнька са сваім бацькам таксама… Не абмінула дзядзьку Аляксея толькі галоўная вясковая (ды і гарадская таксама) бяда — гарэлка. У той дзень ён быў на добрым падпітку. Стаяў на сваім двары, абапіраўся на плот. Так і памёр. На тым плоце яго і знайшлі. Цётка Ніна, яго жонка, перажыла мужа амаль на чвэрць стагоддзя. Дзякуючы ёй Лёнька не пайшоў па слядах бацькі. Хаця ўсё часцей і часцей бачыў дно кілішка. Гэтая ж хвароба перашкодзіла і ў асабістым жыцці: «другую палавінку» ён не знайшоў і дагэтуль. Цяпер Лёнька зусім адзін. З трактарыстаў па вядомай прычыне «папрасілі». Займаецца ён дробным рамонтам на мехдвары, хаця лічыцца майстрам на ўсе рукі — і слесар, і токар, і зваршчык.

**V**

Калі праз шмат гадоў вяртаешся ў вёску, з якой у цябе звязаны, бадай, лепшыя ўспаміны з твайго дзіцячага ці юнацкага жыцця, адразу ж звяртаеш увагу на тое, што змянілася тут за гэты час. Ідучы па вуліцы маіх любімых Галаўнінцаў, я быў уражаны нязвыклай цішынёю: вёсачка нібы страціла былую весялосць, стракатасць жыццёвых фарбаў. Хоць, здавалася б, усё на сваім месцы: і дарогі да Каўпакоў, Шчэрбава і Бенькаўцаў, і мехдвор, і тыя ж самыя хаты. Знікла толькі вясковая крама (замест яе каля клуба з'явіліся нават дзве) і — дзіцячы звонкі смех. А таксама кудысьці падзеліся вяскоўцы, якія звычайна брылі па вуліцы па сваіх справах або ехалі на веласіпедах ці вазах. Убачыўшы цябе, спачатку доўга ўзіраліся, стараючыся пазнаць, і, не пазнаўшы, віталіся першымі. А калі я, прадставіўшыся ўнукам Міхася Гараб'я (так звалі майго дзеда па-вясковаму), вітаўся з імі, яны абавязкова шчыра ўсміхаліся: майго дзядулю ўсе вельмі паважалі. Каля хаты Немкі я зноў убачыў самы вялікі ў Галаўнінцах дуб. Вялізнае дрэва калісьці абхапіць маглі не менш як тры чалавекі, а цяпер яно высахла. У яго кроне калісьці сяліліся птушкі. Нярэдка мы, хлапчукі, бачылі сярод галін ваверачку, што немаведама як трапляла сюды. А цяпер, пазбаўлены сваёй лістоты, знясілены, безабаронны перад сіламі прыроды, дуб дажываў свой век. На ягоным ствале не было ніводнага зялёнага парастка, і ён нікому не мог перадаць сваю сілу. Так і мы, адарваныя ад сваіх каранёў і пазбаўленыя магчымасці перадаць свой жыццёвы досвед і тое багацце, што назапасілі і перадалі нам нашы продкі, можам страціць сваю будучыню, будучыню сваёй нацыі… Амаль мёртвы волат, падсвечаны гарачым ліпеньскім сонцам, здавалася, развітваўся са мною назаўсёды. Хата Немкі (як і яшчэ некалькі на нашай вуліцы) зяяла мёртвымі чорнымі вокнамі як злавесны напамін пра наша тленнае жыццё. І адразу ўспомніліся радкі, што я напісаў пасля работы над матэрыялам пра вёсачкі, у якіх засталося толькі некалькі жыхароў:

*Апусцелыя вёскі маёй Беларусі.*
*Бачу вочы забітых, асleплых акон…*
*І на поўдзень ляцяць сумна-шэрыя гусі,*
*І зашэрхлая песня лунае, як стогн.*
*Стогн па роднай зямлі маёй,*
*шчымна-пяшчотнай.*
*Ты як маці для ўсіх беларусаў спакон.*
*Апусцелыя вёскі радзімы гаротнай.*
*Плачуць вочы забітых, асleплых акон…*

Нельга, вядома ж, асуджаць моладзь, якая заўсёды імкнулася і сёння імкнецца знайсці лепшае жыццё для сябе і для сваіх дзяцей. Амаль усе прадстаўнікі нашага роду Рымшаў — Пятровічаў жывуць цяпер у гарадах (большасць — у Мінску). Але мы заўсёды будзем вяртацца сюды, каб зноў і зноў убачыць вясковую вуліцу, па якой хадзілі нашы дзяды і прадзеды, каб прыйсці на галаўнінскі пагост і пакланіцца тым, хто даў жыццё нашым бацькам (а значыць — і нам), ушанаваць іх памяць. Каля нашай хаты калісьці расла танюсенькая юная бярозка. Яна, як і мы тады, толькі пачынала жыць.

…Галаўнінскія шляхі. Вы назаўжды застанецеся ў маім сэрцы, і я заўсёды буду адчуваць сябе галінкай ці нават лісточкам вялікага мудрага дрэва.

«ЛіМ» пачынае серыю публікацый, прысвечаных еўрапейскай літаратуры. Чым жывуць нашы калегі за мяжой? Пра што пішуць? Чаго чакаюць ад чытача? Першы артыкул у гэтым шэрагу — інтэрв'ю класіка французскай літаратуры Мішэля Бютора нямецкаму штотыднёвіку *Die Zeit*.

# Нямецкая літаратура? Занадта нямецкая!

**Ірыс Радзіш: Няўжо вялікі час еўрапейскага рамана мінуў?**

**Мішэль Бютор:** Абсалютна. Адразу пасля вайны еўрапейскія нацыянальныя літаратуры былі вельмі рознымі. Мы жывём не толькі ў час эканамічнага крызісу, але і ў час крызісу літаратурнага. Еўрапейская літаратура знаходзіцца пад пагрозай. Тое, што мы цяпер перажываем у Еўропе, — гэта крызіс духу. І ўсе еўрапейскія нацыі без выключэння сутыкнуліся з гэтай праблемай.

**І. Р.: Чаму вы кажаце пра еўрапейскі духоўны крызіс?**

**М. Б.:** На працягу апошніх дзесяці-дваццаці гадоў у літаратуры амаль нічога не адбываецца. Ёсць цэлая плынь публікацый, але пры гэтым — духоўны застой. Прычына — у крызісе абмену інфармацыяй. Я захапляюся новымі тэхнічнымі сродкамі, але ад іх столькі шуму! Да таго ж, у нас кожны дзень: навіны, навіны, навіны... Яны з'яўляюцца і знікаюць. Сёння значна цяжэй даведацца, што адбываецца насамрэч, чым дваццаць гадоў таму. У рэшце рэшт застаецца ўражанне, што не адбываецца нічога.

**І. Р.: Мілан Кундэра мяркуе, што еўрапейскі раман знікне, паколькі асяроддзя, з якога ён выйшаў, больш не існуе.**

**М. Б.:** Магчыма, і знікне. Ён жа не заўжды быў. Раман, пра які мы сёння гаворым, існуе ў Еўропе толькі на працягу чатырохсот гадоў. Але ж раман не з'яўляецца выключна еўрапейскай з'явай.

**І. Р.: Калі мы насуперак усім сумненням будзем гаварыць пра літаратурны канон Еўропы, то як ён выглядае для вас?**

**М. Б.:** Цяжка сказаць. Кнігі, якія зрабілі на мяне ўплыў, былі ўсе напісаныя да вайны. Пасля вайны гэта былі найперш Сартр і Камю, якія пакінулі адбітак у маёй свядомасці.

**І. Р.: Я назаву некалькі імёнаў: Лампедуза, Голдынг, Бекет, Додэрэр, Бароўскі, Пастарнак. Яны публікаваліся ў тое самае дзесяцігоддзе, калі вы змянілі гісторыю літаратуры сваім раманам «Змяненне»...**

**М. Б.:** Магчыма, але не забудзьцеся, што мы прайшлі праз вайну. Усё было тайным. Кнігі былі забароненыя. Еўропа была выключаная з разумова-інфармацыйных плыняў. Такое сёння ўявіць немагчыма.

**І. Р.: А пасля вайны?**

**М. Б.:** Усё пайшло павольна. Вазьміце, да прыкладу, Іспанію, пад кіраўніцтвам Франка гэта была амаль зачыненая краіна. Кніга мусіла прайсці тры ўстановы цэнзуры. Калі ў 1956 годзе з'явілася «Змяненне», дык яно не было перакладзена на іспанскую мову.

**І. Р.: Ці было пасля вайны пачуццё таго, што ўсё вярнулася да першапачатковага стану?**

**М. Б.:** Не, жыццё ішло далей. Мы шмат чаго павінны былі вынайсці.

### «У КАМЮ БЫЛА ВЯЛІКАЯ ЭКЗІСТЭНЦЫЙНАЯ І ПАЛІТЫЧНАЯ ПРАБЛЕМА...»

**І. Р.: Такім чынам, поўнага крушэння не было?**

**М. Б.:** Усё было нашмат складаней. У Францыі адбылося крушэнне, але не ў канцы, а на пачатку вайны, у чэрвені 1940 года. Май 1945-га стаў для нас вызваленнем. Становішча еўрапейскіх краін у канцы вайны было непараўнальным. Усходнееўрапейскія краіны былі адразу ж выключаны з еўрапейскай інфармацыйнай плыні.

**І. Р.: Праз два гады па заканчэнні вайны Наталі Сарот апублікавала сваё легендарнае эсэ «Эра падазрэння», якім распачаўся ў Парыжы «Новы раман»...**

**М. Б.:** Гэта не цалкам слушна. Наталі Сарот была старэйшая за мяне на 26 гадоў — узрост маёй маці. Хоць Сартр назваў яе «Партрэт невядомага» «антыраманам», але ўласна «новы раман» з'явіўся пазней.



*Фота з сайта www.zeit.de*

*Мішэль Бютор у Парыжы (1964).*

Французскі пісьменнік Мішэль Бютор нарадзіўся 14 верасня 1926 года. Вывучаў філасофію ў Сарбоне, выкладаў у Егіпце, ЗША, Швейцарыі ды інш. У адным з інтэрв'ю 1950-х гадоў Жан-Поль Сартр сказаў пра яго: «Трэба прызнаць, што сёння ў Францыі ёсць той, хто прагне і мае ўсе магчымасці стаць вялікім пісьменнікам». М. Бютор па сёння захаваў творчую актыўнасць, ён аўтар больш як 40 мастацкіх твораў, у тым ліку раманаў, зборнікаў эксперыментальнай паэзіі і прозы, эсэ, крытык, лаўрэат прэстыжных літаратурных прэмій. У французскім літаратуразнаўстве яго называюць «адным з самых вынаходлівых геніяў нашага часу» альбо апошнім прадстаўніком французскага «новага рамана».

**І. Р.: І вашае «Змяненне» не з'яўляецца «новым раманам»?**

**М. Б.:** Зусім не.

**І. Р.: Дзеянне твора адбываецца ў адным і тым жа купэ цягніка, у якім герой на працягу ночы знаходзіцца ў дарозе з Парыжа ў Рым. Гэта ізаляцыя, адчуванне сябе ў футляры, якое прысутнічае ў рамане, — гэты стан душы чалавека падчас акупацыі таксама ўплывалі на вас?**

**М. Б.:** Так, вайна і акупацыя забралі маю маладосць. Гэта была турма. Камю апісаў гэта ў «Чуме», Сартр — у п'есе «Сцяна».

**І. Р.: Якую ролю адыгралі ў вашым жыцці Сартр і Камю?**

**М. Б.:** Сартр быў нашым прафесарам французскай літаратуры. Я ведаў яго, я захапляўся ім, але ў хуткім часе я аддаліўся ад яго. Я не верыў усяму, што ён казаў. Яго палітычная заангажаванасць была, па меншай меры, нешчаслівай. Ён марыў пра тое, каб стаць галоўным мысліцелем камуністычнай партыі. Але партыі ён быў не патрэбны. Для яго гэта была трагедыя. Ён рабіў усё, што толькі мог, але нічога не атрымалася. Яго пазіцыя ў 1956 годзе падчас венгерскага паўстання сапсавала ў нашых вачах яго ідэю неабыякавай літаратуры.

**І. Р.: І тым самым агульную ідэю неабыякавай літаратуры...**

**М. Б.:** Не. Літаратура заўжды неабыякавая, але аўтар не мусіць гэтага ведаць. Кнігі з'яўляюцца часткай гістарычнай рэчаіснасці і адыгрываюць у ёй значную ролю. На сённяшні дзень літаратура выконвае задачу захавання і кансервацыі. Найбольшая частка літаратуры прысутнічае тут, каб умацаваць грамадства ў жаданні не змяняцца. Ні ў бок добрага, ні ў бок благога. Яна спрабуе выратаваць рэчы ад забыцця. Ідэальны аўтар, на мой погляд, — гэта пісьменнік, крытык і філасоф у адной асобе.

**І. Р.: Як Сартр.**

**М. Б.:** Ён быў вялікім пісьменнікам, разбураў усе катэгорыі.

**І. Р.: Але яго раманы вельмі дыдактычныя.**

**М. Б.:** Вось акурат гэта і ёсць праблема яго заангажаванасці. Тым не менш мне падабаюцца пісьменнікі-філасофы, якія не толькі раманы пішуць.

**І. Р.: І адным з такіх быў Альбер Камю. Ён стварыў пэўны вобраз чалавека і Еўропы.**

**М. Б.:** У Камю таксама была вялікая экзістэнцыйная і палітычная праблема — Алжыр. Як алжырскаму французу, яму ніколі не ўдавалася знайсці канкрэтную пазіцыю ў дачыненні да вайны ў Алжыры. Еўропай для яго былі, найперш, краіны паўночнай часткі Міжземнага мора, а пра рэшту ён забываўся.

### «ФРАНЦУЗЫ ДУМАЛІ, ШТО ЯНЫ ВЫЙГРАЛІ ВАЙНУ»

**І. Р.: «Новы раман» у параўнанні з пасляваеннымі класікамі — Камю ды Сартрам — падаваўся вельмі рэвалюцыйным. Ён вынайшаў метады і канструкцыі, якія маглі б зрабіць гонар дакладнай навуцы. Ці ішла гаворка пра тое, каб павесці раман пасля вайны пэўным шляхам?**

**М. Б.:** Пасля вайны мы жылі ў пастаянным калектыўным рознагалоссі, ніхто больш не разумеў іншага. Французы не разумелі немцаў. Немцы не разумелі французаў. Мяшчане не разумелі працоўных. Працоўныя не разумелі мяшчан. Бацькі не разумелі дзяцей, дзеці не разумелі бацькоў. Вайна разбурыла ўсё. У нас больш не было агульнай мовы. Па-сапраўднаму гэта сітуацыя не даследавана па сёння. «Новы раман» паспрабаваў у гэтай сітуацыі знайсці мову, якая была б трапнай і дакладнай. Ён ніколі не хацеў скасаваць узаемаразуменне, а, наадварот, імкнуўся палепшыць яго.

**І. Р.: Вы верылі ва ўзаемаразуменне. А як жа роспач Самюэля Бекета?**

**М. Б.:** Я чытаў яго. Ён пісаў штучнай французскай мовай і быў вельмі песімістычны. Хаця ў яго была прага да жыцця. Бекет — ірландзец: ён гаварыў па-англійску і ненавідзеў англійскую мову. Але па-французску ён пісаў як замежнік. Ёсць людзі з абмежаванай мовай...

**І. Р.: Але вашы раманы яшчэ не былі найвышэйшай кропкай пасляваеннага песімізму. Ілюзій яшчэ больш пазбаўлялі Прыма Леві і Тадэвуш Бароўскі. Чаму Халакост абмяркоўваўся выключна яўрэйскімі аўтарамі?**

**М. Б.:** Не ведаю. Я палічыў гэту тэму занадта складанай, каб гаварыць наўпрост. Мы даведаліся пра ўсё толькі пасля вайны. Гэта быў шок. Мы ўсе былі супраць нацыстаў, але ніхто з нас не мог дапусціць, што яны зайшлі так далёка. Але наўпрост пісаць пра гэта — не. Падобны цяжар маглі ўскласці на сябе толькі яўрэйскія аўтары.

**І. Р.: Французы менш адчувалі адказнасць?**

**М. Б.:** Французы думалі, што яны выйгралі вайну. Была прага вярнуцца непасрэдна да перадваеннага часу, каб усё зноў сталася такім, як у 1937 годзе. Мы, моладзь, лічылі гэта ілюзіяй. Еўропа для нас падавалася краявідам руін.

**І. Р.: Еўропа, найперш, не была больш цэнтрам свету.**

**М. Б.:** Так. І французам цяжка было ўсвядоміць гэта. Еўрапейцам спатрэбіліся дзесяцігоддзі, каб наогул заўважыць, што Еўропа пазбаўленая ўлады. Еўропа доўга яшчэ летуценіла сваімі вялікадзяржаўніцкімі марамі.

**І. Р.: Дык што такое еўрапейская супольнасць: ілюзія пра ўласную веліч?**

**М. Б.:** Цалкам дакладна. Наша слепата звязвае нас.

**І. Р.: Мы ўсё яшчэ лічым сябе спадкаемцамі Рымскай імперыі.**

**М. Б.:** Толькі пасля алжырскай вайны французы павольна, але зразумелі, што з гэтым скончана. Я шмат падарожнічаў і навучыўся глядзець на Еўропу звонку.

**І. Р.: Амерыка неўзабаве пасля вайны стала новым разумовым цэнтрам свету.**

**М. Б.:** Цалкам слушна. Сітуацыя ў Амерыцы карэнным чынам змянілася пасля вайны. Дагэтуль у амерыканскай эліты была каланіяльная свядомасць: яны пачуваліся залежнымі ад Еўропы ў культурным плане. У міжваенны час усе вялікія амерыканскія мастакі прыязджалі ў Лондан і Парыж. Пасля вайны ў маладых заходнееўрапейскіх інтэлектуалаў была адна мэта: выправіцца ў Амерыку і паглядзець, што яны ўпусцілі.

### «ЦІКАВАЯ ЛІТАРАТУРА ЗАЎЖДЫ ПРАПАНУЕ ШТОСЬЦІ НОВАЕ»

**І. Р.: Гэта слушна для французаў, але не для Гюнтэра Граса і Крысты Вольф. Вы ж чыталі які-небудзь раман Гюнтэра Граса?**

**М. Б.:** Раманы Гюнтэра Граса для мяне занадта абмежаваныя Германіяй.

**І. Р.: Якіх нямецкіх аўтараў вы чыталі пасля вайны?**

**М. Б.:** Вельмі мала, крыху Увэ Ёнсана, крыху Энцэнсбергера.

**І. Р.: Нямецкая літаратура для французаў занадта нямецкая?**

**М. Б.:** Нямецкая літаратура для французаў, без сумневу, з'яўляецца занадта нямецкай. Яны ведаюць яе вельмі дрэнна. Яны ведаюць яе прадстаўніка Гётэ, але лічаць яго нямецкім рамантыкам.

**І. Р.: Пасля вайны пачалося тое, што пазней назвалі эканамічным цудам. Ці надарыўся цуд літаратурны?**

**М. Б.:** Я так не думаю. Хутчэй быў рэгрэс. Той, хто сёння завецца геніем, не робіць нічога іншага, як узнімае літаратуру на яе першапачатковы ўзровень.

**І. Р.: Але прагрэс у сэнсе навізны быў?**

**М. Б.:** Цікавая літаратура заўжды прапануе штосьці новае. Тым не менш падаўляючая большасць кніг прапануе нам усё апроч навізны. Таму яны хутка забываюцца. Кнігі, якія прапануюць новае, перашкаджаюць, яны цяжкія для чытання, не ведаеш, як трэба пра іх гаварыць і г. д. Такія кнігі амалоджваюць культуру.

**І. Р.: Ці можа амаладжэнне літаратуры прыйсці з еўрапейскіх ускраін?**

**М. Б.:** Я не ведаю.

**І. Р.: Вам што-небудзь гаворыць імёны Багуміла Грабала, Данілы Кіша, Аляксандра Цішмы, Петэра Надаша, Петэра Эстэрхазі альбо Анджэя Стасюка? Яны ўсе належаць да еўрапейскага канона літаратуры.**

**М. Б.:** Не, я не чуў гэтых імёнаў.

**І. Р.: Можна зрабіць выснову, што ўз'яднанне Еўропы ўдалося не цалкам. Ці нам проста не хапае пачуцця салідарнасці?**

**М. Б.:** Яго трэба хутчэй развіць, бо адваротнае было б для нас усіх, у тым ліку для Германіі, катастрофай.

*Die Zeit (21 ліпеня 2012 года)*

**Пераклад з нямецкай Канстанціна ВЯЛІКОЎСКАГА**

# У космасе касцюма

З'яўленне такіх кніг сёння — хутчэй заканамернасць, чым выпадковасць. Мяркуйце самі: вечарыны, дзе танчаць беларускія народныя танцы, збіраюць аншлагі, усё больш гуртоў выбірае фольк у якасці аднаго з кірункаў сваёй дзейнасці, ды і мець у шафе нацыянальны касцюм, насіць яго модна і нават выгадна (забяспечвае бясплатны ўваход на некаторыя фестывалі фальклору). Але як аматару традыцыйнай культуры не разгубіцца, не быць падманутым стылізатарамі, а атрымаць (пашыць, набыць) сапраўдны беларускі касцюм? Добрым дапаможнікам у гэтай справе стане кніга Міхаіла Кацара «Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка», а таксама даследаванне Вольгі Лабачэўскай і Зінаіды Зімінай «Беларускі народны касцюм: Крой, вышыўка і дэкаратыўныя швы». Абодва выданні пабачылі свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі». Адметна таксама, што не так даўно на паліцах кнігарняў з'явіліся новыя тыражы гэтых кніг. А што яшчэ можа больш яскрава сведчыць пра іх папулярнасць?

## ПРА ШТО РАСКАЗВАЮЦЬ УЗОРЫ?

Сталася так, што, вывучаючы ў асноўным «высокія» віды мастацтва ў Маскоўскім інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры, а ўлетку прыязджаючы дадому, у вёску Клімавічы Сенненскага раёна, яшчэ да вайны вандруючы па далёкім і блізкім наваколлі, занатоўваючы расповеды аднавяскоўцаў, замалёўваючы, фатаграфуючы ўзоры мастацкай творчасці, Міхаіл Кацар, які пазней стане прафесарам, доктарам мастацтвазнаўства, захаваў цэлы пласт беларускай традыцыйнай культуры. Для публікацыі ён прапанаваў свае занатоўкі і матэрыялы, ужо пасля таго, як выйшаў на пенсію. І нават у неапрацаваным выглядзе яны былі проста бясцэннымі: падобных запісаў больш ніхто і ніколі не зробіць.

«Першае выданне кнігі Міхаіла Кацара «Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка», што пабачыла свет у 1996 годзе, стала настольным дапаможнікам для многіх майстроў народнай творчасці, асабліва маладых, якія ўпершыню адкрылі для сябе старажытны сімвалічны сэнс, глыбінную сутнасць кожнага элемента як быццам добра знаёмага, але, як аказалася, дагэтуль фактычна невядомага беларускага арнаменту», — піша ў прадмове да новага выдання кнігі доктар мастацтвазнаўства, прафесар Яўген Сахута.

Натуральна, з цягам часу стаўленне да народнай творчасці змянілася, змяніліся і падыходы да інтэрпрэтацыі традыцыйных арнаментаў, узораў, мастацкага светабачання нашых продкаў. Таму «з гледзішча вынікаў сучасных даследаванняў у галіне этнаграфіі, фалькларыстыкі, мастацтвазнаўства многія разважанні аўтара падаюцца досыць спрэчнымі, недастаткова абгрунтаванымі, часам — проста наіўнымі ці надуманымі, — піша Яўген Сахута. — таму выданне не прэтэндуе на глыбокую аналітычнасць ці навуковае першаадкрыццё. Галоўнае тут — унікальны матэрыял, які вобразна і рознабакова раскрывае паэтычную душу народа, яго бачанне прыроды і яе ўзаемасувязей з чалавекам і яго жыццём».

Між іншым, Міхаіл Кацар у сваіх разважаннях-тлумачэннях падаецца не толькі ўважлівым, але і досыць чуйным да здабыткаў беларускай народнай культуры, ён адшуквае на ўзорах свае «ключы», кіруючыся не проста тэорыямі і навуковымі падыходамі, але і ўласным разуменнем мудрасці сялян-беларусаў. Да прыкладу, ён піша:

«Часам можа ўзнікнуць пытанне: што разумнае можа сказаць цёмная, непісьменная сялянка? І ўсё ж, не ў крыўду сучасным адукаваным жанчынам, колішнія сялянкі ў духоўных адносінах ім не саступалі. А што да еднасці з прыродай, тонкасці адчування




навакольнага расліннага і жывёльнага свету, то нам да іх далёка». Цяжка не пагадзіцца з шаноўным даследчыкам. Таму і інтэрпрэтацыі ўзораў, што прыводзяць самі сялянкі, падаюцца не такімі ўжо і наіўнымі. Так, таямнічасць і цудадзейнасць абуджэння прыроды пасля зімовага сну тлумачыцца наступным чынам: жанчына стварыла ўзор сонца ў выглядзе ромба з прамянямі. Зямлю зашыфравала гэткім жа ромбам, але з прамянямі ўнутр. Укампанаваўшы сімвал сонца ў сімвал зямлі, майстрыха вобразна паказала, як спалучэнне жыццёвых сіл сонца і зямлі абудзіла прыроду, наступіла вясна. Вось як усё проста, лагічна і лаканічна.

Больш за тое, аўтар у гэтай кнізе выступае не проста ў ролі даследчыка, навукоўца. Ён з цеплынёй, увагай і павагай ставіцца да сваіх гераінь, апроч апісання малюнкаў на іх вырабах распавядае гісторыі жыцця гэтых жанчын, зашыфраваныя ва ўзорах: «Я пражыла доўгае жыццё, мне 85 гадоў. Выткала шмат посцілак і ручнікоў. Усё, што я бачыла ў жыцці, што рабіла, як мучылася, вясялілася, любіла хлопцаў, выходзіла замуж, як мы будавалі дом, кахалі адзін аднаго — усё гэта я расказала ў сваіх работах».

Зусім не здзіўляе той факт, што гэтая кніга стала падручнікам для многіх пакаленняў фалькларыстаў, даследчыкаў, майстроў. Тут не проста сабраны факты і адкрыцці, тут — «ключ» ад народных скарбаў — пашана да майстрыхі, яе работы, а таксама цэлай жыццёвай гісторыі, «расказанай» мовай сімвалаў.

## ІМКНЕННЕ ДА ПРЫГОЖАГА

У беларусаў захавалася павер'е, што на тым свеце дзяды пазнаюць сваяка па адзенні, якое насілі ў іх родзе. Таму не так даўно яшчэ было прынята хаваць памерлых у традыцыйным строі: вышытых кашулях, фартухах, намітках. Але касцюм не толькі служыць міфічным тагасветным арыенцірам, рысай з кагорты «свет вялікі, можа і праўда», але і сапраўды ў некаторай ступені з'яўляецца сімвалам сям'і, нацыі. Да яго ставяцца з вялікай павагай, у некаторых сем'ях захоўваюць прадметы адзення цягам многіх гадоў, як сямейную рэліквію перадаюць з пакалення ў пакаленне.

Матэрыял, выкладзены ў даследаванні Вольгі Лабачэўскай і Зінаіды Зімінай «Беларускі народны касцюм: Крой, вышыўка і дэкаратыўныя швы», назапашваўся аўтарамі падчас многіх экспедыцый, якія цягам больш як чвэрці стагоддзя ладзіліся ў розныя рэгіёны краіны. Больш за тое, была зроблена вялікая праца па рэканструкцыі асобных швоў і забытых тэхналогій. Адметна, што кніга не проста знаёміць чытача з беларускім этнаграфічным касцюмам, але і прапаноўвае своеасаблівы «майстар-клас» па канструяванні народнага ўбору ў адпаведнасці з існуючымі правіламі і канонамі. Тут нават можна




пабачыць узорнік, дзе сабраны прыклады арнаментаў, якія могуць быць выкарыстаны пры стварэнні нацыянальнага касцюма, у сучаснай вышыўцы ці ў іншых відах дэкаратыўнага тэкстылю.

У выданні згадваюцца і адметнасці нашэння розных прадметаў адзення. Так, аўтары пішуць: «На кірмашы ў мястэчку, куды прыязджалі сяляне з розных мясцін, па спосабе завязвання наміткі можна было даведацца, жыхаркай якой мясцовасці з'яўляецца тая ці іншая жанчына. Часам у адной вёсцы жанчыны, якія належалі да розных родаў, насілі свае галаўныя ўборы па-рознаму… У розных вёсках была свая мода на формы варатнікоў кашуль, манжэт».

Адметна таксама, што ў якасці ілюстрацый да гэтага выдання служаць фотаздымкі аўтэнтычных беларускіх касцюмаў, якія захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, Музеі старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі, Брэсцкага і Гомельскага абласных краязнаўчых музеяў, а таксама іншых устаноў. Як падкрэсліваюць аўтары, часам замалёўкі арнаментаў і вышывак, што прыводзяцца ў выданні, былі зроблены з прадметаў народнага адзення падчас экспедыцый. Часта гэта былі рэчы, пашкоджаныя часам. Магчыма, гэтая кніга стане не толькі добрай крыніцай ведаў пра беларускі касцюм, але і захавальніцай нашых нацыянальных скарбаў для наступных пакаленняў беларусаў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Куток даўніны і Нямцэвічы




Кожны, хто возьме ў рукі трэці нумар Брэсцкага раённага краязнаўчага альманаха «Астрамечаўскі рукапіс», пераканаецца: выхад у свет выдання такога кшталту — падзея неардынарная.

Як і ў папярэдніх нумарах, тут шмат эксклюзіўных матэрыялаў, а змест артыкулаў, замалёвак і падборак адпавядае заяўленаму ў самым пачатку лозунгу «Праз мінулае — да сучаснасці і будучыні». Перш за ўсё чытач пазнаёміцца з нотнай партытурай музычнага твора «Куранта», узятага са знакамітага архіўнага дакумента XVII ст. «Астрамечаўскі рукапіс». Далей прадстаўлены ўжо традыцыйны раздзел «Астрамечава і астрамечаўцы», дзе змешчана краязнаўчае даследаванне «Вянок Казіміру Лышчыцкаму», складзенае жыхаром вёскі Лышчыцы Міхаілам Мартынчуком. Тут жа надрукаваны і расповед пра рэдкую кнігу з бібліятэкі імя Ф. Ф. Паўленкава, размешчанай у аграгарадку Астрамечава.

Асноўны тэкставы блок прысвечаны матэрыялам, сабраным падчас леташняй фальклорна-гістарычнай студэнцкай экспедыцыі па вёсках Брэсцкага раёна пад кіраўніцтвам доктара філалагічных навук, прафесара кафедры беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна Іны Швед і рэдактара-ўкладальніка альманаха, пісьменніка і журналіста Аляксандра Валковіча. Сюды ўвайшлі старадаўнія песні, прыпеўкі, абрадавыя напевы, запісаныя на мясцовай гаворцы, прыметы, прымаўкі, успаміны старажылаў Лышчыцкага і Матыкальскага сельсаветаў. Прыцягне ўвагу і артыкул І. Швед «Каляды на Прыбужжы», падрыхтаваны на аснове фальклорнага матэрыялу, сабранага ў Брэсцкім раёне.

Гісторыка-краязнаўчая тэма працягнута ў раздзелах «Скарбніца народных талентаў» і «Старонкі гісторыі». Можна даведацца пра гісторыю вёскі Страдзеч і мясцовай царквы святой Сафіі, пагартаць сямейныя фотаальбомы тутэйшых жыхароў, наведаць Куток даўніны Страдзечскага сельскага Дома культуры, пазнаёміцца з майстрыхамі-вышывальшчыцамі фальклорнага калектыву «Жывая вада» Лепляўскага сельскага клуба, прачытаць у перакладзе са старапольскай архіўныя дакументы сярэдзіны XVIII ст., якія датычаць маёмасных адносін Нямцэвічаў, уладальнікаў маёнтка ў вёсцы Скокі, а таксама пазнаёміцца з вынікамі археалагічных раскопак, праведзеных сёлета ў Скоках.

Шырока прадстаўлены літаратура і мастацтва: творчасць членаў гуртка «Натхненне» Чарнаўчыцкай сярэдняй школы, вершы паэтаў Прыбужжа (Святланы Будковай, Ціны Хутаранкі, Уладзіміра Турава). Асобны расповед — пра мастака-выкладчыка Матыкальскай дзіцячай школы мастацтваў Антона Мартынюка. Выявы зробленых ім малюнкаў, выцінанак, безумоўна, упрыгожылі альманах.

У рубрыку «Калаўрот культурнага жыцця» патрапілі самыя значныя мерапрыемствы: касцюміраваны баль у доме-музеі Нямцэвічаў у Скоках, удзел прадстаўнікоў Брэстчыны ў III Міжнародным фестывалі традыцыйных культур і рамёстваў «Этнавясёлка», які праходзіў у Калужскай вобласці Расіі, у Беларускім этнаграфічным фэсце «Культура на сходах музея», што адбыўся ў польскім горадзе Гайнаўка, і інш. Усюды традыцыйную культуру Прыбужскага краю прадстаўлялі вядомыя майстры Брэсцкага раённага Дома рамёстваў.

Заключныя старонкі выдання прысвечаны самым старадаўнім праваслаўным храмам Брэсцкага раёна. Змешчаны фотаздымкі і гістарычныя звесткі. Дарэчы, Свята-Крыжа-Узвіжанская царква ў вёсцы Вістычы не так даўно адзначыла 335-годдзе.

**Аляксандр МІХАЙЛАЎ**

# Доўгая дарога да людзей



*Злева направа: фотакарэспандэнт Уладзімір Гурыновіч, першы галоўны рэдактар газеты Аляксандр Астапаў, адказны сакратар Іосіф Карпыза, намеснік галоўнага рэдактара Васіль Праскураў, літсупрацоўнікі Ісак Бярковіч і Віктар Гардзей. У цэнтры — былы сакратар Ляхавіцкага падпольнага райкама партыі Сцяпан Дзесюкевіч. 1965 г.*

Сёння раённая газета «Ляхавіцкі веснік» адзначае свой 70-гадовы юбілей. За гэты час яна тройчы мяняла назву, але не здрадзіла сваім чытачам, падпісчыкам: працаўнікам палёў і фермаў, педагогам, работнікам розных сфер эканомікі. Раёнка аднавіла сотні імёнаў і падзей, з якімі знітаваны гісторыя і гонар маляўнічага кутка брэсцкага Палесся. Неацэнная заслуга журналістаў і ў тым, што ўбачыла свет дакументальная кніга-хроніка «Памяць. Ляхавіцкі раён» — першае выданне такога кшталту ў Беларусі. Цяпер мясцовыя журналісты паспяхова ажыццяўляюць творчы праект «Гісторыя ў асобах». Газетчыкі — ініцыятары многіх цікавых акцый і масавых мерапрыемстваў. Напрыклад, дзякуючы іх намаганням у былым фальварку Фларыянава створаны парк імя Элізы Ажэшка. У пачатку XX стагоддзя пісьменніца часта завітвала сюды, яе звязвала цёплае сяброўства з уладальнікам маёнтка Тадэвушам Бохвіцам — чалавекам годным і высокаадукаваным.

Пра творчы патэнцыял рэдакцыі сведчаць тыраж выдання і шматлікія ўзнагароды. «Ляхавіцкі веснік» — пераможца VIII, лаўрэат V, VI, VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая ліцера», неаднаразовы пераможца абласнога спаборніцтва сярод раённых і гарадскіх газет. У гэтым, вядома, немалая заслуга галоўнага рэдактара Вольгі Барадзіной — заслужанага журналіста Беларускага саюза журналістаў, лаўрэата прэміі БСЖ «Залатое пяро».

Без перабольшвання, газета дала пуцёўку ў вялікую літаратуру многім вядомым сёння паэтам, празаікам, публіцыстам. Свае першыя вершы ў ёй надрукавалі Віктар Гардзей, Алесь Бадак, Леанід Пранчак. У свой час тут плённа працавалі Іван Кірэйчык, Васіль Праскураў, Алег Шлег. Частымі гасцямі рэдакцыі былі Уладзіслаў Нядзведскі, Міхась Скрыпка, Алесь Ставер, Адам Русак, Мікола Купрэеў, многія іншыя майстры слова. І сёння творчыя сувязі захоўваюцца. А гэта значыць, што ляхавіцкая зямля яшчэ падорыць Беларусі не аднаго выдатнага пісьменніка.

«ЛіМ» далучаецца да шматлікіх віншаванняў ляхавіцкім газетчыкам.

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

# Кава з Анатолем Казловым

Не, усё ж такі я схлусіла пісьменніку Анатолю Казлову. «Незламаная свечка», ягоны зборнік апавесцей («Мастацкая літаратура», 2000), была маёй другой кніжкай з сучаснай беларускай літаратуры. Першая ж — мне было чатырнаццаць — «Расстайны пах асоту» Анатоля Бутэвіча. З Бутэвічам зачапіла прыгожая назва, прыгожая вокладка з юнаком і дзяўчынай. І, падлеткам, чытаць пра каханне падлеткаў — гэта, канечне, хіт!

А праз год, у пятнаццаць, здарыўся Анатоль Казлоў. Мая мама, захопленая працэсам набыцця ўсё новых кніжак, паведамляе: «Бачыла ў кнігарні прозу сучасных беларускіх пісьменнікаў!» Мяккая вокладка, кішэнны памер — кошт іх быў да крыўды смешны… Мяне, «пісаку» з дзяцінства, гэтая інфармацыя ўразіла, сталася радасным адкрыццём. Аказваецца, зусім побач, у нашай роднай беларускай сучаснасці, ёсць тыя, хто пішуць апавяданні, аповесці, раманы. Гэта не школьны Кузьма Чорны альбо Фёдар Дастаеўскі, не Якуб Колас, а штосьці вельмі зразумелае, да захапляльнасці блізкае!

Мама прынесла з кнігарні «Незламаную свечку» Анатоля Казлова, «Любіць ноч — права пацукоў» Юрыя Станкевіча, «Ля трох пуцявін» Валянціны Кадзетавай. Ці паверыла б я тады, што праз дзевяць гадоў буду па-сяброўску піць каву з пісьменнікам Анатолем Казловым?

…Працаваць у часопісе — не толькі мёд. І ўсё ж ёсць тут столькі цудоўнага, што прамяняць на іншае — як лепшага сябра з жыцця выкрасліць. Напрыклад, хадзіць на каву з нашага пакоя пад назвай «Часопіс "Бярозка"» ў суседні, што прывабна завецца «Часопіс «Маладосць». Аддзелы прозы, паэзіі, крытыкі і публіцыстыкі». Напэўна, гэта радасць каштоўная: калі падчас працоўнага дня можна піць каву, гутарыць пра літаратуру і сур'ёзныя праблемы жыцця.

Аднойчы я зразумела, што захапляюся асобай пісьменніка Анатоля Казлова, загадчыка аддзела прозы. Бо спадар Анатоль — глыбокі калодзеж з сапраўднай, незабруджанай вадой. Пафасна? Тады можна дадаць, што ў калодзежы свая непазбежная «недачышчанасць». Ды нават з ёю калодзеж глыбокі, з празрыстай вадою. Гэта заварожвае, натхняе лавіць гармонію ў будзённасці і надалей спазнаваць сябе ды жыццё. Ёсць людзі, чыімі словамі любуешся, разглядаеш іх прыгожую сплёсць і сакавітую асэнсаванасць.

Люблю людзей, што не ствараюць гучнай важнасці, у чыёй несур'ёзнасці — мудрасць яны са мной адной крыві, таму і люблю). Дык вось пісьменнік Анатоль Казлоў можа з лёгкасцю выкрыць святую святасць і высокую значнасць літаратурнай творчасці. Нібы Шыва — індуісцкі Бог-разбуральнік.

— Мне нават шкада тых маладых людзей, што пішуць, — кажа ён. — У творчасці чалавек раскрываецца, становіцца шчырым — і паказвае чытачу ўсё смецце сваёй душы…

Гэта я таксама зразумела гадоў у 20. Чытаць кніжкі — узбагачае ў нейкім сэнсе. Але наўрад ці эстэтызацыя пакут літаратурай можа нешта рэальна вырашыць.

— Літаратура выхоўвае? Наўрад ці! — кажа спадар Анатоль.

Некаторае прамоўленае пісьменнікам Казловым я добра памятаю і нават магу занатаваць у якасці ўлюбёных цытат.

«Не трэба забіваць творчасцю нутраную пустэчу! Любіць блізкіх людзей, проста гуляць па парку — вось што для мяне важна. Я магу спакойна хоць два гады нічога не ствараць. А напісаныя творы ўвогуле трэба пакідаць і забываць…»

Я ж ад сябе дадам, што ўсё — проста і звычайна! Ну ае, гэтую ганарыстасць ад таго, што я — Творца, я — незвычайны, я — таленавіты!

З разумным чалавекам здорава вось што: з Шывы-разбуральніка ён раптам здольныператварыцца ў Брахму-стваральніка. З Анатолем Казловым можна не толькі святую Важнасць літаратуры выкрываць. Але і на «канструктыўныя» тэмы гутарыць.

Не люблю інфантыльнага, крыклівага змагання за беларушчыну. Бессэнсоўна рабіць трагедыю з таго, што хтосьці таленавіты за мяжу эмігрыраваў. Але ж спакойна, «па-даросламу», цікавіцца сваёй культурай, нічога нікому не навязваючы, — чаму б і не? Дык вось калі спадар Анатоль кажа пра штосьці беларускае, мне здаецца, прамаўляецца яно са спакойнай глыбіні, а не з паверхневага змагання.

— У маім асяродку шмат маладых, адукаваных, інтэлігентных, але беларускую літаратуру зусім не ведаюць, толькі на рускую і еўрапейскую звяртаюць увагу, — кажу.

— Ну дык хіба яны інтэлігенты, калі не цікавяцца тым, што побач?

Анатоль Казлоў, народжаны ў вёсцы Асінаўка Краснапольскага раёна, не раз казаў, што, пераехаўшы ў горад, мы штосьці згубілі.

— Ведаю, што некаторыя вясковыя бабулькі нават паміраць не баяліся… — кажа.

Загадчык аддзела прозы прыходзіць у рэдакцыю, сядае за свой літаратарскі пісьмовы стол і, забываючы сябе, бясконца спасцігае ўсё новыя і новыя літаратурныя сусветы.

**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**

# Блаславёны падарунак

Сталічны «Кніжны салон» — месца, дзе можна набыць практычна любое выданне, сустрэцца з цікавымі людзьмі — пісьменнікамі, навукоўцамі, мастакамі, паўдзельнічаць у прэзентацыях і даведацца пра нешта новае. Гэтым разам тут дэманстраваўся фільм вядомага чэшскага дакументаліста Атакара Шміта «Пражскае Езулатка».

У ліпені мінулага года адбылася знакавая падзея для сяброўскіх стасункаў Беларусі і Чэхіі. Падчас святочнага ўшанавання Найсвяцейшай Дзевы Марыі Будслаўскай тагачасны Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Іржы Карас зрабіў беларускаму народу найкаштоўны падарунак — статуэтку Міласцівага Пражскага Богадзіцяці, дакладную копію Пражскага Езулатка, якая захоўваецца ў храме Марыі Пераможнай у Празе, мае складаны і цікавы лёс.

Гісторыя пачынаецца ў Іспаніі. Згодна з легендай, перад адным набожным селянінам прадстаў аднойчы маленькі Ісус. Пазней вернік зрабіў яго выяву. Статуэтка шмат гадоў падарожнічала ад адной арыстакратычнай сям'і да другой і нарэшце апынулася ў Празе.

Зроблена яна з дрэва, пакрыта каляровым воскам. Маленькі Ісус адной рукой благаслаўляе, другой трымае зямны шар з крыжам. Гэта сімвал веры, надзеі, дзіцячай чысціні і велічнасці адначасова.

Часта можна пачуць пра цудатворную сілу фігуркі. Таму і па сёння тысячы людзей з усяго свету едуць у Прагу да Маленькага Ісуса...

Копіі Пражскага Езулатка ёсць у многіх краінах свету. «Няхай жа заступніцтва Міласцівага Пражскага Богадзіцяці будзе цяпер і з беларускім народам!» — абвясціў спадар Іржы Карас у сваёй прамове падчас урачыстай цырымоніі перадачы статуэткі. Сёння яна захоўваецца ў Архікафедральным Касцёле імя Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Мінску.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Прыгоды перад Новым годам




Цікава, што бывае з ёлачкай, якой пашчасціла стаць навагодняй прыгажуняй, пасля таго, як яна парадавала дзяцей і дарослых? Калі вы не задумваліся пра гэта, то звярніцеся да п'есы-казкі вядомага беларускага драматурга Васіля Ткачова «Жыла-была Ёлачка», якая і дала назву кнізе, што зусім нядаўна пабачыла свет у выдавецтве "Народная асвета», і вы атрымаеце адказ на гэтае пытанне.

У зборніку змешчаны таксама п'есы-казкі «Добры сачанік Аўгей, або Прыгоды перад Новым годам» і «Чарадзейны рукзачок». А вершы да гэтых п'ес-казак напісалі вядомыя беларускія паэты Артур Вольскі, Мікола Чарняўскі і Уладзімір Мазго.

Варта адзначыць, што сёння спектаклі па драматычных творах Васіля Ткачова ідуць у многіх тэатрах нашай краіны, Расіі і Казахстана.

П'есы, якія склалі новую кнігу Васіля Ткачова «Жыла-была Ёлачка», могуць быць шырока выкарыстаны і ў школьнай мастацкай самадзейнасці. І асабліва цяпер, калі юныя тэатралы пачынаюць рыхтавацца да святкавання Новага года і падбіраюць творы да навагодніх свят.

**Міхась СЛІВА**

# Детская классика: ещё одна серия

Странный эффект вызывают у нас книги, которые читали мы когда-то в детстве и к которым вернулись уже взрослыми. Многие герои, которых мы считали, например, идеальными, вдруг открывают не замеченные нами ранее стороны, и стороны не слишком привлекательные. Или же — злодей, повинный в горе или гибели персонажа, оказывается не таким уж чёрствым, глупым или корыстным. Можно было бы назвать это эффектом «двойного дна»: открывая книгу, ребёнок открывает что-то вроде волшебного сундука, но потом он вырастает, находит тайник и удивляется, как же раньше его не замечал. Вы можете сказать, что любая хорошая книга при каждом новом прочтении меняет своё лицо, как меняется лицо человека при разном освещении. И будете правы. Но для детских изданий это особенно важно. Это первейший признак хорошей книги, и если «большой» читатель может позволить себе дурную литературу, то «маленького» нужно всячески оберегать от недозрелых или даже ядовитых плодов. Но это только присказка. Сказка начнётся сейчас.

## ИЗДАТЕЛЬСТВА, АУ!

Доказано, что лучший «оберег» от некачественной литературы — это книжные серии. Как правило, над ними работает устоявшийся штат редакторов и консультантов, которым можно доверять. В этом году белорусов порадовала серия книг карманного формата издательства «Лениздат-Классик», договор с которым был заключён во время февральской книжной выставки.

Ещё одна хорошая новость — серия **«Вся детская классика»** московского издательства АСТ. О том, что издательство московское, мы не зря упомянули. Пока — автору, во всяком случае — известны четыре книги этой серии: **«Все истории о Поллианне»** Элинор Портер, **«Любимые повести для девочек»** Лидии Чарской, **«Кортик. Бронзовая птица»** Анатолия Рыбакова и **«Всё о больших приключениях»** Эдуарда Успенского (о первых трёх изданиях мы расскажем подробнее). Уже из перечисленного можно понять, что серия рассчитана на классику русской детской литературы и наиболее популярные произведения зарубежных авторов. То есть несмотря на все достоинства серии, нам не дождаться от неё белорусских произведений. И тогда возникает вопрос: сколько ещё времени нужно нашим издательствам, чтобы начать выпускать детскую литературу не только в разрозненном виде, но и сериями? Научно-популярные книги про насекомых, рыб и т. д., над которыми работал Алесь Бадак, не в счёт. Если же наши издательства боятся, что такое начинание не




будет иметь успеха, то зря: людям нравится собирать книжные коллекции, особенно, хорошо оформленные. И особенно тем, у кого имеется домашняя библиотека, а таких у нас большинство.

А теперь о книгах.

## САМАЯ ТРУДНАЯ ИГРА

Как часто вы улыбаетесь? А ещё вернее — как часто вы радуетесь? Оставим эти вопросы без ответов, чтобы не расстраиваться.

В 1913 году Элинор Портер выпускает книгу «Поллианна». И книга потрясает Америку. История о жизнерадостной девочке издавалась миллионными тиражами, и тем не менее их не хватало. По всей стране создавались так называемые «Клубы "Поллианны"», в которые вступали не столько дети, сколько их родители. Восторженные читатели были не в силах расстаться с полюбившейся героиней, они забрасывали Элинор Портер письмами и просьбами продолжить историю. В итоге в 1915 году издана вторая книга — «Поллианна вырастает».

Чем же подкупила писательница стольких людей, да ещё в тревожные годы накануне Первой мировой войны и во время её? Секрет заключается в главной героине истории.

В маленьком городке есть большой дом. Здесь живёт женщина, строгая, сухая, ворчливая, и жизнь её заключается в исполнении долга. Этот самый долг мерещится ей всюду: должно помочь бедным, должно заботиться о больных, должно содержать дом в чистоте и порядке, в строжайшем порядке должны сохраняться и мысли. Собственно, нет ничего страшного или дурного в слове «долг», но беда в том, что эта женщина — мисс Полли — заменила им нечто гораздо более важное, более ценное и радостное — жизнь.

И однажды в пустом доме появляется девочка одиннадцати лет: веснушки, русые косы, красное платьице, голубые глаза, улыбка. Имя ей — Поллианна. Девочка эта преображает не только жизнь сухой тёти Полли, но и помогает найти красоту и радость в жизни всему городку. Даже больше — она оказывается способной развязать многолетний гордиев узел отношений, наладить которые никто уже не надеялся. И это при том, что сама Полли — сирота. Её мать умерла, когда Полли была совсем малюткой, а отец, бедный пастор, не справился с тяготами и тревогами, которые обрушились на него по смерти любимой жены. У девочки не осталось ничего, кроме суровой тёти на другом




конце страны и Игры, придуманной отцом. О, эта Игра и спасла души многих людей — как в книге, так и вне её.

«— Похоже, что тебе ничему не трудно радоваться, — заметила Нэнси прерывающимся от волнения голосом, вспоминая о мужественных попытках Поллианны полюбить голую комнату на чердаке.

Поллианна негромко рассмеялась.

— Потому что это такая игра.

— Игра?

— Да, игра в то, чтобы просто радоваться».

Очень трудная игра — просто радоваться. А началась она тогда, когда Поллианна хотела получить куклу, но вместо неё в приходских пожертвованиях нашлись только костыли. Поллианна была очень расстроена, но мудрый папа сказал: нужно радоваться хотя бы тому, что они тебе не нужны.

Порой Игра доводит речи Поллианны до абсурда. Случается и обижать людей — ненароком, конечно. Но чем пересказывать приключения Поллианны, лучше посоветовать вам самим прочесть эту добрую и смешную книгу. Кстати, любителям загадок здесь тоже найдётся чему порадоваться.

## НЕЗДОРОВОЕ УВЛЕЧЕНИЕ

Анатолий Рыбаков известен не только «взрослой» тетралогией «Дети Арбата», но и приключенческими повестями «Кортик» и «Бронзовая птица». На них выросло не одно поколение, но книги по-прежнему не устаревают. Московские школьники Мишка Поляков, Генка Петров и их друзья постоянно попадают в странные истории, насколько интересные, настолько и опасные, и каждый раз распутывают загадки, которые не под силу решить даже взрослым. Сначала это тайна старинного морского кортика, за которым охотится офицер с погибшего линкора, потом — загадка бронзовой птицы в заброшенной усадьбе.

Однако не только увлекательным сюжетом привлекает Анатолий Рыбаков. В его книгах есть юмор, несколько грустный, но всё же юмор, и благодаря ему мы можем оценить то время, время коммунизма, пионеров и упований на светлое будущее, а также понять самого писателя и его отношение ко всему вышеперечисленному. Яркий пример — глава «Стенная газета» в повести «Кортик».

## ИНСТИТУТ БЛАГОРОДНЫХ ДЕВИЦ

С мальчишками всё понятно. У них образцов для подражания предостаточно. А девочки? Кто их вдохновит на подвиги? Условимся сразу же, что девочки на подвиг способны не менее, чем мальчики.




Джейн Эйр? Элизабет Беннет? Может, Пеппи Длинныйчулок? Или отважная Герда?

Пополним список героинями Лидии Чарской. В книгу «Любимые повести для девочек» вошли два её произведения — «Княжна Джаваха» и «Записки Институтки». Лидия Алексеевна, заставшая одновременно и Серебряный век, и 1937 год, писала о воспитанницах Павловского института благородных девиц, выпускницей которого была сама. В её книгах есть то важное, нужное, дорогое, чего многим современным девушкам не хватает, — чувство собственного достоинства. Не завышенной самооценки — о, это совершенно другое! Кроме того, Лидия Чарская раскрывает такие понятия, как справедливость, долг, дружба, а главное — милосердие.

**Анастасия ГРИЩУК**

# Книжный концентрат



То ли человечество вконец обленилось, то ли стало чрезмерно занятым, но всё чаще и настойчивее читателю стали предлагать собрания цитат, изречений, афоризмов и т. п. В виде красочного и незамысловатого подарка такие издания вполне безобидны, но как бы этот книжный концентрат не заменил самих книг, настоящих, глубоких произведений.

Впрочем, каждый выбирает по себе. Мы можем лишь предложить варианты.

Например, **«Великие изречения» Конфуция**. Аннотация утверждает, что в книге собраны мудрые высказывания знаменитого китайского мыслителя, жившего примерно в 551 — 479 годах до н. э. Как известно, единственный сохранившийся письменный сбор речей Конфуция — это книга «Лунь Юй» («Беседы и суждения»), составленная из школьных записей Конфуция его учениками уже после смерти мудреца. Некоторые сведения о трудах философа сохранились в более ранних текстах, а в даосской литературе фигурируют даже анекдоты с его участием. К чему это было сказано? А к тому, что «Великие изречения» — это избранные места древней книги «Лунь Юй». Издание очень красиво само по себе. Отдельного внимания заслуживают утончённые китайские гравюры, которыми проиллюстрирована книга. Однако если вы захотите узнать больше о Конфуции или его учении, вам придётся обратиться к более серьёзным изданиям.

Ещё одна книга подобного формата — **«О любви. 3555 строк»**. Хотя вернее было бы назвать её «О любви и женщинах», так как первая половина высказываний посвящена прекрасному полу, притом высказывания эти не всегда лестны. Авторы здесь собраны самые разные: Пьер Корнель, Лев Толстой, Михаил Пришвин, Франсуа де Ларошфуко, Сельма Лагерлёф, Антуан де Сент-Экзюпери, Овидий, Мигель де Сервантес, Мишель Монтень, Джон Мильтон… Лучшие умы, что и говорить. Даже Адам Глобус затесался. Не менее впечатляющий и отбор художников, репродукции чьих работ иллюстрируют издание, начиная Рафаэлем Санти и заканчивая нашим Борисом Заборовым. Книга в итоге превращается в две: цитатник и художественный альбом, благо качество печати и бумага позволяют насладиться репродукциями.




**Владимир ГОРЫНЬ**

# Аляксандр АРЦЫБАШАЎ

# І адбудзецца Ушэсце



У сваіх кнігах «Турботы Філатавых», «Прысвяці зямлі жыццё», «Даруй, бацька» і інш. расійскі пісьменнік А. Арцыбашаў даследуе сучаснае вясковае жыццё, працягваючы традыцыі «паэтаў вёскі», аднак, у адрозненне ад іх, творца глыбей аналізуе фактары геапалітычнага ўплыву на трагедыю сённяшняй сельскай гаспадаркі Расіі. Мяркуем, што і беларускаму чытачу будзе карысна пазнаёміцца з апавяданнем гэтага аўтара і параўнаць яго меркаванні з думкамі айчынных літаратараў.

Страшэнны мароз нагнаў сівер у самым пачатку лютага. Якія ўжо халады панавалі на Вадохрышча — вохкалі бабы: пакуль ішлі ад хлява да сянец, малако, толькі-толькі надоенае, схватвалася лядком, — а тут жароўні ў печах не астываюць, а па кутках усё шэрань ды шэрань.

Хаты, праслы, дрэвы амаль немагчыма было ўгледзець у гэтым густым малодзіве, нібыта ва ўсіх адразу пагоршыўся зрок. У сорак градусаў мужыкі, здаралася, пацепвалі плячыма ў аўчынах, аднак жа ехалі сабе ў лес на дзялянкі. Хіба што дзятву ў школу не пускалі, каб не памарозілася.

— Высока аглоблі пазадзіраў, — гаманілі ў хатах, — бярэмцы дроў так і знікаюць адно за адным. І жывёле ня́добра — ад дыхання якое цяпло?

Такой парой у нашым доме памёр дзед Васіль. Гэта была першая смерць роднага чалавека на маёй памяці. Мне толькі-толькі споўнілася сямнаццаць. У горад, дзе я вучыўся ў тэхнікуме, прыйшла кароткая тэлеграма: «Прыязджай, дзеду надта блага. Бацька». Здаецца, гэта паперчына дагэтуль ляжыць дзесьці ў маім стале, неаднойчы бачыў яе, перабіраючы старыя лісты, віншавальныя паштоўкі, фотаздымкі, і штораз з жахам узгадваў сумную гісторыю дзедавага пахавання: таямнічую, загадкавую, у пэўным сэнсе нават містычную.

Маразы маразамі, а на трэці дзень, згодна з хрысціянскім звычаем, трэба пахаваць нябожчыка. Трэба было выпраўляцца на клады і капаць дол.

Бацька прывёз на клады дзве машыны смалякоў, расклалі агонь. Капаць дол пагадзіліся нашы суседзі: мажны, азызлы Пётр Шарын — з выгляду ён меў гадоў пяцьдзясят — і даўгалыгі, як сланечнік сярод бульбы, з худым, непрыемным тварам халасты хлапчына Паша Мандрыкін, што меў мянушку Марыя Іванаўна. Гэта было імя яго маці. Яна працавала ў клубе прыбіральшчыцай, гадавала сына адна і лічылася першай пляткаркай у пасёлку. Сам Паша быў добрым, незласлівым хлопцам, аднак жа вось прычапілася: «Марыя Іванаўна»… Хоць вый ад злосці! І здаралася, выў, ганяўся, як шалёны, за крыўдзіцелямі, а мянушка так і засталася, як засечка на дрэве. Мы ўсе спадзяваліся, што дровы пагараць гадзіны тры-чатыры і зямля хай сабе хоць на штых лапаты, але зробіцца мякчэйшай. Наперадзе яшчэ два дні, трэба думаць, у належны тэрмін дол і будзе падрыхтаваны.

Дзед быў чалавекам набожным, без адпявання хаваць нельга. Найбліжэйшы храм у сяле Петрапаўлаўскім быў разбураны, а калі апошняга святара саслалі на Калыму, дык і старыя ўжо не памяталі. Службы, праўда, адбываліся ў царкве Багаслоўскага завода, але ад нас гэта амаль што сто вёрстаў. Бабуля паклікала да нас вельмі старую жанчыну, каб тая памалілася. Сухая, згорбленая постаць яе ў клубах марозу, што ірванулся з сянец праз адчыненыя дзверы, мільганула перада мною ледзь заўважным ценем, і разгледзець твар каненкага я змог толькі тады, калі следам за ёю пераступіў парог прыбудовы. Яна стала ў галовах нябожчыка, паклала на тумбачку чорную кнігу з металічнымі засцежкамі, шчоўкнула замочкамі і пачала шамацець бляклымі старонкамі, нібы пераварочвала зімавалую салому.

— Успамяні, Божа наш, у веры і надзеі жыцця вечнага памерлага раба Твайго, брата нашага Васіля, і, бо Добры і Чалавекалюбівы, даруй грахі і няпраўды, аслабі, адпусці вольныя яго саграшэнні і панявольныя, уратуй ад вечных пакут і агню пякельнага і дай яму прычасць і суцяшэнне… Айца, і Сына, і Святога Духа…

Колькі я ні напружваў слых і не пасоўваўся насустрач глухім злітым гукам, ніяк не мог зразумець, што прамаўляла старэнькая. Гэта як на рачным перакаце б'ецца вада аб слізкія камяні, а што хоча сказаць — паспрабуй уведай. Хоць і былі мы хрышчоныя, але малітваў не ведалі, нават «Ойча наш» не засвоілі.

…У дзень дзедавага пахавання мароз яшчэ ўзмацніўся. З самага ранку бацька паспяшаўся на клады: што з магілай? Паехаў з ім і я. Як толькі мы выйшлі за парог, нашы кажухі пакрыліся шэранню. Дыхаць можна было толькі праз шалік, сцюжа праймала з галавы да ног. Здавалася, паветра было сціснута гіганцкімі ледзянымі коламі. Мужыкі на кладах сустрэлі нас панура.

— Смала кіпіць, а капаць нельга! — злосна кінуў рукавіцы на зямлю Шарын. — Прыдатны час абраў дзед, каб памерці. Гэта, відаць, для таго, каб даўжэй памяталі…

Дол быў выкапаны ўсяго толькі на метр — хаваць нельга. Бацька змахнуў рукавом снег з пацурбалка і апусціўся на яго ў глыбокім роздуме.

— Зараз бы аманальчыку трошкі, і не мучыліся б, — напаўжартам нясмела прамовіў Паша Мандрыкін, часта міргаючы сваімі белаватымі вейкамі.

— Хочаш, каб нябожчыкі наўкола паўставалі? — пасміхнуўся Шарын.

— Ды тут толькі шахцёры ляжаць, да ўзрыўчаткі звыклыя. Мабыць, не напалохаюцца… — адразу ж адказаў яму Паша.

— Не гавары, якая ўзрыўчатка на кладах? — Шарын паварушыў палкай шыпячае паленне і пасля непрацяглай паўзы ўзняў хваравіта-чырвоныя вочы ад вогнішча: — А праўда, што рабіць з магілай?

На нейкі час усе замаўчалі.

— А можа, і сапраўды ірвануць? — першым парушыў маўчанне бацька.

Мандрыкін, падобна да таго, быў гатовы да такога павароту падзей. Рэакцыя яго была імгненнай:

— Тут усяго толькі тры-чатыры пары шпуроў закласці — і ўсё ў парадку!

— Але дзе ўзяць узрыўчатку?

— На шахце. Дзе ж яшчэ?

— Так табе яе і далі… Каму пад суд ахвота? — забурчэў Шарын, запальваючы папяросу.

— Зразумела, з начальствам трэба перагаварыць, — не разгубіўся Паша. — А можа, лепш і не гаварыць? Цішком з узрыўнікамі памеркаваць, і ведаць ніхто не будзе.

— Паспрабуйце, — пагадзіўся Шарын.

Як толькі машына з бацькам і Пашам схавалася пад белай лясной навіссю, мы пачалі награваць жалезныя ламы.

— Госпадзі, чаго толькі не робіш на гэтым свеце! — уздыхнуў Шарын, падкідаючы ў агонь смалякі.

У пасёлку хадзілі чуткі, нібыта ў вайну ён быў у нямецкім палоне, а калі нашы войскі ўвайшлі ў Германію, — уцёк разам з іншымі палоннымі салдатамі на Захад, да амерыканцаў. Баяўся, што расстраляюць. Вандраваў некалькі гадоў па чужыне, а пасля вярнуўся на радзіму. Расстраляць не расстралялі, але ў лагер усё ж такі ўпяклі. Так і застаўся на Паўночным Урале. — Вазьмі рукавіцы ды прытрымлівай лом, — сказаў мне Шарын, падчапіў сухой палкай гарачую жалязяку, падцягнуў яе да агню.

Уподперак магілы ўшчыльную ляжалі два тоўстыя бярозавыя камлі. Ён уваткнуў паміж імі шыпячы лом і ўзяўся за кувалду.

— Трымай, ды мацней!

Я з апаскай абхапіў рукамі верхні канец лома. Магутны удар увагнаў жалеза ў мерзлату не больш як на таўшчыню далоні.

— Яшчэ разок, — намерыўся Шарын і замахнуўся другім разам.

Жалеза застывала на вачах. Пакуль убівалі ў зямлю адзін лом, другі грэўся ў вогнішчы. Так і мянялі іх, пакуль не заглыбілі шпуры да належнай меткі. Шарын адразу ж выцер пот з чырвонага твару і апусціў кувалду:

— Трэба адпачыць трохі.

Мы прысунуліся бліжэй да агню. Ён зноў выцягнуў з кішэні папяросы і з цікавасцю пагля́дзеў на мяне:

— А што, неахвота было ехаць з горада ў гэткую глуш?

— Праўду кажучы, добрага тут мала, — пагадзіўся я. — Ніякай перспектывы…

— А ў горадзе, на тваю думку, вялікая перспектыва?

— Вось закончу тэхнікум, у інстытут буду паступаць, пасля на працу ўладкуюся…

Шарын пацісну́ў плячыма:

— Вучыцца, безумоўна, трэба, але ты нос ад дому асабліва не адварочвай. У горадзе, братка, даўно размеркавана, каму на якім месцы сядзець…

— Кім размеркавана? — не зразумеў я.

— Пажывёш — пабачыш! А тлумачыць — гэта доўгая гісторыя. — Ён утаропіў вочы ў распаленае вогнішча і замаўчаў.

Якім чынам удалося дастаць узрыўчатку, я так і не дазнаўся; тады ў спешцы не было калі распытваць, а пасля пахавання я адразу ж паехаў у горад. Хутчэй за ўсё, зрабілі гэта цішком, наўрад ці хто з горнага начальства распісаўся б у накладной. Ды і ўзрывалі з асцярогай, раз-пораз пазіраючы на дарогу — ці не з'явіцца хто чужы.

Ад узрыву з дрэваў шумна зваліўся снег, зашамацелі па хмызняку камячкі звінячай гліны. Першым падыйшоў да долу Паша Мандрыкін, саскочыў уніз і пачаў выбіраць рыдлёўкай мёрзлы грунт.

— Мелкавата… Трэба было б яшчэ закласці.

— А не абваліцца?

Шарын стаў на край ямíны і паспрабаваў націснуць.

— Не павінна. Бач, як акуратна калупнула.

Мы зноў пачалі напальваць ламы і прабіваць шпуры. Пасля другога выбуху мы здолелі заглыбіць дол на два метры. Але і далей была мерзлата. У гэту застылую зямлю праз пару гадзін мы апусцілі дзедаву дамавіну і, здавалася, назаўсёды развіталіся з дарагім для нас чалавекам.

Усе змерзлі, і таму хацелася як найхутчэй апынуцца ў цяпле. Згодна з традыцыяй, памянулі нябожчыка, і я раней чым звычайна лёг спаць. Пабудзіла мяне нягучная размова ў кухні.

— Не можа быць, каб не развязалі…

— А хто глядзеў?

— Ды ці запомніш усё!

— Трэба яшчэ распытаць.

— Хіба што да Агляма ісці?

— Хай ён прыйдзе… Няўжо і сапраўды забыліся?

Праз дарогу ад нас жылі татары Зінгеравы. Хоць у іх і была другая вера, але мы сябравалі з імі, хадзілі адно да аднаго ў госці, разам касілі траву, пасвілі жывёлу. Дзядзька Аглям працаваў забойшчыкам у рудніку і ўвечары, здаралася, часцяком заходзіў да дзеда пагуляць у карты — у «дурня». Натуральна, ён прысутнічаў і на пахаванні.

Я апрануўся і выйшаў на кухню. Бацька сядзеў пры стале відавочна занепакоены, завіхалася ля печкі маці з заплаканым тварам, румзала, тулячыся да сцяны, бабуля.

— Што здарылася? — спытаў я бацьку.

— Ногі забыліся развязаць дзеду.

— Ну?

— Вось табе і ну! Цяпер думай, як тут быць.

— А навошта іх увогуле звязвалі?

— Каб не разляталіся, калі труну на клады неслі, — адказаў бацька.

— Шэсць тыдняў цяпераka душа яго будзе лунаць нада мною і наракаць, што недагля́дзела пад канец, — пачуўся голас бабулі, якая галасіла і залівалася слязьмі.

У сенцах грукнулі дзверы, і на парозе з'явіўся дзядзька Аглям, следам увайшоў Шарын, расціраючы далонямі чырвоны ад марозу твар. Селі на табурэткі. Зінгераў адразу ж засакатаў:

— Уначы спала, і вось, гляджу, дзядуля, — злосны такі, уся ў белым, пытае: «Навошта Аглям ногі вязаў, як да Бога хадзіць буду?» Мая надта ж палохаўся, язык не магла варушыць, Алах клікала! Хуценька прачнаўся і гайда да Пятра. Яна таксама не памятае. Мой віна які? Маўчаць некарашо…

Ягоныя вочы блукалі па пакоі, баючыся спыніцца.

— Што ж цяпераka, дол раскопваць? — няўпэўнена прамовіў Шарын.

— А хіба ж дазволяць? — выгукнула маці.

— А хто павінен даваць дазвол?

— Відаць, сельсавет…

— Ты яшчэ ў міліцыю данясі, дык там адразу даведку выпішуць на этап! — вылаяўся бацька, злосна зіркаючы ў бок печкі.

Больш за ўсё я шкадаваў бабулю. Я ніколі не бачыў, каб яна плакала: нервы ў яе былі такія моцныя, што нават тады, калі хавала сваіх дзяцей-немаўлят, яна, па ўспамінах, не пусціла слязы. У галодныя гады жабравала, выпрошвала кавалак хлеба, але трывала. Плявала ўслед тым, хто вешаўся, страляўся, тапіўся, а тут раптам рашуча сказала бацьку:

— Пятлю зашмаргну на сабе, калі не адкапаеце.

Мне цяжка нават уявіць, што перажыў тады бацька. Адважыцца на раскрыванне магілы — заўтра злыя языкі разнясуць гэта па ўсім селішчы, і яшчэ невядома, як паставяцца да гэтага ўлады. Не ўзяць пад увагу бабуліну просьбу — да канца сваіх дзён пакутаваць ад сумненняў, вінавацiць сябе за грэх.

…Адкопвалі труну ўсё тыя ж: Пётр Шарын і Паша Мандрыкін. Працавалі моўчкі, не спыняючыся. Змерзлыя камякі зямлі выкідалі наверх рукамі. Нікога з жанчын побач не было: у мужыкоў вочы былі мокрыя ад слёз, а ці ж вытрымала б тое слабое сэрца?

Калі нарэшце на вочы з'явілася сіняя тканіна дамавіны, бацька абхапіў галаву рукамі і ціха прастагнаў:

— Пятро, ты ж глядзі, акуратна з рыдлёўкай…

Мароз пайшоў на спад, усчалася завіруха. Ад скрыгатання цвікадзёра балюча было ўвушшу, а невыносны страх літаральна агарнуў усю маю істоту. Я адчуваў, як невядомая сіла сціснула плечы і самі сабой пачалі падкошвацца ногі, нібыта Творца паслаў зверху жахлівую епітым'ю. Тут бы перажагнацца, але тады не было завядзёнкі рабіць гэта пры людзях, заставалася цалкам пакласціся на волю лёсу і маліцца аб уратаванні сваёй душы моўчкі, ледзь варушачы зусім анямелымі вуснамі.

Мужыкі адкрылі вечка труны, і снег густа паваліў на нерухомае дзедава чало. За ноч яно зусім не змянілася, і ўсё ж такі штосьці новае, ледзь заўважнае з'явілася на сумным твары з закрытымі павекамі. Аплаканы, адпеты, сабораваны ў далёкі шлях, ці спадзяваўся ён на гэту сустрэчу? Хто скажа?

Ногі ў дзеда сапраўды былі звязаныя. Не магу ўявіць, што было б з бацькам, калі б магілу патрывожылі дарма — гэта акалічнасць усё ж такі зменшыла боль. Змерзлымі, нягнуткімі пальцамі Шарын разблытаў сацінавую тасёмку, асцярожна выцягнуў яе з-пад ног і зноў паклаў у труну. Тады, не вылазячы з магілы, тройчы перажагнаўся, пакланіўся нябожчыку і ціха прамовіў:

— Цяпер вольны, нішто не трымае. І адбудзецца Ушэсце!

Паніхіду па дзеду я заказаў праз шмат гадоў, калі храмы ўжо былі ў ласцы і можна было не баючыся запаліць свечку перад Пярэднем. Нібыта груз нейкі зваліўся з плячэй, уздыхнуў з палёгкай і падумаў: «Калі б быў тады на дзедавым пахаванні святар, наўрад ці б здарылася тая сумная гісторыя. Усё наша мітусня, мітусня…»

Пераклад
Ірыны КАЧАТКОВАЙ

# Нібы маленькі тэатр…

Малады жывапісец Васіль Пяшкун стварае вобразы, у якіх пульсуе жыццёвая энергія незвычайнай сілы. Яго нацюрморты нібы дыхаюць фарбамі, а пейзажы ўвогуле нагадваюць чароўны партал. Адзін крок — і ты ўжо сядзіш каля вясковага дрэва ці шпацыруеш шумнай гарадской вуліцай. Дакладная расстаноўка каляровых акцэнтаў, асаблівая ўвага да асвятлення робяць яго карціны маляўнічымі і каларытнымі.


*«Мінск. Канец лета», 2010 г.*

**— Васіль, як вы ахарактарызуеце сваю творчасць?**

— Назва маёй выстаўкі, «Цветопредставление», што прайшла нядаўна ў мінскай галерэі «Мастацтва», невыпадковая, таму што кожная карціна быццам маленькі тэатр. Я прывык пісаць яркія, экспрэсіўныя работы, укладваць у кожны мазок кісці энергію, моц, дынаміку. Галоўны прынцып — ствараць пейзажы толькі на пленэры, менавіта так з'яўляецца эфект прысутнасці, амаль трохмерная выразнасць вобразаў і матываў.

**— Што служыць натхненнем для карцін? Адкуль бяруцца сюжэты?**

— Я дастаткова добра ведаю горад, таму, здараецца, сяджу ў майстэрні і ў думках вандрую па вулачках і плошчах. Раптам, «натрапіўшы» на нейкае цікавае, прыцягальнае месца, хапаю эцюднік, пэндзлі, фарбы і кіруюся туды. Напрыклад, на Нямігу ці ў бок Камсамольскага возера, дзе засталіся дамы з мінулага. Нешта загадкавае ёсць і ў вакзалах, асабліва калі глядзіш з моста на чыгуначны шлях. Больш за ўсё цікаўлюся даўняй архітэктурай, велічнай і ўзнёслай. Але самыя любімыя пейзажы тыя, дзе ёсць родная вёска, куды я езджу да дзядулі. Цёплыя краявіды, дарагія з дзяцінства, хочацца захаваць у памяці назаўжды.

**— У якой тэхніцы працуеце?**

— У асноўным выкарыстоўваю палатно і алей, часам раблю калажы, прылепліваючы розныя рэчы, напрыклад, газету. Яна дадае стрыжань у працу і вельмі цікава ўпісваецца ў кампазіцыю. Бывае, што ўціскаю ў фарбу рыбную луску — дадаю экзатычнасці — або этыкеткі ад бутэлек, калі трэба зрабіць нацюрморт.

**— На што вы звяртаеце найбольшую ўвагу пры стварэнні карцін?**

— У карціне ўсё павінна быць гарманічна: матыў, кампазіцыя, каляровае вырашэнне. Пры гэтым формы работ выбіраю, як правіла, нестандартныя — выцягнутыя ці квадратныя.

**— Чаму вы вырашылі стаць мастаком?**

— Калі мне было гадоў 13, мы з бацькамі выправіліся на экскурсію ў Рыгу. У адным з палацаў я ўбачыў работы мастакоў эпохі Адраджэння. Зачараваны, спыніўся і падумаў: хачу навучыцца маляваць гэтак жа прыгожа! Бацька тады купіў мне першыя алейныя фарбы, і пайшло… У старэйшых класах захапленне жывапісам вылілася ў асэнсаванае, дарослае жаданне стаць мастаком. Я шмат працаваў над сабой, трэніраваўся. Пасля школы паступіў у Гомельскае мастацкае вучылішча, удзельнічаў у абласных і раённых выстаўках, нават быў адзначаны стыпендыяй спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. У 1999 годзе паспяхова паступіў у Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, уліўся ў шэрагі Беларускага саюза мастакоў.

**— Цікава, хто з'яўляецца для вас прыкладам у творчасці?**

— Пэўны час я сур'ёзна захапляўся творчасцю Івана Шышкіна, Ільі Рэпіна, Ісаака Левітана, Валянціна Сярова. Але паступова стаў адыходзіць ад іх выразна выпісаных вобразаў, наблізіўся да пачуццёвых і хаатычных мазкоў імпрэсіяністаў. Цяпер, калі бачу карціну, якая мне падабаецца, проста адзначаю пра сябе: вось выдатны мастак. Няма таго пакланення, якое было раней, на пачатковым этапе маёй творчасці.

**— Вы выдатна працуеце ў жанрах нацюрморта і пейзажа. Не хацелася б паспрабаваць сябе яшчэ і ў партрэтах?**

— Я аддаю перавагу пейзажам і нацюрмортам таму, што тут усё залежыць толькі ад мяне. Вядома, партрэтамі заняцца было б цікава. Але для гэтага трэба запрашаць натуршчыкаў, займаць у людзей час. Сядзець некалькі гадзін практычна нерухома і пазіраваць прызвычаіцца не кожны.

**— Колькі часу ў сярэднім займае напісанне карціны?**

— Эцюды пішу на адным дыханні, з натуры — прыкладна чатыры гадзіны. Пасля можна дапрацаваць карціну ў майстэрні, але зусім крыху. Перарабляць усё бессэнсоўна: адразу не атрымалася — нічога добрага ўжо не выйдзе. Над нацюрмортам можна пасядзець і даўжэй: суткі ці нават тыдзень — усё залежыць ад натхнення.

**— Васіль, падзяліцеся творчымі планамі.**

— Планую і далей шмат пісаць, асвойваць новыя выставачныя пляцоўкі. Мае карціны экспанаваліся ў Празе, Будапешце, Фларэнцыі і іншых гарадах, але ж хочацца супрацоўнічаць не з маленькімі, а з больш сур'ёзнымі галерэямі Еўропы.

**— Якім дэвізам карыстаецеся ў жыцці? Што дапамагае не сумаваць?**

— Добры настрой мне стварае перамена абстаноўкі. Як толькі засумаваў, магу схадзіць у музей альбо выехаць за горад. Наогул, калі прыходзіць дэпрэсія, я кажу сабе, што яна не затрымаецца надоўга. І сапраўды, літаральна праз пару дзён жыццё наладжваецца. Мабыць, таму і карціны мае — светлыя і аптымістычныя.

**Марыя ВОЙЦІК**


*Леанід Гоманаў «Бярэзіна. Лукавая гара», 2009 г. Палатно, алей.*

# Жывапісны кактэйль

Напрыканцы мінулага тыдня адкрыццё адразу трох выставак адбылося ў мінскім Палацы мастацтва.

Алесь Суша — творца, які працуе як у манументальным мастацтве, так і ў розных жанрах станковага жывапісу, — прадставіў сваю юбілейную выстаўку. Карціны адлюстроўваюць глыбокі ўнутраны свет аўтара, яго душэўныя перажыванні. Творчая дзейнасць жывапісца накіравана на захаванне культурнай і гістарычнай спадчыны.

Выстаўка «Срэбра пачуццяў» — творы трох мастакоў з рознымі падыходамі і стылістычнымі асаблівасцямі, звязаныя паміж сабой тонкай пачуццёвасцю і эмацыянальнай выразнасцю. Анатоль Бараноўскі, Алена Бараноўская, Віталь Герасімаў. Паводле саміх жывапісцаў, гэта імпрэза — спроба змяшаць у адным кактэйлі рэчаіснае з містычным, дадаць адценні настрою з бляскам срэбра, сноў і фантазій, адлюстраваных праз мастацкую прызму.

Вылучальнай стала творчая справаздача мастака Леаніда Гоманава «Спатканне». У экспазіцыю ўвайшлі работы з калекцыі Магілёўскага абласнога мастацкага музея імя П. В. Масленікава, з творчых вандровак у Паленава, Тарусу, на Акадэмічную дачу Саюза мастакоў Расіі імя І. Я. Рэпіна, а таксама з падарожжаў па Беларусі, створаныя ў 2009 — 2013 гадах. Краявіды жывапісца адметныя лірызмам, тонкай нюансіроўкай колеру, перадачай ледзь улоўных станаў прыроды. Мастак сведчыць, што для яго вельмі важна, каб людзі аб'ядноўваліся агульнай стваральнай ідэяй. На яго думку, мастацкі пленэр і з'яўляецца сродкам аб'яднання прадстаўнікоў розных культур, традыцый, напрамкаў у мастацтве. Адрозныя культуры не спрачаюцца, а, як на карціне, ствараюць сугучча фарбаў. Творы, прадстаўленыя на выстаўцы, — вынік уражанняў ад іншых краін, традыцый і культур.

Наведаць выстаўкі можна да 3 лістапада.

**Таццяна ШЫМУК**

## Арткарагод

Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры запрашае на выстаўку «Па шляху да творчай сталасці» да 120-гадовага юбілею народнага артыста Беларусі Уладзіміра Уладамірскага, якая ладзіцца ў межах экспазіцыі «Тэатральная культура Беларусі XX стагоддзя». Дэманструецца фотаздымкі з сямейнага архіва, асабісты партрэт акцёра — пэндзля народнага мастака Беларусі І. Ахрэмчыка. Матэрыялы прадстаўлены з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры, Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы.

19 і 20 кастрычніка ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі адбыліся паказы сумеснай беларуска-швейцарска-германскай тэатральнай пастаноўкі «Танец мары» з нагоды 200-гадовага юбілею нямецкага паэта і драматурга Георга Бюхнера. Тэатральны калаж складзены з біяграфічнага матэрыялу і арыгінальных тэкстаў. У пастаноўцы распавядаецца пра трагічны жыццёвы шлях творцы. Гэты праект — яркі прыклад плённага міжнароднага творчага супрацоўніцтва.

Музей гісторыі горада Мінска і Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі прадстаўляюць выстаўку Івана Мядзведзева «Настальгія па Мінску 1950-х гадоў», прысвечаную 100-годдзю з дня нараджэння мастака. Экспануецца больш як 30 работ майстра, які працаваў галоўным мастаком Мінска з 1959 па 1967 год. Гэта пейзажныя замалёўкі беларускай сталіцы, якія з'яўляюцца, па сутнасці, мастацка-дакументальнымі гістарычнымі крыніцамі, жывымі ілюстрацыямі жыцця Мінска.

Да 20 лістапада ў галерэі «Імкненне да гармоніі» Беларускага дзяржаўнага універсітэта фізічнай культуры праходзіць выстаўка жывапісу і графікі «Палітра радасці». У экспазіцыі прадстаўлены работы ўдзельнікаў аднайменнага мастацкага аб'яднання Мінскай гарадской арганізацыі ГА «Беларускае таварыства інвалідаў» Эдмунда Вялічкі, Ганны Гадзіравай, Андрэя Яўменава, Тамары Клёс, Дзмітрыя Лазавога, Аляксея Ляпіна, Івана Пятручыка і Таццяны Свірыдавай.

Фотавыстаўку Мікалая Лінніка «Няўлоўны міг схапіць» можна пабачыць у мастацкай галерэі «VILNIUS» да 11 лістапада. Экспазіцыя прапануе гледачу аўтарскі погляд на прыроду Беларусі, дае магчымасць убачыць яе ва ўсёй разнастайнасці і багацці. Акрамя фотаздымкаў беларускіх краявідаў аўтар прадстаўляе і партрэты. Мікалай Ліннік мае намер прадэманстраваць вынікі сваёй творчасці, бо ўжо 50 год трымае ў руках фотаапарат і робіць дзіўныя, поўныя чысціні здымкі.

# Фестываль класа «А»

Кіна- або тэатральны форум, у праграме якога прадстаўлены лепшыя дасягненні сучаснага мастацтва ў пэўнай галіне, адносіцца да катэгорыі клас «А». Як мяркуюць спецыялісты, сёлетні «ТЕАРТ» цалкам адпавядае такім патрабаванням. Акрамя таго, ён выконвае шэраг місій, надзвычай важных для беларускага грамадства.

## МІСІІ — ВЫКАНАЛЬНЫЯ!

З 2011 года, калі прайшоў першы форум, «ТЕАРТ» імкнецца пазнаёміць айчынных гледачоў з найлепшымі ўзорамі сусветнага тэатральнага мастацтва. На першы погляд, такую ж мэту ставяць перад сабой і арганізатары шэрагу іншых форумаў. Але існуе асаблівасць, уласцівая менавіта беларускаму культурнаму працэсу.

У XX стагоддзі айчынны тэатр развіваўся ў рэчышчы агульнасавецкіх тэндэнцый (прычым беларуская спектаклі годна выглядалі на фоне пастановак маскоўскіх і ленінградскіх калектываў). Тэатральнаму мастацтву СССР было ўласціва дамінаванне прынцыпаў псіхалагічнага тэатра. Для сусветнага мастацтва апошні з'яўляецца толькі адным з кірункаў (хай сабе і вельмі запатрабаваным). Але беларускі тэатр, на жаль, затрымаўся ў мінулым і абсалютызаваў ідэі Станіслаўскага.

Таму ў прэзентацыйнай функцыі можна вылучыць дзве місіі. Першая — знаёмства з лепшымі замежнымі спектаклямі, пастаўленымі ў рэчышчы псіхалагічнага тэатра. Іх прагляд дапаможа параўнаць, а потым усвядоміць, якая архаіка часам ідзе на сталічнай сцэне. Але прагляд такой пастаноўкі (нават самай выбітнай) з'яўляецца адкрыццём новай планеты ў межах той самай тэатральнай галактыкі, у якой мы існуём. Таму другая місія — прагляд спектакляў, пастаўленых у іншай эстэтыцы. Яна дапамагае адкрыць іншую галактыку і зразумець яе законы. Мяркую, спробам ажыццявіць гэтыя місіі была падпарадкавана сёлетняя праграма.

Падчас яе ўвасаблення арганізатары форуму сутыкнуліся з праблемай пляцовак. Бо сцэны шэрагу стацыянарных тэатраў не адпавядалі тэхнічным патрабаванням гасцей. Выйсце знайшлі ў пашырэнні геаграфіі: сёлета спектаклі адбываліся акрамя звыклых пляцовак у кластары МЕ100, Цэнтры сучасных мастацтваў, на *Black Box* сцэне Новага драматычнага тэатра і нават у спартыўным комплексе «Дынама». Такім чынам ствараецца плацдарм для наватарскіх пастановак айчынных рэжысёраў, якія могуць прэзентавацца ўжо пасля завяршэння «ТЕАРТу».

Але перад дырэкцыяй форуму паўстала яшчэ адна задача. Не сакрэт, што прыклады сучаснага мастацтва, убачаныя на міжнародных фестывалях, часта хвалююць толькі крытыкаў і тэарэтыкаў. А практыкі хутка вяртаюцца ў звыклую сістэму каардынат. Таму ТЕАРТаўская каманда зрабіла спробу ўкараніць навацыі ў нашы рэаліі.

## БЕЛАРУСКАЯ ПРАГРАМА

Айчынны блок — бадай што абавязковая частка ў праграмах айчынных фестываляў. Галоўнае адрозненне ў працягласці і колькасці назваў у афішы. Напрыклад, падчас мінулага «ТЕАРТу» беларуская праграма абмяжоўвалася спектаклямі «Амазонія» і «Ладдзя Роспачы». Уключэннем у сёлетнюю афішу паўнавартаснага блока з 5 твораў дырэкцыя на чале з А. Крашэўскай выраšала какрэтныя мэты. Зацікавіць гледача айчыннай прадукцыяй (п'есамі, напісанымі беларускімі драматургамі і пастаўленымі з удзелам нашых рэжысёраў). Прымусіць яе параўноўваць з замежнымі пастаноўкамі. А таксама вывесці беларускія эксперыментальныя пастаноўкі на сцэну. Усе названыя мэты былі вырашаны.

Праўда, на агульную ацэнку беларускай праграмы паўплывалі і іншыя акалічнасці. Галоўная — абмежаванасць часу, адведзенага на падрыхтоўку прэм'ер. Напрыклад, на ўспрыманні спектакля «PATRIS» Цэнтра візуальных і выканаўчых мастацтваў адбілася ненастроенасць тэхнічнага абсталявання: дрэнная якасць відэа, праблемы з гукам. Пастаноўка ўспрымалася як не да канца дапрацаваная. Міжволі ўзнікалі паралелі са знакамітымі «Антыцеламі» Балтыйскага домафестывалю (спектакль, які пашчасціла ўбачыць на апошняй «Белай Вежы»). Бо падчас прагляду цалкам верылася ў натуральнасць пераўвасаблення выканаўцаў. А вось у пастаноўцы «PATRIS», на жаль, прысутнічала ўсведамленне, што перад табой акцёры, а зусім не людзі, якіх яны ўвасаблялі.

Другая праблема звязана з тым, што прадказаць узровень прэм'ерных спектакляў загадзя немагчыма. Таму іх мастацкі вынік атрымаўся розным. Напрыклад, спектакль «Кароткачасовая», які таксама з'яўляўся прадукцыяй Цэнтра, быў заснаваны на дыялогах паміж сынам і бацькам (апошні мае праблемы з памяццю). Рэжысёр С. Александроўскі запісаў на стужку галасы 50 дуэтаў, якія манатонна гучаць праз розныя навушнікі (гледачы маглі імі мяняцца). Такое рашэнне пераўтварае гісторыю з прыватнай у грамадскую, а таксама сведчыць, што яна магла адбыцца ў розных сем'ях. Але рэжысёр так і не знайшоў далейшых хадоў для развіцця цікавай задумы. Таму пастаноўка, на жаль, засталася на ўзроўні ўдалага прыёму. У дачыненні да «Кароткачасовай» можна сказаць, што атмасфера яе чакання пакуль пераўзышла канчатковае ўражанне.

А вось са спектаклем «Рамонт» тэатра «InZhest» — адваротная сітуацыя. Аўтар ідэі і рэжысёр В. Іназемцаў перанёс падзеі рамонту са сцэны ў залу (гледачы сядзелі на сцэне). Пастаноўка прывабіла стыльнасцю, надзвычай багатай пластыкай, якую дэманстравалі выканаўцы, а таксама невырагодным багаццем светлавой партытуры. Дзякуючы фантазіі пастановачнай групы зала ператварылася ў загадкавы свет багны. Але склалася ўражанне, што В. Іназемцаву крыху здрадзіла пачуццё меры. Бо матэрыялу, выкарыстанага ў «Рамонце», хапіла б як мінімум на некалькі спектакляў.


*Фота Аляксандра Дзмітрыева*

*Сцэна са спектакля «(А)палонія».*

Зразумела, факт прэм'еры міжволі стварае ажыятаж і спрыяе распаўсюджванню квіткоў. Прыезд запрошаных рэжысёраў прасцей звязаць з тэрмінамі форуму. Да таго ж наяўнасць у афішы эксклюзіўных прэм'ер уздымае ўзровень «ТЕАРТу». Але, магчыма, у далейшым варта ладзіць прэм'еры загадзя (хай для вузкага кола: крытыкаў ці дырэкцыі), каб пабачыць, ці варта паказваць іх на форуме.

Зрэшты, ад спектакляў, пастаўленых вядомымі рэжысёрамі, заўжды чакаеш мастацкага выніку. А вось на стадыі эксперымента куды больш істотны працэс пошукаў. А ён, безумоўна, меў месца.

## «ЗАЛАТАЯ МАСКА»

Асобны блок спектакляў звязаны з «Залатой маскай», самай прэстыжнай тэатральнай прэміяй Расіі. Анастасія Святлова, выканаўца галоўнай ролі ў пастаноўцы «Кацярына Іванаўна» Тэатра драмы імя Ф. Волкава (Яраслаўль), у 2011-м атрымала спецыяльную прэмію журы «Маскі». Але саму пастаноўку, на жаль, можна назваць слабым звяном у асноўнай праграме.

А вось «Лір» (пастаноўка санкт-пецярбургскага тэатра «Прытулак Камедыянта») падаўся самым спрэчным элементам сёлетняга «ТЕАРТу». Рэжысёр К. Багамолаў перанёс дзеянне трагедыі Шэкспіра ў Маскву сталінскіх часоў. У цэнтры яго ўвагі хворае савецкае грамадства, якое, нібы крамлёўская сцяна (асноўны элемент сцэнаграфіі), разбураецца літаральна на вачах у гледачоў. Вельмі паказальным з'яўляецца вобраз Ліра (яго ролю выконвае Роза Хайруліна, якая перамагла на сёлетняй «Залатой масцы» ў намінацыі «Лепшая жаночая роля»). Шэкспіраўскі герой выклікае асацыяцыі з асобамі адразу некалькіх савецкіх кіраўнікоў. У розныя моманты кароль нагадвае сваім дэспатызмам Сталіна, валюнтарызмам — Хрушчова, дзівацтвам — Брэжнева, прычым эвалюцыя выглядае надзвычай натуральна і пераканаўча. У жыцці Ліра адбіваецца ўся савецкая гісторыя, а ён становіцца сімвалам краіны.

Спектакль «Доўгае жыццё» Новага рыжскага тэатра ў 2007-м перамог на «Залатой масцы» як лепшы замежны спектакль, паказаны ў Расіі. Рэжысёр А. Херманіс вывеў на сцэну пяць старых, якія дажываюць свой век у інтэрнаце. Іх жыццё, перакананае праз неверагодна дасціпныя, камедыйныя і віртуозна выкананыя эцюды (дарэчы, увасобленыя маладымі выканаўцамі), выклікала асацыяцыю з творам А. Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». Так, падзеі «Доўгага жыцця» таксама распавядаюць пра адзін дзень, з ранку да вечара. Але больш істотна, што пісьменнік і рэжысёр вядуць гаворку пра звычайныя, а не трагічныя дні ў жыцці сваіх герояў. Але такіх дзён былі сотні, калі не тысячы! Да таго ж, раней ці пазней старыя з пастаноўкі А. Херманіса могуць дайсці да стану фізічнай немачы. Можа, таму спектакль успрымаецца надзычай жыццесцвярджальна: як гісторыя людзей, якія імкнуцца быць шчаслівымі ў любым узросце і ўмовах.

Што да «Добрага чалавека з Сезуана» Маскоўскага тэатра імя А. Пушкіна, дык сёлетняя прэм'ера ўжо цяпер лічыцца адным з фаварытаў у будучай «Залатой масцы». У свой час п'еса Б. Брэхта стала культавай пасля яе пастаноўкі Ю. Любімавым (нагадаю, менавіта «Добрым чалавекам» адкрыўся тэатр на Таганцы). Рэжысёр Ю. Бутусаў прадставіў уласную, не менш актуальную версію. У яго інтэрпрэтацыі падарунак багоў, якія аддзячылі прастытутцы Шэн Тэ за магчымасць пераначаваць, успрымаецца як шанцаванне або лёс, а не свядомае ўмяшанне ў зямныя справы. Нездарма багі нават не з'яўляюцца на сцэне. Зварот да іх — хутчэй абстрактны пошук справядлівасці, а не праява веры. Адначасова падарунак становіцца прысудам для Шэн Тэ, якая вылучаецца са свайго звыклага мяшчанскага асяроддзя, абыякавага да чужых праблем. Бо калі ў гераіні не хапае моцы пераўтварыцца ў свайго брата, жорсткага Шуй Та, высвятляецца, што дапамагчы ёй не можа ніхто. Гісторыя Шэн Тэ сімвалізуе чалавечую адзіноту. А фінальны крык з просьбай пра дапамогу ўспрымаецца як прысуд індывідуалізму, уласцівыму сённяшняму грамадству.


*Фота Аляксандра Дзмітрыева*

*Сцэна са спектакля «Лір».*

## АНТЫЧНАСЦЬ І НАШ ЧАС

На маю думку, галоўным упрыгожаннем форуму стала «(А)палонія» варшаўскага Новага тэатра, створаная рэжысёрам К. Варлікоўскім на аснове п'ес Еўрыпіда, Эсхіла і сучаснай польскай пісьменніцы Ханны Краль. Назву спектаклю дала п'еса апошняй. Апалонія — імя жанчыны, якая падчас Другой сусветнай вайны хавала ў сваім доме яўрэяў. Яе прысудзілі да смерці, але дазволілі яе бацьку ўзяць віну на сябе. Той адмовіўся, і Апалонію расстралялі. К. Варлікоўскі знаходзіць падобную сітуацыю ў старажытнагрэчаскіх міфах (напрыклад, Агамемнан прыносіць у ахвяру сваю дачку Іфігенію). Такім чынам ён прымушае думаць пра пазачасавасць праблемы і адначасова праводзіць паралелі паміж «тым» і цяперашнім часам. Акрамя таго, слова «Палонія» можа азначаць як Польшчу, так і дыяспару, якая жыве за межамі краіны. Такім чынам, гаворка ідзе пра ўсіх палякаў.

Спалучаючы прыёмы псіхалагічнага, дакументальнага і лялечнага тэатра, а таксама ўключаючы ў спектакль дадатковыя сродкі ўздзеяння (напрыклад, рок-канцэрт), К. Варлікоўскі стварае грандыёзнае, эпічнае палатно. Ён вядзе гаворку пра калектыўную адказнасць людзей (у тым ліку палякаў) за падзеі Халакосту і пра неабходнасць пакаяння.

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ БУДУЧЫНІ

На пачатку артыкула ішла гаворка пра шэраг місій, якія стаяць перад «ТЕАРТам». Напрыканцы надышоў час згадаць яшчэ пра адну: форум закладвае грунт для змен у будучыні. Для чаго яны патрэбныя?

У «(А)палоніі» меў месца эксперымент з тэкстам і выкарыстанне ў пастаноўцы матэрыялаў розных твораў. Заўважце: амаль ніхто з айчынных рэжысёраў не ідзе такім шляхам. Калі не лічыць крыху механічнай, а таму не вельмі ўдалай спробы А. Карпава-малодшага сумясціць Т. Уільямса з Ж. Кокто (спектакль «Салодкагалосая птушка… з Чалавечым голасам» у Рускім тэатры, які ўжо сышоў з рэпертуару), адзіным выключэннем застаецца творчасць Б. Луцэнкі (напрыклад, яго апошняя пастаноўка «Аракул?..»).

Але паслядоўнікаў у яго няма і ў бліжэйшым часе не з'явіцца. Сувязь паміж пакаленнямі страчана (або, кажучы словамі Б. Пастарнака з яго вольнага пераўвасаблення «Гамлета», «Порвалась дней связующая нить»). Большасць айчынных рэжысёраў 40 — 50-гадовага ўзросту (тыя, хто мусяць знаходзіцца ў росквіце сваіх сіл і ўвасабляць сённяшні ўзровень тэатра) не жадаюць ісці шляхам эксперымента. Частка з іх не разумее каштоўнасці замежных пастановак. Другія ў сто першы раз дэкларуюць вернасць псіхалагічнаму тэатру. Трэція балансуюць на мяжы забаўляльнасці. А спробу чацвёртых спыняе абыякавасць артыстаў, адсутнасць фінансавання або неабходнасць запаўняць залу.

Змены можа ажыццявіць студэнцкая моладзь з Акадэміі мастацтваў, якую арганізатары свабодна пускалі на спектаклі. Магчыма, іх маладое, больш схільнае да навацый мысленне зможа ўспрыняць убачанае і выкарыстаць яго ў айчынным кантэксце. Такім чынам, «ТЕАРТ», па вялікім рахунку, рыхтуе новае пакаленне айчынных рэжысёраў, гледачоў і крытыкаў. А тым самым уплывае на будучыню беларускага тэатра.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

# Памяняемся месцамі?

Пагадзіцеся, гэтую рэпліку можна было б пачуць з вуснаў работніка ці яго кіраўніка, калі заходзяць спрэчкі, што і як трэба рабіць. Адзін — практык, другі — узброены ведамі і аналізам існуючай сітуацыі. Хто перамагае? Як заўсёды, сяброўства? У нашым выпадку — арганічнае спалучэнне арганізацыйных і творчых ідэй з прапановамі, як усё гэта фінансава падтрымаць.

Калі гаварыць пра тэатр, то тры абавязковыя складнікі часцяком становяцца не саюзнікамі, а антыподамі. Прыкладам, ёсць ідэя, ды не хапае сродкаў на яе ўвасабленне (бо задума — фінансава ёмкая). Альбо цудоўны творчы пасыл не рэалізуецца з-за залішняга адміністравання. Такія прычыны (альбо іх варыяцыі) часта фігуруюць у тлумачэннях, чаму спектакль не атрымаўся. Можа, таму цяпер усё часцей гучаць словы ў падтрымку дзяржаўнага і прыватнага партнёрства (у пошуку талентаў, ідэй, фінансаў), мецэнацтва (як магчымасці дадатковага прыцягнення сродкаў на пастаноўкі) і творчага эксперымента.

Зразумела, у тэатры прапанову памяняцца месцамі можна разглядаць і літаральна. Самы просты ўжытковы варыянт — калі мяняюцца месцамі гледачы ў зале, каб можна было лепш убачыць сцэнічнае дзейства. Але гаворка ўсё ж пра іншае... Пра спрадвечную прагу стваральнікаў спектакля сцерці мяжу, што падзяляе прысутных у тэатры людзей на акцёраў і гледачоў і дазваляе апошнім адчуць сябе часткай вялікай агульнасусветнай супольнасці — з яе грамадскім ладам, законамі існавання, маральнымі каштоўнасцямі. Не сакрэт, тэатр (з-за таго менавіта, што прадбачыць прыход гледача на прагляд пастаноўкі) максімальна ставарае эфект прысутнасці. Ён вялікі псіхолаг, тэатр! Ці значыць гэта, што і глядач павінен ім



Фота Аляксандра Дзмітрыева

Сцэна са спектакля «Добры чалавек з Сезуана».

стаць? Ці проста назіраць за ўвасобленымі на сцэне характарамі, абстрагуючыся ад іх? Выбар робіць глядач. Але мэта драматурга, затым — рэжысёра і акцёраў, мастакоў — паспрыяць таму, каб чалавек, спасцігнуўшы сэнс убачанага і пачутага, гэты выбар зрабіў на карысць дабрыні і спагады, прыгажосці, якія б жыццёвыя перыпетыі ні ўбачыў пры гэтым са сцэны. Ці — наўкола? Тэатр жа гаворыць пра надзённае! Значыць, пра тое, што непакоіць тут і цяпер. І робіць гледача блізкім героям... блізкім нават тэрытарыяльна! Служкі Мельпамены ўсё часцей эксперыментуюць (згадайма выхад акцёраў у залу альбо, наадварот, уздым на сцэну з партэра), і ўжо насамрэч робіцца прапановы памяняцца месцамі... гледачам і акцёрам.

Менавіта такія варыянты, калі сцэна ператвараецца ў глядзельную залу, а апошняя раптам становіцца сцэнай, прапанавалі адразу некалькі творчых груп на Міжнародным тэатральным фестывалі «ТЕАРТ». Ці дало гэта чаканыя вынікі? І калі ў спектаклі тэатра «InZhest» згадвалася перадусім неабходнасць прасторавага вырашэння, то, зайшоўшы ў закулісе на прагляд спектакля «Доўгае жыццё» (Новы рыжскі тэатр, Латвія), глядач, пэўна, не ўсумніўся, што тэма старасці і адзінокасці ў старасці са звычайных мяккіх крэслаў глядзельнай залы, у якіх патанаеш, успрымалася б зусім інакш. А так старыя ў сваіх сціснутых абставінах: невялічкіх пакоях, дзе назбіралася шмат рэчаў, што часам замінаюць прайсці, з адной прыбіральняй і агульнай кухняй, ды глядач — зусім побач. Вось ён, насупраць, той свет, пра які мы прызабыліся (паказана атмасфера 1960 — 1970 гг.) ці пра які яшчэ не задумваемся (мы — маладыя, да старасці далёка). Працягні руку — і апынешся блізка ля дзвярэй, за якімі іншае, паралельнае жыццё! Пачуццё вінаватасці перад пакінутымі старымі напэўна б толькі пабольшала ад адчування, што ты, іх сучаснік, цяпер знаходзішся ў камфортных умовах. Але, думаю, не змагло б выклікаць таго шчымлівага суму, які нараджаецца, калі ты — блізка-блізка, насупраць, вочы ў вочы і можаш зірнуць на сябе і старых, не адводзячы позірку ўбок: мы ў адной культурнай прасторы! То што ж робім?! Вось максімальна ўдалая ідэя і яе вычарпальнае вырашэнне — шляхам пошуку зручнай тэатральнай пляцоўкі.

Дарэчы, гэта прыкмета не толькі часу, але і паказаных падчас фестывалю спектакляў: пошук аптымальнай сцэны, якая цяпер разглядаецца не абавязкова з пункту гледжання



Фота Аляксандра Дзмітрыева

Сцэна са спектакля «Доўгае жыццё».

ўтульнага спецыялізаванага памяшкання тэатра з адпаведнай назвай (музычны, драматычны і г. д.). Цяпер пад пастаноўкі выкарыстоўваецца нават тэрыторыя лёгкаатлетычнага манежа (спектакль «(А)палонія», прывезены з Варшавы «Новым тэатрам»). Здаецца, на падрыхтаваных пад спектакль пляцоўках змешваюцца жанры, і настроенасць на пэўны мінор ці мажор аспрэчваецца тут жа са сцэны. Няспраўджаныя чаканні? А хто вам абяцаў спакойнае жыццё (якое і адлюстроўваецца на тэатральных падмостках) — па ўстаноўленых раз і назаўсёды правілах?

«ТЕАРТ» даў магчымасць пабачыць, што адбываецца на еўрапейскай сцэне. Прыкладам, французскай, тэхнічна найбольш складанай, з выкарыстаннем тэхналогій, якія для тэатра зусім нядаўна лічыліся неверагоднымі. (Яны ў гэтым сэнсе апярэджваюць нас гадоў на 30.) «Шэпт сцен» (канцэпцыя і пастаноўка Вікторыі Цьерэ-Чаплін, Францыя, Парыж) уразіў неверагоднымі магчымасцямі і прафесійнай падрыхтоўкай акцёраў, якім даводзілася дэманстраваць адначасова і майстэрства спеваў, танца (нават стэпа!), і спартыўную падрыхтоўку ў якасці паветраных гімнастаў. Так што глядач на час мог забыцца: ён ва ўласна тэатры, альбо на танцавальным конкурсе, альбо ў цырку з заміраннем сэрца назірае за майстэрствам эквілібрыстаў. Змена дэкарацый (шыкоўных) — імгненная! Яна адбываецца на вашых вачах і здзіўляе не толькі хуткасцю пераўвасаблення, а і магчымасцю аднаго чалавека выступаць у розных амплуа!

Нешта падобнае — розныя аблічча аднаго героя — паказаў нам і Маскоўскі драматычны тэатр імя А. Пушкіна («Добры чалавек з Сезуана»). Але там — зусім іншая стылістыка, канцэпцыя, гаворка з гледачом. Хаця агульнае ўражанне — што спрычыніўся пабачыць лепшае — не пакідае дагэтуль, калі «ТЕАРТ» паставіў у фестывалі кропку. Але яго трыадзінства — паказ лепшых расійскіх спектакляў, міжнароднай праграмы і беларускіх прэм'ер — будзе чаканым і на наступны год.

**Ірына ТУЛУПАВА**

# Эксперымент — на сцэну!

У першыя дні Міжнароднага фестывалю «ТЕАРТ» адбылася сустрэча прадстаўнікоў расійскіх тэатральных колаў з беларускімі калегамі. Гутарка пра беларускую драматургію атрымалася надзённай і грунтоўнай.

Мэту акрэсліла наступную: «інфіцыраваць мясцовую публіку расійскай цікавасцю да плеяды маладых беларускіх драматургаў», якія заявілі пра сябе з пачатку 2000-х гадоў: Павел Пражко, Дзмітрый Багаслаўскі, Канстанцін Сцешык, далучаючы сюды і мэтраў — Андрэя Курэйчыка, Аляксея Дударава. Мастацтва гэтых творцаў існуе па-за «трэндамі» і аднолькава свабоднае ад канонаў традыцыйнага і эксперыментальнага тэатра. Дзякуючы ім гэтак званая новая драма на расійскай тэатральнай прасторы з маргінальнай з'явы пачала ператварацца ў мэйнстрым, але ў Беларусі пакуль мусіць абмяжоўвацца разавымі пастаноўкамі. Больш за ўсё гэта датычыць першых трох названых драматургаў. Чым вабяць яны расійскага гледача?

Трэба папярэдзіць, што ў цэнтры ўвагі пасля ўступу пра «плеяду» засталася толькі асоба Паўла Пражко — менавіта яго драматургія «стала той прасторай, у якой самаідэнтыфікуецца значная частка беларускага тэатра», — як зазначыў мадэратар сустрэчы Дзмітрый Рэнанскі, тэатразнаўца, начальнік аддзела па сувязях з грамадскасцю тэатральна-культурнага комплексу «Александрынскі». «Пражко па-асабліваму ўбачыў сучасную экзістэнцыю не натуралістычная абумоўленасць соцыумам, але непадробная дакументальнасць — яна заварожвала, і яе не было больш ні ў каго», — пацвердзіла Крысціна Матвіенка, тэатразнаўца, член экспертнага савета Нацыянальнай тэатральнай прэміі «Залатая маска». Павел Пражко «не постмадэрніст: усе яго тэксты звязаныя з яго асобай». Разам з тым, «гэта не Ён (аўтарскі розум, які над усім), не Яны (персанажы або гледачы), але фенаменальная фігура, якая дэманструе новую этыку аўтарства: тое, што М. Бахцін вызначыў як «непадзеленасць і нязлітасць», «пазазнаходжанне» <ў адносінах да тэксту і адлюстраванага соцыуму>. Ён неверагодна чалавечны і нашу чалавечнасць удасканальвае» (Алена Карась, дацэнт кафедры гісторыі рускага тэатра РАТІ-ГІТІС). «Не Аўтар-Аўтарытэт, не Творца з месіянскімі прэтэнзіямі, але аўтар з літары малой» (Крысціна Матвіенка). «Ён інтрыгуе і разам з тым выслізгвае ад якіх бы там ні было трактовак, нязменна бярэ новыя высоты і адразу ж ад іх адмаўляецца» (Вольга Шакіна, тэатральны крытык).

Чаму менавіта на беларускай глебе з'явіліся майстры, якія захапілі вельмі патрабавальную расійскую публіку — «звычайную» і прафесійную? На пытанне паспрабавала адказаць Алена Карась, адзначыўшы трывалую сувязь тэкстаў драматурга П. Пражко з «мінскім тэкстам»: «Свабодны і чысты горад нібы пусты, знаходзячыся паміж мінулым і будучым... нулявая кропка гісторыі, якая ўсмоктвае ў сябе ўсё наадварот...» (Азначэнне падалося цікавым: «наадварот», напэўна, значыць, «па-за трэндамі»? Прыемна чуць, што твой Горад сапраўды мае характар!)

Другое пытанне, якое прапанавалі абмеркаваць маскоўскія крытыкі, датычыла ўзаемаадносін традыцыйнага рэпертуарнага тэатра, «падобнага да Палаца з'ездаў», і тэатра «малога», выключна аўтарскага, не арыентаванага на арыстоцелеву драму. «Веру, што «вялікі» тэатр яшчэ можа вярнуць сабе ролю ўсенароднага Форума. Але яго не трэба злучаць з новай драмай. У той час як «вялікі» тэатр спансіруе дзяржава, новы тэатр мусіць падтрымлівацца прыватным чынам. Расійскі досвед сведчыць, што праект сучаснай драмы можа існаваць, калі ёсць калектыўная энергія «знізу» і ўзаемная воля: урэшце, ён нядорага каштуе» (Алена Кавальская, тэатразнаўца, прадзюсар, старшыня экспертнага савета прэміі «Залатая маска»).

Да слова, дзяржаўныя структуры таксама часам падтрымліваюць тэатральны эксперымент — натуральна, калі ён не выходзіць за межы карэктнасці. «Расійскі кантэкст нашмат болей рыначны ў параўнанні з беларускім, таму і дзяржаўныя тэатры не адмаўляюцца ад навізны. Усё залежыць ад таго, ці ўвайшлі новыя трэнды ў свядомасць грамадскасці. Як толькі новая драма стане часткай свядомасці дамінуючай культурнай эліты, яна стане і часткай мэйнстрыму. У любым выпадку адбываецца змена эліты, таму працэс разбурэння статус-кво «вялікага» тэатра непазбежны» (Дзмітрый Рэнанскі). «Мяркую, што мы перажываем новую сустрэчу з тэатральным мастацтвам, калі досвед, звязаны з тэатрам класічным, малазначны. Але гэта захапляе. Увогуле, перадусім існуе рэальнасць, якую мы хочам бачыць, таму ва ўсіх розная «оптыка» бачання рэчаіснасці. Мастакі ствараюць альтэрнатыўныя «оптыкі», кожны сваю. Успрыняць іх — рассунуць абмежаванасць погляду кожнага» (Алена Карась).

Пасля таго, як гутарка перайшла ў рэжым дыялогу, слова ўзяў айчынны тэатральны знаўца і крытык Вадзім Салееў. Яго меркаванне, успрынятае аб'ектыўна, здаецца, можа паслужыць пралогам да прынцыповай гаворкі на праблемную тэму ў беларускіх тэатральных колах. Беларускі глядач, на думку Салеева, памяркоўны, ураўнаважаны. П. Пражко — рэзкі драматург, вось чаму ён больш зразумелы ў Расіі. Што ж да эксперымента, «я ўсё чакаю, калі якасць яго наблізіцца да мастацкасці», — падсумаваў тэатразнаўца.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**




# Лонг-ліст «Лістапада»

In kino veritas (ісціна ў кіно) — такі слоган XX юбілейнага Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад», які пачнецца 1 лістапада і будзе радаваць кінаманаў ажно да 8 лістапада. Як паведаміў першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Карачэўскі, у гэтым годзе фэст адзначаны некалькімі знакавымі падзеямі. Правядзенне форуму супала з 85-годдзем «Беларусьфільма» і 40-годдзем айчыннай анімацыі. З нагоды двайнога свята Нацыянальная кінастудыя рыхтуе адметную экспазіцыю.

Сёлета «Лістапад» атрымаў пастаянную акрэдытацыю Міжнароднай федэрацыі асацыяцый кінапрадзюсараў. Цяпер яе мае больш як 50 кінафорумаў найвышэйшага класа. У тым ліку Берлінскі, Венецыянскі і Канскі. Галоўнае патрабаванне міжнародных экспертаў — высокая якасць арганізацыі.

Першапачаткова Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» задумваўся як кінафорум краін СНД і Балтыі. Менавіта ў такой якасці ён з'явіўся ў лістападзе 1994 года. З часам кінафестываль пашыраўся, набываў аўтарытэт і ў 2003-м афіцыйна атрымаў статус міжнароднага. Тады ў Мінск прывезлі карціны з Расіі, Польшчы, ЗША, Ірана, Сербіі, Балгарыі, Чэхіі, Кітая, Японіі.

Праграма форуму складаецца з трох секцый: ігравога, дакументальнага і дзіцячага кіно, якое прапануецца публіцы ў межах двух конкурсаў: асноўнага і конкурсу маладога кіно. У асноўны конкурс «Лістапада» запрашаюцца фільмы-ўдзельнікі і прызёры самых прэстыжных кінафэстаў свету. Конкурс маладога кіно прадстаўляе калекцыю дэбютных работ аўтараў, якія ўжо заваявалі прызнанне прафесіяналаў і гледачоў. Форум таксама дорыць шырокую праграму пазаконкурсных і рэтраспектыўных паказаў, сустрэчы, майстар-класы, выстаўкі і вернісажы, у яго межах праходзіць конкурс дзіцячага і юнацкага кіно «Лістападзік».

У гэтым годзе арганізатары кінафестывалю «Лістапад» падрыхтавалі самыя новыя кінахіты. «Мы змагаліся за вельмі многія карціны. Я шчаслівы, што практычна ўсё, што хацелі, атрымалася. Мы паспрабуем на працягу тыдня зрабіць марш-кідок. Прапануем толькі лепшае аўтарскае кіно», — зазначыў праграмны дырэктар ігравога кіно форуму Ігар Сукманаў. Ён дадаў, што раней у фестывальную праграму «Лістапада» ўваходзілі карціны апошніх 2 — 3 гадоў, цяпер жа акцэнт зроблены на самых свежых фільмах.

Абвяшчаючы конкурсную праграму юбілейнага кінаагляду, І. Сукманаў падкрэсліў, што многія фільмы, адабраныя на Мінскі кінафестываль, трапілі ў лонг-ліст «Оскара». У асноўным конкурсе будзе ўдзельнічаць фільм «Урокі гармоніі» Эміра Байгазіна, «Дзеці святара» Вінко Брэшана, карціна Аляксандра Велядзінскага « Географ глобус прапіў», «Па крузе» Срдана Галубовіча, «Роля» Канстанціна Лапушанскага, «Вечнае вяртанне» Кіры Муратавай, «Іда» Паўла Паўлікоўскі, «Калі ў Бухарэсце надыходзіць вечар, або Метабалізм» Карнэліу Парумбою, «Гэта не я» Марыі Саакян, «Мой сабака Кілер» Міры Форнай, «Дакрананне граху» Цзя Чжанкэ. Для Паднябеснай гэта будзе дэбют на кінафоруме ў Мінску. Адкрые праграму драма «Параджаноў» рэжысёраў Сержа Авэдзікяна і Алены Фяцісавай, намініраваная на прэмію «Оскар-2014» ад Украіны. Журы ўзначаліць расійскі кінарэжысёр, удзельнік кінафэстаў у Венецыі і Берліне Аляксандр Зяльдовіч, аўтар такіх вядомых работ, як «Масква» і «Мішэнь».

Характэрна, што Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм» упершыню будзе прадстаўлена ва ўсіх конкурсных праграмах юбілейнага XX Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад». Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар кінастудыі Алег Сільвановіч.

Гэтым разам конкурс фільмаў для дзіцячай і юнацкай аўдыторыі «Лістападзік», які пройдзе 2 — 5 лістапада, разбурыць стэрэатыпы пра дзіцячае кіно. «Адна з мэт конкурсу — разбурыць стэрэатып пра тое, што дзіцячае кіно належыць выключна дзецям. Гэта не зусім так. У свеце здымаецца шмат карцін, цікавых для самай рознай аўдыторыі», — такое меркаванне выказаў Ігар Сукманаў, адзначыўшы, што пасля прагляду конкурснай праграмы дарослым будзе пра што пагаварыць не толькі з дзецьмі, але і паміж сабой. Адкрые творчыя спаборніцтвы «Лістападзіка» гульнявы поўнаметражны фільм рэжысёра Алены Туравай «Кіндэрвілейскі прывід» («Беларусьфільм») па матывах навелы Оскара Уайльда. Старшынёй журы конкурсу фільмаў для дзіцячай і юнацкай аўдыторыі будзе рэжысёр і актрыса Галіна Данелія.

Паводле Ігара Сукманава, кінафестываль «Лістапад» імкнецца быць не проста кірмашом карцін, а закладваць асновы кінаіндустрыі. Арганізатар звярнуў увагу на пазаконкурсныя паказы ігравога кіно. Дырэкцыя кінаагляду ў перспектыве плануе пашырыць фэст і дадаць намінацыю «кароткі метр».

Таксама ў гэтым годзе на фестывалі пройдзе ўнікальная рэтраспектыва — класіка беларускага кіно з калекцыі Дзяржфільмафонда Расіі. Гледачы змогуць убачыць фільм Уладзіміра Гардзіна «Кастусь Каліноўскі», «У агні народжаная» Уладзіміра Корш-Sабліна і «Прастытутка (Забітая жыццём)» Алега Фрэліха. Гэта рарытэт, копіі 35 мм, тое, што практычна недаступна шырокаму гледачу.

Усе фестывальныя паказы пройдуць у кінатэатрах «Цэнтральны», «Мір», «Піянер», «Перамога» і ў Доме кіно. Арганізатарам форуму выступае Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АРТ Карпарэйшн». Заснавальнікі — Міністэрства культуры Беларусі, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт пры ўдзеле Белтэлерадыёкампаніі, Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм», Беларускага саюза кінематаграфістаў.

**Таццяна ШЫМУК**

# Артыстычная калонія Сольнака

З 23 кастрычніка па 18 лістапада ў Нацыянальным мастацкім музеі ўпершыню ў Беларусі экспануецца выстаўка «Венгерская рапсодыя. Мастакі Сольнака». У гонар гадавіны рэвалюцыі і вызваленчай барацьбы ў Венгрыі 1956 года, а таксама Дня абвяшчэння Венгерскай рэспублікі з калекцыі Дзяржаўнага музея імя Янаша Дам'яніча горада Сольнака (Венгрыя) прадстаўлена больш як 30 твораў дваццаці чатырох венгерскіх мастакоў.

Сольнак — абласны горад за 80 км ад Будапешта, дзе 180 гадоў таму была закладзена ўнікальная традыцыя: у спецыяльнай гасцініцы пасяліліся і пачалі працаваць над карцінамі мастакі з Венгрыі і ўсяго свету. Сёння гэты ўнікальны мастацкі цэнтр актыўна падтрымлівае Міністэрства культуры Венгрыі. Заснаваная ў 1902 годзе «мастацкая калонія» да гэтага часу з'яўляецца важным цэнтрам пейзажнага і жанравага жывапісу ў цэнтральнай Венгрыі, у рэгіёне Паўночны Альфёльд. Больш як за векавую гісторыю свайго існавання тут выхавалася не адно пакаленне выдатных майстроў нацыянальнага выяўленчага мастацтва, сярод якіх Ласла Меднянскі, Шандар Біхары, Ферэнц Олдзяі, Даніэль Міхалік, Лаяш Сланы, Карай Понграц, Адольф Феньеш, Лаяш Зомбары, Іштван Задар і многія іншыя.

Жыццё вызначаецца статусам творчага саюза, створанага ў Сольнаку 28 красавіка 1901 года. У майстэрнях працуюць як пастаянныя члены калоніі, так і запрошаныя мастакі, а студэнты Каледжа венгерскага выяўленчага мастацтва праводзяць тут летнія канікулы, падчас якіх вучацца партрэтнаму жывапісу, мастацтву пейзажа і анімалістычнаму жанру. Вынікі творчых пошукаў дэманструюцца на рэгулярных летніх і зімовых выстаўках у Сольнаку.

Экспазіцыя «Венгерская рапсодыя. Мастакі Сольнака» знаёміць з найбольш цікавымі перыядамі — ад 1900-х да 1970-х гадоў. Найкаштоўнейшымі экспанатамі з'яўляюцца раннія (1900 — 1930-я гады) творы Ласла Меднянскага, Ферэнца Олдзяі, Петэра Сыле, Вілмаша Аба-Новака, Іштвана Задара.

На тэрыторыі нашай краіны выстаўка прабудзе да чэрвеня 2014 года.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**



*Лаяш Сланы «Дом у Сольнаку». Палатно, алей.*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2601
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 24.10.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4386
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686